**АЛФАВІТНЫ ПЕРАЛІК СЛОЎ**[1]

**Абарона.** Лепшы спосаб абароны — нападзенне.
Самая лепшая абарона — нападзенне.

**Абед.** Абед на абед не тое, што кій на кій.
Дарагая (дорага) лыжка к абеду.
Не дораг абед, а дораг прывет.

**Абедаць.** Абедаў, а жывот не ведаў.
Ніхто не ведае, як хто абедае.

**Абедня.** Глухому дзве абедні не служаць.
Для глухога дзвюх абедзень не служаць.

**Аб'ехаць.** Суджанага і канём не аб'едзеш.
Што каму суджана, <дык і пехатою > таго не абойдзеш і <з канём> не аб'едзеш.

**Аблічча.** Па аблічча апостал, а па зубах сабака.

**Абора[1].** За пераборы лапці ды аборы.

**Абора[2].** Калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ.

**Абрастаць.** На адным месцы і камень <мохам> абрастае.

**Аброк.** Кось-кось да аброку, а потым кіем па боку.

**Абрэзаць.** Міл (мілы, дораг) той куток, дзе абрэзалі (рэзалі) пупок.

**Абуваць.** Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так.

**Абух.** Пугай абуха не пераб'еш.

**Абысці.** Што каму суджана, <дык і пехатою> таго не абойдзеш і <з канём > не аб'едзеш.

**Абысціся.** Абыдзецца без марцыпанаў цыганскае вяселле.

**Абычай.** Што <ні> край, то <і, свой> абычай (звычай).

**Абяцанка.** Абяцанка-цацанка, а дурню радасць.
Абяцанкі-цацанкі, а дурню (дурному) радасць.

**Абяцаны.** Абяцанага тры гады чакаюць.

**Авечка.** Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць.
<Адна> паршывая (шалудзівая, паганая) авечка (аўца) увесь статак (гурт, усю чараду) псуе (сапсуе).
З паршывай (шалудзівай) авечкі хоць шэрсці (воўны, поўсці) клок (касмык).

**Авечы.** Адальюцца воўку авечыя слёзкі (слёзы).

**Аганец.** Кожны курэц павінен мець свой аганец і тытунец.

**Агарод.** Не выбірай дзеўку ў карагодзе, а ў агародзе.
У агародзе (гародзе) бузіна, а ў Кіеве дзядзька.

**Агінацца.** На бога спадзявайся, а (ды) сам не давайся (не агінайся, не зявай).

[1] Сюды ўключаны толькі значымыя словы (назоўнікі, прыметнікі, лічэбнікі, займеннікі, дзеясловы і прыслоўі), якія ўваходзяць у загаловачныя прыказкі або ў іх варыянты. Гл. пра гэта больш падрабязна на с. 19.



kamunikat.org

**Аглобля.** Кось-кось (кося-кося, косю-косю), пакуль (ды) у аглоблі.

**Агонь.** Агонь агнём не тушаць.

Дыму без агню не бывае.

Злодзей хоць вуглы пакіне, а агонь усё забярэ.

Пажар (агонь) агнём не тушаць (не гасяць).

**Агрызак.** Здраднік за агрызкі прадасць родных і блізкіх.

**Адарвацца.** Да пары збан (жбан) ваду носіць <ручка (вушка) адарвецца — збан паб'ецца>.

**Адбіраць.** Цянькі адбіраюць дзянькі.

**Адвага.** Смеласць (храбрасць, адвага) гарады бярэ.

**Адводзіць.** Іскру тушы да пажару, бяду адводзь да ўдару.

**Адгукнуцца.** Як гукнеш, так і адгукнецца.

**Аддаць.** Не пад'ясі — і залатую фурманку аддасі.

**Адзежа.** Па адзежы сустракаюць, а па розуму праводзяць.

**Адзежка. І** рыбы не хачу, а адзежкі не змачу.

Каб не ежка ды адзежка, была б грошай поўна дзежка.

**Адзенне.** Па адзенні страчаюць, а па розуму праводзяць.

**Адзін, адна, адно.** Адзін дурань можа задаць (задасць) столькі пытанняў, што дзесяць (сем) разумных не адкажуць.

Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго.

Адзін з'еш хоць вала, <дык> адна хвала <а пакрысе, ды ўсе>.

Адзін і ў кашы няспорны.

Адзін Сцяпан — заўсёды пан, а калі і нястача, дзіця не плача.

Адзін сын — не сын, два сыны — палова сына (паўсына), тры сыны — сын.

Адзін у полі не воін.

Адна бяда не ідзе, другую за сабой вядзе.

Адна бяда не ходзіць <другую за сабою водзіць>.

Адна галава добра, а дзве <яшчэ> лепш (лепей).

Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць.

Адна галавешка і ў печы не тлее (не гарыць).

Адна ластаўка вясны не робіць.

<Адна> лыжка дзёгцю псуе бочку мёду.

Аднаму густа, а другому пуста.

<Адна> паршывая (шалудзівая, паганая) авечка (аўца) увесь статак (гурт, усю чараду) псуе (сапсуе).

Адно дзіця — не дзіця, двое дзяцей — паўдзіцячы трое дзяцей — гэта дзіця.

Адно дзіця — няма дзяцей, двое дзяцей — што адно, а трое — сям'я.

Адной рукой і вузла не завяжаш.

Адну карову мае і тую за хвост падымае.

Адны пануюць, другія гаруюць.

Два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць.

Дзвюм смерцям (смярцям) не бываць, <а> адной не мінаваць.

За <аднаго> бітага двух нябітых даюць.

За двума зайцамі пагонішся, ніводнага (ні аднаго) не зловіш.

Злодзею адна дарога, а хто шукае, таму многа.

Куляй у аднаго пацэліш, а трапным словам у тысячу.

Лепш (лепей) <адзін> раз убачыць (пабачыць), чым сто разоў пачуць.

Муж і Жана — адна сатана.

На адным месцы і камень <мохам> абрастае.

Напрасткі <адна> варона лятае, затое (ды) <ніколі> дома не бывае.



Kamunikat.org

Не адзін Гаўрыла <што> у Полацку.
Сем бед — адзін атвет.
Сем бед за раз — адзін адказ.
Сямёра аднаго не чакаюць.
У каго сем — тым і доля ўсем, а ў каго адно — і тое не ладно.
Усе бабры дабры, адна выдра ліхая.
Усе за аднаго і адзін за ўсіх.
Усе чэрці адной шэрсці.
Ці за адну нагу вісець, ці за дзве — адна ласка.
Чорт бяду перабудзе — адна згіне, дзесяць будзе.
Чорт не адны лапці (не адну пару лапцей) стаптаў, пакуль (покуль) такую пару дабраў (сабраў).
Што два, то не адзін.
Шчасце адно не ходзіць, бяду за сабою водзіць.

**Адзіны.** Не хлебам адзіным жыве чалавек.

**Адказ.** Сем бед за раз — адзін адказ.

**Адказаць.** Адзін дурань можа задаць (задасць) столькі пытанняў, што дзесяць (сем) разумных не адкажуць.

**Адкаціцца.** Яблык ад яблыні далёка не адкоціцца.

**Адклад.** Адклад не ідзе на (у) лад.
З адкладу няма ладу.

**Адкладваць.** Ніколі не адкладвай на заўтра, што можна зрабіць сёння.
Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра.

**Адкуль.** Адкуль сіраце бацьку ўзяць.

**Адкупіцца.** Ад смерці не адкупішся.

**Адліцца.** Адальюцца воўку авечыя слёзкі (слёзы).

**Адмарозіць.** Марац адмарозіць палец.

**Адмераць.** Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж.

**Адмыць.** Рукі пабрудзіш — вадою адмыеш, душу забрудзіш — і мыла не паможа.

**Аднакі.** Жыве кот і сабака, ды жытка не аднака.

**Адвароце** Жонка не рукаў (не рукаво), не адпораш.

**Адразу.** Не адразу Масква будавалася.
Чалавек не арэх, адразу не раскусіш.

**Адракацца.** Ад торбы (ад сумы) і (ды) ад турмы не адракайся (не заракайся).

**Адростак.** Які куст, такі і адростак.

**Адрэзаць.** Адрэзанае лусты не прылепіш (не прыклеіш).
Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж.

**Адсюль.** <І> адтуль горача (гарачо), <і> адсюль боляча (балячо).

**Адтуль.** Адтуль горача, адсюль боляча.

**Адысці.** Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа ісці (адысці).

**Ажаніцца.** Ажаніцца — не ўпасці: не ўстанеш, не атрасешся.
Не кайся, што рана ўстаў або маладым ажаніўся.

**Ажаніць.** Без мяне мяне жанілі (ажанілі) <мяне дома не было>.

**Айчым.** У айчыма чэрці пад вачыма.

**Аконца.** Загляне сонца <і> у наша аконца.

**Аладка.** Дзе каша ды аладка, там і грамадка.
Каму што, а Базылю аладкі.

**Алей.** Дзень з алеем, а тыдзень так Галеем.

**Андарачок.** Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку.

**Апарыцца.** Хто апарыцца на малацэ, той і на ваду дзьмухае.

**Апасці.** Прыйшоў Пятрок — апаў лісток; прыйшоў Ільля — апала два.

**Апетыт.** Апетыт прыходзіць у час (у часе) яды.

**Апостал.** Па аблічча апостал, а па зубах сабака.

**Апошні.** <Добра> смяецца той, хто смяецца апошні.
Не ён першы, не ён апошні.
Не мы першыя, не мы апошнія.
Не ты першы, не ты апошні.
Не я першы, не я апошні.
Як багаты памрэ, то і апошні з хаты прэ, а як бедны худачок — толькі попік ды дзячок.

**Апускацца.** Апускайся, куме, на дно.

**Апячыся.** Апёкшыся малаком, ваду студзяць.
Апёкшыся на малацэ, дык і на халодную ваду дзьмуць будзеш.
Апёкшыся на малацэ, <і> на ваду дзьмеш (дзьмухаеш).

**Араць.** Дурняў не аруць, не сеюць, яны самі родзяцца.
Чым чорт не араў, тым <і> сеяць не стаў (не будзе).

**Арганіст.** **Я** не музыкант (не арганіст), не перабіраю.

**Аржаны.** Аржаная каша сама сябе хваліць.

**Арол.** Арлу з савой не па дарозе.

**Арэх.** Вочы па яблыку, <а> галава з арэх.
Не раскусіш арэх, зерня ńе з'ясі.
Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў.
Чалавек не арэх, адразу не раскусіш.

**Асенні.** Няма злей асенняй мухі і дзеўкі-векавухі.

**Асіна.** Для прадажнай псіны кол з асіны.

**Асліны.** Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала.

**Астатні.** Першая <чарка> калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць (астатнія паляцяць дробнымі птушачкамі).

**Астрыгчы.** Пайшоў па воўну, а вярнуўся стрыжаны (пастрыжаны, астрыжаны).

**Астыць.** Куй жалеза, пакуль не астыла.

**Атаман.** Цярпі, казак, атаманам будзеш.

**Атвет.** Сем бед — адзін атвет.

**Атоса.** Ні калёс, ні атос, і воўк кабылу панёс.

**Атрэсціся.** Ажаніцца — не ўпасці: не ўстанеш, не атрасешся.

**Аўца.** <Адна> паршывая (шалудзівая, паганая) авечка (аўца) увесь статак (гурт, усю чараду) псуе (сапсуе).
Маладзец супраць (супроць, сярод) авец, а супраць (супроць) малайца — сам аўца.

**Аўчына.** Аўчына вырабу не варта.

**Ахвота.** Ахвота горш за няволю.
Хвароба — мігрэнь: жраць ахвота, а працаваць лень.

**Ашуканства.** Ашуканствам можна свет прайсці, але назад не вернешся.

**Баба.** Баба з воза — каню (кабыле) лягчэй.
Баба з калёс — калёсам лягчэй.
Дай жонцы (бабе) волю — завядзе ў няволю.
Дзе чорт <сам> не зможа (не можа), туда (там) бабу пашле.



Kamunikat.org

Карову б’юць за зык, а бабу за язык.
Курыца не птушка, а баба не чалавек.
Мароз сем баб павёз.
На чужой старане і жук мяса <і старая баба — маладзіца>
Не мела баба клопату, <дык> купіла парася.
Ні села, ні пала, дай, баба, сала.
Ні села, ні пала, захацела баба сала.
У бабы валасы доўгія (волас доўгі), а розум кароткі (памяць кароткая).
Чакай, баба, Пятра — будзеш сыр есці.

**Бабёр.** Калі заб’еш бабра, то не будзе табе дабра
Усе бабры дабры, адна выдра ліхая.
Хто заб’е бабра, не будзе мець дабра.

**Бабін.** Што <будзе> міру, тое (то) і бабінаму сыну.

**Багата.** Госць мала гасцюе, ды багата бачыць.

**Багаты.** Багатаму і чорт у кашу дбае.
Багатаму чорт дзяцей калыша.
Багатаму шкада (шкода) карабля, а беднаму — кашаля.
Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.
Брат любіць сястру багатую, а мужык (муж) жонку здаровую.
З багатым не варта судзіцца, а з дужым біцца.
З дужым не дужайся, з багатым не судзіся.
Не плаціць багаты, а вінаваты.
Няхай багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.
Пакуль (покуль) з багатага пух, то (дык) з беднага дух.
Увосень і верабей багаты.
Хоць крывое ды гарбатае, абы слаўнае ды багатае.
Чым багаты, тым і рады.
Чым хата багата, тым і рада.
Як багаты памрэ, па тры з хаты прэ, а як бедачок — толькі поп ды дзячок.
Як багаты памрэ, то і апошні з хаты прэ, а як бедны худачок — толькі попік ды дзячок.

**Багацець.** Дзе людзі бяднеюць, там паны багацеюць.

**Багацце.** За багацце розуму не купіш.

**Бадлівы.** Бадлівай карове бог рог не дае.

**Базыль.** Каму што, а Базылю аладкі.

**Байка.** Салавей байкамі не сыты.
Салаўя байкамі (песнямі) не кормяць.

**Балець.** Ад прыбытку галава не баліць.
Гаманіць галава не баліць.
З паклону (з паклонаў) галава (галоўка) не баліць.
Калі робіш у купе, не баліць у пупе.
Карова целіцца, а ў быка зад баліць.
Рабіць у купе — не баліць у пупе.
Чужая болька (рана) не баліць.
Што ў каго (каму) баліць, той пра тое (аб тым) і гаманіць (гаворыць, крычыць).

**Балота.** Было б балота, а чэрці знойдуцца.
Кожны кулік сваё балота хваліць.
У ціхім балоце чэрці водзяцца (вядуцца).

**Балячо.** <І> адтуль горача (гарачо), <і> адсюль боляча (балячо).



Kamunikat.org

**Барада.** Сівізна ў бараду, а чорт у рабрыну.
Служыў да вуса, служы і да барады.

**Баразна.** Стары вол (конь) баразны не псуе (не сапсуе).

**Баран.** Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць.
І баран бы касіў, каб хто касу насіў.

**Бараніць.** Усякая птушка сваё гняздо бароніць.

**Баўтун.** З твару яйка (яйцо), а ўсярэдзіне баўтун.

**Бацька.** Адкуль сіраце бацьку ўзяць.
Зімняя ночка — бацьку сарочка.
Калі бацька рыбак, то і сын глядзіць на ваду.
Кожны плача па сваім бацьку, як умее.
Хто як хоча, так па свайму бацьку плача.
Які дуб, такі і тын, які бацька, такі і сын.
Якое дрэва, такі <і> клін, які бацька, такі <і> сын.

**Бачком.** Ехаўшы бачком, ні з кім не зачэпішся.

**Бачна.** Бачна па вочках, што ходзіць па ночках.

**Бачыць.** Бачым сучок у воку брата свайго, а бервяна ў сваім не заўважаем.
Бог не цяля, бачыць (пазнае) круцяля.
Госць мала гасцюе, ды багата бачыць.
Ліса спіць і курэй бачыць.
На сонца ўсе роўна глядзім, ды не ўсе роўна бачым.
Рыбак рыбака бачыць здаляка.
Свайго гарба ніхто не бачыць.
У чужым воку саломку (саломінку) бачым, а ў сваім <і> бервяна не заўважаем.
Хапіў з дзежкі, аж не бачыць сцежкі.
Хто новага не бачыў, той старому рад.
Чаго ж бы плакаў слеп, каб бачыў свет (след).
Чуў, кум, сонца, бачыў гром?

**Баязлівы.** Баязліваму і корч мядзведзь.
На смелага сабакі брэшуць, а баязлівага рвуць.

**Баяцца.** Бойся быка спераду, каня ззаду, а дурня — з усіх чатырох бакоў.
Ваўкоў (ваўка, воўка) баяцца — у лес не хадзіць.
Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць.
Голы разбою не баіцца.
Горш, калі баішся, і ліха не мінеш, і надрыжышся.
Дзела дзельніка (справа майстра) баіцца.
Калі п’яны (як п’яны), дык капітан, а калі (як) праспіцца, дык свінні баіцца.
Напалоханая варона і вераб’я баіцца.
Нашто богу маліцца, — ён нас і так баіцца.
Не баішся ківа, пабаішся кія.
Не бойся таго сабакі, што брэша, а бойся таго, што лашчыцца.
Не руш чужога і не бойся нікога.
Не чапай нічога і не бойся нікога.
Пужаная варона <і> куста баіцца.
Хто капейкі не беражэ, таго рубель баіцца.

Kamunikat.org

**Бегчы.** Добрая слава на паліцы ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць.
На лаўца і звер бяжыць.
Нязнайка ляжыш», а знайка бяжыць.
Пад ляжачы камень вада не цячэ (не пацячэ, не бяжыць, не пабяжыць).

**Бедачок.** Як багаты памрэ, па тры з хаты прэ, а як бедачок — толькі поп ды дзячок.

**Бедка.** Малыя дзеткі — малыя бедкі <падрастуць дзеткі — падрастуць і бедкі>.

**Бедны.** Багатаму шкада (шкода) карабля, а беднаму — кашаля.
Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.
Беднаму (няшчаснаму) Івану няма нідзе талану.
Калі беднаму жаніцца, <то і> ноч кароткая.
Няхай багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.
Пакуль (покуль) з багатага пух, то (дык) з беднага дух.
Як багаты памрэ, то і апошні з хаты прэ, а як бедны худачок — толькі попік ды дзячок.

**Белы.** Урадзілася цяля з белаю лацінкаю на лбе, так яно і памрэ.
Ядзім хлеб траякі: чорны, белы і ніякі.

**Бераг.** Ціхая вада берагі мые.

**Берагчы.** Беражонага <і> бог беражэ.
Капейка рубель беражэ.
Хто капейкі не беражэ, таго рубель баіцца.

**Бервяно.** Бачым сучок у воку брата свайго, а бервяна ў сваім не заўважаем.
У чужым воку саломку (саломінку) бачым, а ў сваім <і> бервяна не заўважаем.

**Біцца.** З багатым не варта судзіцца, а з дужым біцца.
Паны б'юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць.

**Біць.** Даюць — бяры, б'юць — уцякай.
Дурня і ў царкве б'юць.
За <аднаго> бітага двух нябітых даюць.
За спрос не б'юць у нос.
Карову б'юць за зык, а бабу за язык.
Кошку б'юць — нявестцы намёкі даюць.
Сама сябе раба б'е, калі (што) нячыста жне.
Як даюць, то бяры, а як б'юць, то ўцякай.

**Благата.** Добраму чалавечку добра і ў запечку <а благой (якой) благаце дрэнна і на куце>.

**Благі.** Добраму чалавечку добра і ў запечку <а благой (якой) благаце дрэнна і на куце>.
Добрая слава на паліцы ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць.

**Блізка.** Блізка (блізкі) локаць, ды (а) не ўкусіш.
Блізка відаць, ды далёка дыбаць.
Гусі нізка — зіма блізка.
Свая кашуля (сарочка, рубашка) бліжэй да цела.
Цярпі, Грышка, карчма блізка.
Што дзень — бліжэй да смерці.

**Блізкі.** Блізка (блізкі) локаць, ды (а) не ўкусіш.
Здраднік за агрызкі прадасць родных і блізкіх.

**Блін.** Калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ.



Kamunikat.org

Першы блін выйшаў камяком.

**Блішчаць.** Золата і ў смецці (у попеле) блішчыць.
Не ўсё тое золата, што блішчыць.

**Блудзіць.** Хто пытае, той не блудзіць.

**Боб.** Дзяк не поп, бярэ і боб.
Хто ў боб, <а> хто ў гарох <а хто (ты) у сачыўку>.

**Бог.** Бадлівай карове бог рог не дае.
Без бога ні да парога.
Беражонага <і> бог беражэ.
Бога хвалі і чорта не гняві.
Бог даў, бог і ўзяў.
Бог лесу не зраўнаваў, а то людзей ты зраўнуеш.
Бог лесу не зраўняў, не тое што людзей.
Бог не без літасці, казак не без шчасця.
Бог не выдасць (не дасць, не папусціць, не прадасць), свіння не з’есць.
Бог не роўна дзеліць.
Бог не цяля, бачыш» (пазнае) круцяля.
Бог сіротак любіць, але долі не дае.
Бог тройцу любіць.
Бог цярпеў і нам вялеў.
Бог шэльму меціць.
Ведаў бог, каму не даў рог.
Госць у дом, бог у дом.
Да бога высока, да цара (да пана) далёка.
Дай божа (бог) нашаму цяляці ваўка (воўка) спаймаці (з’есці).
Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа — не дай божа.
Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі (нядобры) памаўчаць.
Дасхц, бог дзень, дасць і полудзень (хлеб, ежу, пажытак).
Даў бог цяля, ды не даў хлява.
Дзе госць, там і бог ёсць.
Загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб’е.
Застаў дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб’е.
Зляпіў бог душу — ні ў пень, ні ў грушу.
<І> бога хвалі і чорта не гняві.
На бога спадзявайся, а (ды) сам не давайся (не агінайся, не зявай).
На каго бог, на таго і людзі.
На табе, божа (нябожа), што нам (мне) нягожа.
Нашто богу маліцца, — ён нас і так баіцца.
Не дай бог свінні рог, а мужыку панства.
Не святыя (не багі) гаршкі лепяць.
Пакуль да бога, дык (то, так) чорт душу выме.
Пашлі дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб’е.
Першая жонка ад бога, другая ад людзей, а трэцяя ад чорта.
Плакаў, плакаў, а бог быў аднакаў, пачаў танцаваць, пачало шанцаваць.
Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў.
Сцеражонага <і> бог сцеражэ.
У бога дзён многа.
Усе <мы> пад богам ходзім.
Уткні мяне, божа, куды мне не трэба.
Хто па ядзе (пад’еўшы) не аддыша, таго бог за свінню запіша.
Хто рана ўстае, таму <і> бог дае.
Чым чорт не жартуе, калі (пакуль) бог спіць.



Kamunikat.org

<Што> дзень (дзянёк) пражыў, то і дзякуй богу.
Як трывога, тады (дык) да бога.

**Божа.** Гл. бог.

**Бойка.** Калі пайшоў у бойку, дык чуба не шкадуй.
Пайшоў у бойку, чупрыны не шкадуй.
Пасля бойкі кулакамі (рукамі) не махаюць.

**Бок.** Бойся быка спераду, каня ззаду, а дурня — з усіх чатырох бакоў.
Кось-кось да аброку, а потым кіем па боку.
Мінуліся тыя рою, калі паны браліся ў бокі.

**Бокам.** Хто глядзіць вокам, той не пойдзе бокам.

Болей. Гл. больш.

**Болька.** Чужая болька (рана) не баліць.

**Больш, болей.** Вось табе (вам) хамут і дуга, <і, а> я табе (вам) <болын, болей> не слуга.
Далей у лес — болей дроў.
Меней (менш) гавары — болей (больш) пачуеш.
Паранены звер страшны (яшчэ больш небяспечны).
Пераначуем, болей пачуем.
Раней устанеш — болей зробіш.
Чым далей у лес, тым болей (больш) дроў.

**Большы.** Малыя дзеці — малы клопат <большыя дзеці — большы клопат >.
Хай конь думае: у яго галавая большая (вялікая).

**Боляча.** <І> адтуль горача (гарачо), <і> адсюль боляча (балячо).

**Бор.** Кожная сасна свайму бору песню спявае.

**Боршч.** Еш пірог (боршч) з грыбамі, а язык трымай за зубамі.

**Босы.** Калі маеш грошы, то не будзеш босы.
Служка ў лапцях, а я (пан) босы.

**Бот.** Бот лапцю не пара.
На назе бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць.
Шавец заўсёды <ходзіць> без ботаў.
Шавец у падзёртых ботах ходзіць.

**Бочка.** <Адна> лыжка дзёгцю псуе бочку мёду.
Бяздоннай бочкі (бяздонную кадушку) не напоўніш.

**Брат.** Бачым сучок у воку брата свайго, а бервяна ў сваім не заўважаем.
Брат любіць сястру багатую, а мужык (муж) жонку здаровую.
Добры сусед раднейшы за роднага брата.

**Брахаць.** Брахаць — не цэпам махаць.
На голага <і> сабакі брэшуць.
На смелага сабакі брэшуць, а баязлівага рвуць.
Не бойся таго сабакі, што брэша, а бойся таго, што лашчыцца.
Сабака брэша — вецер носіць.
Як сабаку кормяць, так сабака і брэша.

**Брацішка.** У **кар Цішкі няма брацішкі.**

**Брацца.** Мінуліся тыя рокі, калі паны браліся ў бокі.

**Браць.** Воўк і лічанае бярэ.
Воўк каля (паблізу) свайго логава не бярэ (не шкодзіць).
Даюць — бяры, б’юць — уцякай.
Дзіця за руку бярэш — маці за сэрца.
Дзяк не поп, бярэ і боб.
Едзеш на дзень, бяры хлеба на тыдзень.

Kamunikat.org

За спрос платы не бяруць.
Прыйшоў Мікола, не пытай ні ў кога, бяры сявеньку і (ды) сей памаленьку.
Смеласць (храбрасць, адвага) гарады бярэ.
Стары кажа на глум, а малады бярэ на вум.
Як даюць, то бяры, а як б'юць, то ўцякай.

**Брод.** З чужога воза і сярод гразі (броду) злазь (злазяць, злезеш).
Не ведаючы (не зведаўшы) броду, не суньса ў воду.

**Брудны.** Бруднае (паганае) да чыстага не прыстае (не прыстане).

**Брыгадзір.** Брыгадзір капейкі не варт, калі чарцы рад.

**Брытва.** Калі (як) топішся, дык (то) за брытву хопішся (ухопішся).
Хто топіцца, той за брытву хопіцца.

**Брэх.** Вялікага сабакі вялікі брэх.

**Бубен.** Славен бубен за гарамі.

**Будавацца.** Не адразу Масква будавалася.

**Будан.** З мілым (з любым) рай і ў шалашы (у будане).

**Будзе.** Гл. быць.

**Бузіна.** У агародзе (гародзе) бузіна, а ў Кіеве дзядзька.

**Бура.** Хто сее (пасее) вецер, той пажне буру.

**Бываць.** Дзвюм смерцям (смярцям) не бываць, <а> адной не мілаваць.

**Бык.** Бойся быка спераду, каня ззаду, а дурня — з усіх чатырох бакоў.
Карова целіцца, а ў быка зад баліць.

**Быць.** Альбо дожджык, альбо снег, альбо будзе, альбо не.
Апёкшыся на малацэ, дык і на халодную ваду дзьмуць будзеш.
Без мяне мяне жанілі (ажанілі) <мяне дома не было>.
Будзе <калі-небудзь, некалі> і на нашай (маёй, тваёй) вуліцы свята.
Будзе (прыйдзе) і на крапіву мароз.
Будзе час — будзе і квас.
Будзеш усё ведаць, хутка (скора) пастарэеш (састарышся, стары зробішся).
Будзьце як дома, але і не забывайце, што ў гасцях.
Была б (абы) шыя, <а> хамут знойдзецца.
Была б дзеўка, ды певень запеў, як радзілася.
Было б балота, а чэрці знойдуцца.
Было што піць і есці, але прынукі не было.
Быў конь, ды з'ездзіўся.
Быўшы ля мукі, запылішся.
Быць бычку на вяровачцы (на лычку).
Гадуй, мядзведзь, дзеці, каб было за кім сядзеці.
Гэта яшчэ (толькі, пакуль) кветачкі, а ягадкі наперадзе (уперадзе, яшчэ будуць).
Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа — не дай божа.
Да цябе (да вас) не п'юць, не кажы (не кажыце) здароў будзь.
Дзе быў (хадзіў), там <цяпер, ужо> няма.
Дыму без агню не бывае.
З вялікага грому <часамі, заўсёды> малы дождж <бывае>.
Каб не ежка ды адзежка, была б грошай поўна дзежка.
Казала ліха, што не быць дабру.
Калі заб'еш бабра, то не будзе табе дабра.
Калі маеш грошы, то не будзеш босы.
Колькі вяровачцы ні віцца, а канцу быць (канец будзе).
Ліха без дабра не бывае.



Kamunikat.org

Млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе.
Напрасткі <адна> варона лятае, затое (ды) <ніколі> дома не бывае.
Насільна мілы (міл, любы, люб) не будзеш.
Не будзе Гірша (-ы), <дык> будзе чорт іншы.
Не будзь горкім і не будзь салодкім, — горкае траплююць, а салодкае праглынуць.
Не будзь ні войтам, ні панам — не будзеш чалавекам паганым.
Не будзь салодкі, а то праглынуць, не будзь горкі, а то праплююць.
Не да цябе п'юць, не кажы здароў будзь.
Няма нічога тайнага (патайнага), каб не стала (што не стала б, каб не было) яўным.
Няма той хаткі, дзе б (каб) не было звадкі.
Пайшоў (зарадзіў) драсён — не будзе (не жджы) красён.
Памалу едучы, далей будзеш.
Паціху едзеш — далей будзеш.
Перамелецца — мука будзе.
Плакаў, плакаў, а бог быў аднакаў, пачаў танцаваць, пачало шанцаваць.
Працу палюбіш — чалавекам будзеш.
Прыбяры пень, дык і ён будзе прыгожы.
Сей у гразь — будзеш князь.
Сем гадоў мак не радзіў, а голаду не было.
Сілай мілы не будзеш.
Скора састарышся, як усё будзеш ведаць.
Усяго было даволі, толькі прынукі не было.
Усякая будзе гаспадыня, калі <мукі> поўная скрыня.
Хоць плюй у вочы, а ён кажа (скажа, будзе гаварыць), што дождж ідзе.
Хто заб'е бабра, не будзе мець дабра.
Цішэй едзеш — далей будзеш.
Цярпі, казак, атаманам будзеш.
Чакай, баба, Пятра — будзеш сыр есці.
Чакай, цётка, Пятра — будзеш сыр есці.
Чаму быць, таго не мінаваць.
Чорт бяду перабудзе — адна згіне, дзесяць будзе.
Чые бычкі ні былі б, абы нашы цяляткі.
Чым чорт не араў, тым <і> сеяць не стаў (не будзе).
Шлюб <быў> пад плотам, а вяселле потым.
Што <будзе> міру, тое (то) і бабінаму сыну.
Што будзе, тое (то) будзе, <а> Саўка (Грышка) на куце не будзе.
Што было, тое (то) сплыло.
Які б ні быў Панцялей, а жыць весялей.
Як не ела душа часнаку, пахнуць не будзе.

**Бычок.** Быць бычку на вяровачцы (на лычку).
Чые бычкі ні былі б, абы нашы цялят кі.
Як (калі) удасца жарабё (бычок) з лысінкай, дык і здохне (састарэе) такім (з лысінкай).

**Бяда.** Адна бяда не ідзе, другую за сабой вядзе.
Бяда адна не ходзіць <за сабою другую водзіць>.
Запас бяды не чыніць.
Іскру тушы да пажару, бяду адводзь да ўдару.
Калі хлеб у возе, то няма бяды ў дарозе.
Млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе.
На бяду мала трэба.



Kamunikat.org

Не шукай бяды, яна <сама> цябе знойдзе.
Сем бед — адзін атвет.
Сем бед за раз — адзін адказ.
Слязамі (слязьмі) гору (бядзе) не паможаш.
Чорт бяду перабудзе — адна згіне, дзесяць будзе.
Чужую бяду рукамі (і пальцам) развяду.
Шчасце адно не ходзіць, бяду за сабою водзіць.

**Бяднець.** Дзе людзі бяднеюць, там паны багацеюць.

**Бяздонны.** Бяздоннай бочкі (бяздонную кадушку) не напоўніш.

**Бязлюддзе.** На бязлюддзі і поп чалавек.

**Бязногі.** Дзе нянек многа, там дзіця бязнога (мурзатае).

**Бязрыб'е.** На бязрыб'і і рак рыба.

**Бярлога.** Два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць.

**Вада.** Апёкшыся малаком, ваду студзяць.
Апёкшыся на малацэ, дык і на халодную ваду дзьмуць будзеш.
Апёкшыся на малацэ, <і> на ваду дзьмеш (дзьмухаеш).
Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш не памачыўшыся.
Вясною вядро (кораб, цэбар) вады, а лыжка гразі, а восенню лыжка вады, а вядро (кораб, цэбар) гразі.
Да пары збан (жбан) воду носіць <ручка (вушка) адарвецца — збан паб'ецца>.
Зваранай рыбе вада не патрэбна.
З хараства вады не нап'ешся.
Калі бацька рыбак, то і сын глядзіць на ваду.
Каля (ля) вады <ходзячы> намочышся.
Кожны чорт на сваё кола ваду цягне.
Магдалена — вады па калена.
На тое і шчупак у моры (у вадзе), каб карась не драмаў.
Не зведаўшы броду, не суньця ў воду.
Не тады вучацца плаваць, калі вада ў рот плыве.
Пад ляжачы камень вада не цячэ (не пацячэ, не бяжыць, не пабяжыць).
Рукі пабрудзіш — вадою адмыеш, душу забрудзіш — і мыла не паможа.
Рыба любіць ваду.
Усякі чорт на сваё кола ваду цягне.
У ціхай вадзе чэрці водзяцца.
Хто апарыцца на малацэ, той і на ваду дзьмухае.
Ціхая вада берагі мые.
Ціхая вада грэблю рве.

**Вадзіца.** На грамніцы нап'ецца певень вадзіцы.
Чым за морам віно піць, лепш (лепей) з Нёмана (у Нёмане) вадзіцу.
Як на грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, дык на Юр'я наесца вол травіцы.

**Вадзіцца.** У ціхай вадзе чэрці водзяцца.
У ціхім балоце чэрці водзяцца (вядуцца).

**Вадзіць.** Адна бяда не ходзіць <другую за сабою водзіць>.
Шчасце адно не ходзіць, бяду за сабою водзіць.

**Вазіць.** Любіў катацца, любі і саначкі вазіць.
Любіш катацца, любі і саначкі вазіць.

**Вазок.** На чыім возе (вазку, коніку) едзеш, таму і песню (песеньку, песенькі) спявай (пей, вядзі).



Kamunikat.org

**Вайна.** Вайна ўсё спіша.
Каму вайна, а каму военка.
У голад <людзі> намруцца, а ў вайну налгуцца.

**Варажыць.** Можа надвое варожа.

**Варона.** Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так.
Варона з кала — сем на кол.
Варона з куста, а пяць на куст.
За добрым мужам і варона жона, а за кепскім і княгіня загіне.
Мужык глядзіць, як варона, а хіцер, як чорт.
Напалоханая варона і вераб'я баіцца.
Напрасткі <адна> варона лятае, затое (ды) <ніколі> дома не бывае.
Папаўся ў вароны, то крычы, як воны.
Пужаная варона <і> куста баіцца.
Убіўся ў вароны, каркай так, як і оны.
Цаляеш у варону, а пападаеш у карову.

**Варонка.** На чужой старонцы рад сваёй варонцы.

**Вароты.** Займі чорта ад варот, дык ен цераз плот.
Ты з варот, а ён цераз плот.

**Варта.** З багатым не варта судзіцца, а з дужым біцца.
Купіў не купіў, а патаргавацца (патаргаваць) можна (варта).

**Варты.** Аўчына вырабу не варта.
Брыгадзір капейкі не варт, калі чарцы рад.
Варта шкурка вырабу.
Не варта шкурка вырабу.

**Варыцца.** Мужык з жонкай сварыцца, калі трасца ў гаршку варыцца.

**Варыць.** Ганчар гаршкі лепіць, а сам у чарапку <есці> варыць.
Не той піва п'е, хто варыць.

**Вастрыць.** Вастры зуб аб зуб і розум аб розум.

**Вата.** Што кажух, то не вата, <а> што капуста, то не гарбата.

**Ваяка.** Ішоў ваякам, а назад ракам.

**Ведаць.** Абедаў, а жывот не ведаў.
Будзеш усё ведаць, хутка (скора) пастарэеш (састарышся, стары зробішся).
Ведае (знае) кошка, чыё сала з'ела.
Ведаў бог, каму не даў рог.
Ёсць хлеб — ядзім, а няма — глядзім, сёння паабедаем, а як заўтра — не ведаем.
І без папа ведаю (ведаем, знаю, знаем), што ў нядзелю свята.
Каб ведаў чалавек, дзе спатыкнецца, то пераступіў бы тое месца.
Каб (калі б) ведаў, дзе паваліўся (упадзеш), <там, дык, то> саломкі падаслаў бы.
Каб пазнаць (ведаць) чалавека, <дык> трэба з'есці з ім пуд солі.
Камедыя, хто не ведае, а хто і ведае, дык усё роўна камедыя.
Не ведаючы (не зведаўшы) броду, не суньсяў ў воду.
Ніхто не ведае, як хто абедае.
Сем гадоў нявестка жыла, а не ведала, што сучка свёкрава без хваста.
Сем гадоў нявестка жыла замужам і не ведала, што ў свёкра сучка без хваста.
Скора састарышся, як усё будзеш ведаць.
Хто б дзятла пазнаў (ведаў), каб не яго <доўгі> нос.

**Везці.** Не конь вязе, а дарога.

**Век.** Век жыві — век вучыся <а дурнем памрэш>.



Kamunikat.org

Век зжыць — не мех сшыць.

Два вякі я жыць не збіраюся.

На вяку (жывучы) усяго нажывеш — і Кузьму татам назавеш.

На наш век дурняў хопіць.

Работы ніколі (век) не пераробіш.

Скрыпучая вярба два вякі жыве.

**Векавуха.** Няма злей асенняй мухі і дзеўкі-векавухі.

**Верабей.** Напалоханая варона і вераб'я баіцца.

На сваім сметніку і певень (верабей) гаспадар.

Слова не верабей, выпусціў — не зловіш.

Старога вераб'я на мякіне не зловіш (не падманеш, не правядзеш).

Увосень і верабей багаты.

**Верыць.** Веру Яўмен», а грошы кладзі ў кішэню.

Масква слязам не верыць.

Не вер каню ў дарозе, а жонцы дома.

**Весела.** Які б ні быў Панцялей, а жыць весялей.

**Веснавы.** Ласкавае слова што дзень ясны (веснавы).

**Весці.** Адна бяда не ідзе, другую за сабой вадзе.

Гаспадарку весці — не лапці плесці.

На чыім возе (вазку, коніку) едзеш, таму і песню (песеньку, песенькі) спявай (пей, вядзі).

**Весціся.** У каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца.

У ціхім балоце чэрці водзяцца (вядуцца).

**Вецер.** Куды вецер, туды і дым.

Напроці ветру не падзьмеш.

Сабака брэша — вецер носіць.

Слова вецер, а пісьмо грунт.

Хто сее (пасее) вецер, той пажне буру.

**Вечар.** Раніца мудрэйшая (мудрэй) за вечар.

**Вечны.** Чужая яечня не вечна.

**Відаць.** Ад ліха ціха, дабра не відаць.

Блізка відаць, ды далёка дыбаць.

Хоць і відаць, але далёка дыбаць.

**Вінаваты.** Не плаціць багаты, а вінаваты.

**Віно.** Чым за морам віно піць, лепш (лепей) з Нёмана (у Нёмане) вадзіцу.

**Вісець.** Ці за адну нагу вісець, ці за дзве — адна ласка.

**Віцца.** Колькі вяровачцы ні віцца, а канцу быць (канец будзе).

Як вяровачцы ні віцца, а канцу паявіцца.

**Віць.** Колькі вяровачку ні віць, канец будзе.

**Военка.** Каму вайна, а каму военка.

**Воз.** Баба з воза — каню (кабыле) лягчэй.

З чужога воза і сярод гразі (броду) злазь (злазяць, злезеш).

Калі хлеб у возе, то няма бяды ў дарозе.

На чыім возе (вазку, коніку) едзеш, таму і песню (песеньку, песенькі) спявай (пей, вядзі).

Што з воза ўпала, тое (то) прапала.

**Воін.** Адзін у полі не воін.

**Войт.** Не будзь ні войтам, ні панам — не будзеш чалавекам паганым.

**Вока.** Бачым сучок у воку брата свайго, а бервяна ў сваім не заўважаем.

Воран ворану вачэй не выклюе.

Вочы па яблыку, <а> галава з арэх.



Kamunikat.org

Грозен (грозны) рак, ды (але) ззаду вочы.
Грозны рак, ды дзе ў яго вочы?
Груган гругану вока (вачэй) не выдзеўбе (не дзяўбе, не клюе).
З вачэй (з воч) далоў і з сэрца вон.
Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе.
Любіў рак жабу, аж вочы выеў.
Не той друг, што мёдам мажа, а той, хто праўду ў вочы кажа.
Пакуль (покі) сонца ўзыдзе, раса вочы выесць.
Панскае вока каня тучыць (гадуе).
Праўда вочы коле.
Ранняя птушка (птушачка, пташачка) зубкі (крылкі) цярэбіць, а позняя вочы працірае.
Сорам не дым, вачэй (вочы) не выесць.
У айчыма чэрці пад вачыма.
У разумнага вочы і на патыліцы сядзяць.
У страху вочы вялікія.
У сямі нянек дзіця без вока (без носа).
У чужым воку саломку (саломінку) бачым, а ў сваім <і> бервяна не заўважаем.
Хоць плюй у вочы, а ён кажа (скажа, будзе гаварыць), што дождж ідзе.
Хто глядзіць вокам, той не пойдзе бокам.
Хто старое ўспомніць (успамяне, памяне), таму вока вон.

Вол. Адзін з'еш хоць вала, <дык> адна хвала <а пакрысе, ды ўсе>.
Гора табе, воле, калі цябе карова коле.
Гутар, гутар, а валы ў жыта.
Стары вол (конь) баразны не псуе (не сапсуе).
Як на грамніцы нап'еццa певень вадзіцы, дык на Юр'я наесца вол травіцы.

**Волас.** Волас сівее, розум слабее.
Зняўшы галаву, па валасах не плачуць.
Сівізна ў валасы, <а> д'ябал у рабро.
У бабы валасы доўгія (волас доўгі), а розум кароткі (памяць кароткая).

**Вольны.** Вольнаму воля, <а> шалёнаму поле (уратаванаму рай).

**Воля.** Вольнаму воля, <а> шалёнаму поле (уратаванаму рай).
Дай жонцы (бабе) волю — завядзе ў няволю.

**Вон.** З вачэй (з воч) далоў і з сэрца вон.
Пустазелле з поля вон.
Хто старое ўспомніць (успамяне, памяне), таму вока вон.

**Вораг.** Язык мой — вораг мой.

**Воран.** Воран ворану вачэй не выклюе.

**Восем.** Увосень — работ восем.

**Восень**. Восень на рабым кані ездзіць.
Вясною вядро (кораб, цэбар) вады, а лыжка гразі, а восенню лыжка вады, а вядро (кораб, цэбар) гразі.
Куранят увосень (восенню) лічаць.

**Воўк.** Адальюцца воўку авечыя слёзкі (слёзы).
Ваўка (воўка) ногі кормяць.
Ваўкоў (ваўка, воўка) баяцца — у лес не хадзіць.
Воўк і лічанае бярэ.
Воўк казе не таварыш.
Воўк каля (паблізу) свайго логава не бярэ (не шкодзіць).

Воўк ліняе, ды нораву не мяняе.
Воўк сабакі не баіцца, але звілі не любіць.
Дай божа (бог) нашаму цяляці ваўка (воўка) спаймаці (з’есці).
Дарма (задарма) і каза < ваўку> не скача.
Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл.
З ваўкамі жыць — па-воўчы (па-воўчаму, па-ваўчынаму) выць.
Колькі (як) ваўка (воўка) ні кармі, <а> ён ў лес глядзіць (паглядае).
На воўка памоўка, а мядзведзь цішком.
Насіў воўк, панеслі і ваўка.
Ні калёс, ні атос, а воўк кабылу панёс.
Няма лесу без ваўка.
Пашкадаваў воўк кабылу < пакінуў хвост ды грыву>.
Пра воўка (аб воўку) памоўка, а ён <і сам> тут.
Работа (праца, справа) не воўк, у лес не ўцячэ (не збяжыць, не пабяжыць).
Цягаў (цягнуў) воўк, пацягнулі і воўка.
Як ваўка ні кармі, а яго ў лес цягне.

**Воўна.** З паршывай (шалудзівай) авечкі хоць шэрсці (воўны, поўсці) клок (касмык).
Пайшоў па воўну, а вярнуўся стрыжаны (пастрыжаны, астрыжаны).

**Воўчы.** Воўчы дух (воўчае насенне) да лесу цягне.

**Вочка.** Бачна па вочках, што ходзіць па ночках.
Ранні зайчык зубкі цярэбіць, а позні вочкі прадзірае.

**Вош.** Без струманту (без снасці) і вошы (гніду) не заб’еш.

**Вугал.** Дома і вуглы памагаюць.
Злодзей хоць вуглы пакіне, а агонь усё забярэ.
Не красна хата вугламі, а пірагамі.
У сваёй хаце (у сваім доме) і вуглы (сцены) памагаюць.

**Вузел.** Адной рукой і вузла не завяжаш.
Дзе толькі мужык з слаўцом, там за ім пуга з вузлом.

**Вуліца.** Будзе <калі-небудзь, некалі> і на нашай (маёй, тваёй) вуліцы свята.
Прыйдзе і на нашу вуліцу свята.
Скажы курыцы, дык яна па ўсёй вуліцы.

**Вум.** Стары кажа на глум, а малады бярэ на вум.

**Вус.** Служыў да вуса, служы і да барады.

**Вусны.** На чужыя вусны не накінеш хусты.

**Вуха.** Для мілага друга і завушнічка з вуха.
І сцены маюць вушы.
І ў сцен ёсць вушы.
Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала.
Хто парася (парасё) украў, у таго ў вушах (увушшу) пішчыць.

**Вучоны.** Не вучы вучонага.

**Вучыцца.** Век жыві — век вучыся <а дурнем памрэш>.
Вучыцца ніколі не позна.
Не тады вучацца плаваць, калі вада ў рот плыве.

**Вучыць.** Людзі і мядзведзя вучаць.
Не вучы вучонага.
Не вучы рыбу плаваць.
Не кручаны — не рэмень (не рамень), не вучаны — не чалавек.
Яйцо курыцы не вучыць.
Яйцо (яйка) курыцу вучыць.

Kamunikat.org

**Вушка.** Да пары збан (жбан) ваду носіць <ручка (вушка) адарвецца — збан паб’ецца>.

**Вы.** Вось вам хамут і дуга, <і, а> я вам <болей> не слуга.
Да цябе (да вас) не п’юць, не кажы (не кажыце) здароў будзь.
Не да вас п’юць, не кажыце здароў будзь.

**Выбівацца.** Клін выбіваецца клінам.

**Выбіваць.** Клін клінам выбіваюць (выганяюць).

**Выбірацца.** У прочкі выбірайся, а жыта сей.

**Выбіраць-** Выбірай жонку не на ігрышчы, а на іржышчы.
Не выбірай дзеўку ў карагодзе, а ў агародзе.
Не хвалі каня запрагаючы, а дзеўку выбіраючы.
Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны.

**Выбіць.** На вытаптанай (выбітай, торнай) дарозе трава не расце.

**Выганяць.** Клін клінам выбіваюць (выганяюць).

**Выгнаць.** Добры гаспадар і сабаку з двара (з хаты) не выганіць у такую нягоду (у такое надвор’е, у такі дзень).

**Выдаць.** Бог не выдасць (не дасць, не папусціш», не прадасць), свіння не з’есць.

**Выдзеўбці.** Груган груганy вока (вачэй) не выдзеўбе (не дзяўбе, не клюе).
Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе.

**Выдра.** Усе бабры дабры, адна выдра ліхая.

**Выесці.** Любіў рак жабу, аж вочы выеў.
Пакуль (покі) сонца ўзыдзе, раса вочы выесць.
Сорам не дым, вачэй (вочы) не выесць.

**Выйсці.** Закон што ды шла, куды павярнуў, туды і выйшла.
Няма таго злога, каб не выйшла на добрае.
Першы блін выйшаў камяком.

**Выкінуць.** З песні слова не выкінеш.

**Выкляваць.** Воран ворану вачэй не выклюе.

**Вылецець.** Слова не верабей, выпусціў (выпусціш, вылеціць, вылецела) — не зловіш.

**Вынесці.** Вырас, а розуму не вынес.

**Выняць.** Пакуль да бога, дык (то, так) чорт душу выме.
Што ўложыць хам, <то> не выме і пан.

**Выпадаць.** Год на год не прыходзіцца (не выпадае).

**Выпіць.** Не піў — не мог, а выпіў — ні рук, ні ног.

**Выправіць.** Гарбатага магіла выправіць (выпрастае).

**Выпрастаць.** Гарбатага магіла выправіць (выпрастае).

**Выпусціць.** Слова не верабей, выпусціў (выпусціш, вылеціць, вылецела) — не зловіш.

**Выраб.** Аўчына вырабу не варта.
Варта шкурка вырабу.
Не варта шкурка вырабу.

**Вырадак.** Сям’я не без вырадка.
У сям'і не без вырадка.

**Вырасці.** Вырас, а розуму не вынес.
Вырас пад неба, а дурань як трэба.

**Вырод.** Няма роду без выроду.



Kamunikat.org

**Вырубіць.** Што напішаш (напісана) пяром, <то> не вырубіш (не высечаш) тапаром.

**Высечы.** Што напішаш (напісана) пяром, <то> не вырубіш (не высечаш) тапаром.

**Высока.** Высока лятаеш, але нізка сядзеш.
Да бога высока, да цара (да пана) далёка.

**Вытаптаць.** На вытаптанай (выбітай, торнай) дарозе трава не расце.

**Выходзіць.** У закаханай кухаркі няўдалая страва выходзіць.

**Выць.** З ваўкамі жыць — па-воўчы (па-воўчаму, па-ваўчынаму) выць.

**Выцягнуць.** Хвалі каня пасля дарогі, а пана — як выцягнуў ногі.

**Выцяць.** Захочаш сабаку выцяць (ударыць) — палку (кій) знойдзеш.

**Вышэй.** Вышэй пупа (пят, галавы) не падскочыш (не скочыш).
Вышэй <самога> сябе не скочыш (не падскочыш).

**Вядро.** Вясною вядро (кораб, цэбар) вады, а лыжка гразі, а восенню лыжка вады, а вядро (кораб, цэбар) гразі.

**Вязаць.** Няма лепш за той куток, дзе вязалі пупок.

**Вялець.** Бог цярпеў і нам вялеў.

**Вялікі.** Вялікага сабакі вялікі брэх.
Вялікаму каню — вялікі хамут.
Вялікаму караблю — вялікае <і> плаванне.
Вялік пень, ды дурань.
За вялікім пагонішся — і малое згубіш.
З вялікага грому <часамі, заўсёды> малы дождж <бывае>.
З вялікае хмары малы дождж.
Малы жук, ды вялікі гук.
Не ўсё (не заўсёды) кату масленіца <прыйдзе і вялікі пост>.
У страху вочы вялікія.
У чужых руках пірог вялік.
Хай конь думае: у яго галава балыная (вялікая).
Час — найлепшы (самы лепшы, добры, вялікі) доктар (лекар).

**Вянец.** Канец — дзелу вянец.

**Вярба.** На пахілую вярбу (на пахілае дрэва) козы скачуць.
Скрыпучая вярба два вякі жыве.

**Вярнуцца.** Ашуканствам можна свет прайсці, але назад не вернешся.
Круцячы, свет пройдзеш, але назад не вернешся.
Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш (пяройдзеш), а (але, ды) назад не вернешся.
Пайшоў па воўну, а вярнуўся стрыжаны (пастрыжаны, астрыжаны).

**Вярнуць.** Пан за пана цягне (верне).

**Вяровачка.** Быць бычку на вяровачцы (на лычку).
Колькі вяровачку ні віць, канец будзе.
Колькі вяровачку ні віць, а канцу быць (канец будзе).
Як вяровачцы ні віцца, а канцу паявіцца.

**Вяроўка.** Прапала кароўка, прападай (няхай прападае) <і> вяроўка.

**Вярцець.** Круці не круці (не вярці), а трэба памерці.

**Вяселле.** Абыдзецца без марцыпанаў цыганскае вяселле.
Шлюб <быў> пад плотам, а вяселле потым.

**Вясенні.** Вясенні (вясновы) дзень год корміць.

**Вясна.** Адна ластаўка вясны не робіць.



Kamunikat.org

Вясною вядро (кораб, цэбар) вады, а лыжка гразі, а восенню лыжка вады, а вядро (кораб, цэбар) гразі.

**Вясновы.** Вясновы дзень год корміць.

**Гаварыць.** Гавары, ды не <ўсё> дагары.
Меней (менш) гавары — болей (больш) пачуеш.
Хоць плюй у вочы, а ён кажа (скажа, будзе гаварыць), што дождж ідзе.
Што ў каго (каму) баліць, той пра тое (аб тым) і гаманіць (гаворыць, крычыць).

**Гад.** Усякі (кожны) гад чужому грошу рад.

**Гадаваць.** Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзець
Гадуй, мядзведзь, дзеці, каб было за кім сядзець
Панскае вока каня тучыць (гадуе).

**Гадзіна.** Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны.

**Гадзіць.** Гасцям гадзі, але і сябе не галадзі.

**Гадзюка.** У гадзюкі няма іншай навукі, як кусаць.

**Гадка.** Гадка (гідка) з’есці і шкада кінуць.

**Гадок.** Што гадок, то і ядок (сынок).

**Гай.** Цешыўся старац, што перажыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю.

**Галава.** Адна галава добра, а дзве <яшчэ> лепш (лепей).
Ад прыбытку галава не баліць.
Вочы па яблыку, <а> галава з арэх.
Вышэй галавы не падскочыш.
Галавою (ілбом) сцяны (сцяну, муру, мур) не праб'еш.
Гаманіць галава не баліць.
Еш селядца з галавою, за ўсё грошы плачаны.
За дурной галавой нагам неспакой (небалазе).
Зняўшы галаву, па валасах не плачуць.
З паклону (з паклонаў) галава (галоўка) не баліць.
Павінную галаву <і> меч не сячэ.
Розуму ў чужую галаву лапатай не накладзеш.
Рыба з галавы псуецца (загніваецца, пачынае гніць, гніе).
Хай конь думае: у яго галава большая (вялікая).
Што <ні> галава, то <і> розум.
Што ў цвярозага ў галаве (на розуме), то (тое) у п’янага на языку.

**Галавешка.** Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць.
Адна галавешка і ў печы не тлее (не гарыць).

**Галадзіць.** Гасцям гадзі, але і сябе не галадзі.

**Галець.** Дзень з алеем, а тыдзень так галеем.

**Галіць.** Ты яму «стрыжанае, а ён табе «пшена».

**Галодны.** Галоднай куме хлеб (сыр) наўме.
Галоднаму не спіцца, калі хлеб сніцца.
Галодны і каня з капытамі з’есць.
Сыты галоднаму не спагадае.

**Галоўка.** З паклону (з паклонаў) галава (галоўка) не баліць.

**Гам.** <І> сам не гам і другому не дам.
Як сабака на сене — і сам не гам і другому не дам.

**Гаманіць.** Гаманіць галава не баліць.
Што ў каго (каму) баліць, той пра тое (аб тым) і гаманіць (гаворыць, крычыць).

**Ганчар.** Ганчар гарыла лепіць, а сам у чарапку <есці> варыць.

Kamunikat.org

**Гара.** Гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсёды.
Гара нарадзіла (радзіла) мыш.
Калі гара не ідзе да Магамета, то Магамет ідзе да гары.
Славен бубен за гарамі.
Ты на гару, а чорт за нагу.
Чалавек на гару, а чорт за нагу.
Як чалавек на гару, дык чорт за нагу.

**Гараваць.** Адны пануюць, другія гаруюць.

**Гарачо.** <І> адтуль горача (гарачо), <і> адсюль боляча (балячо).

**Гарачы.** Куй жалеза, пакуль гарачае.
Пражылі лета гарачае, пражывём і дзярмо сабачае.

**Гарбата.** Што кажух, то не вата, <а> што капуста, то не гарбата.

**Гарбаты.** Гарбатага магіла выправіць (выпрастае).
Хоць крывое ды гарбатае, абы слаўнае ды багатае.

**Гарод.** У агародзе (гародзе) бузіна, а ў Кіеве дзядзька.
Шукай жонку ў гародзе, а не ў карагодзе.

**Гарох.** Жывём (жыву) як <той> гарох пры дарозе — хто ідзе, той і скубе.
Хто ў боб, <а> хто ў гарох <а хто (ты) у сачыўку>.

**Гаршчок.** Ганчар гаршкі лепіць, а сам у чарапку <есці> варыць.
Мужык з жонкай сварыцца, калі трасца ў гаршку варыцца.
Называй хоць гаршком, толькі ў печ не стаўляй.
На назе бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць.
Не святыя (не багі) гаршкі лепяць.
Няхай хоць гаршком завуць, абы ў печ не ставілі.
Пасмяяўся гаршчок з катла.
Хоць гаршком заві (называй), адно (толькі, а) у печ не стаўляй (не стаў).

**Гарэлачка.** Горкая гарэлка (гарэлачка), але п'юць, дрэнна замужам, але ідуць.

**Гарэлка.** Гарэлка да дабра не давядзе.
Горкая гарэлка (гарэлачка), але п'юць, дрэнна замужам, але ідуць.
Маеш дачку — трымай гарэлку ў глячку.

**Гарэць.** Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць.
Адна галавешка і ў печы не тлее (не гарыць).
Без падпалу дровы не гараць.
Калі хата гарыць, не да пацераў.
На злодзеі шапка гарыць.
Пень гарэў, а чорт хвост пагрэў.

**Гасіць.** Пажар (агонь) агнём не тушаць (не гасяць).

**Гаснуць.** Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць.

**Гаспадар.** Без гаспадара гумно плача, а без гаспадыні хата.
Без гаспадара дом сірата.
Добры гаспадар і сабаку з двара (з хаты) не выганіць у такую нягоду (у такое надвор'е, у такі дзень).
З добрым гаспадаром нажывешся, з дрэнным гора набярэшся.
Калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ.
На сваім сметніку і певень (верабей) гаспадар.
Хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар.

**Гаспадарка.** Гаспадарку весці — не лапці плесці.

**Гаспадыня.** Без гаспадара гумно плача, а без гаспадыні хата.
Госць на парог — гаспадыня за пірог.



Kamunikat.org

Калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ.

Усякая будзе гаспадыня, калі <мукі> поўная скрыня.

Як мукі скрыня, дык і свіння гаспадыня.

**Гасподзь.** Гасподзь не без міласці, а казак не без долі.

**Гасцяваць.** Госць мала гасцюе, ды багата бачыць.

**Гатовы.** Голы збірайся, голы гатоў.

**Гаўрыла.** Не адзін Гаўрыла <што> у Полацку.

**Гідка.** Гідка з’есці і шкада кінуць.

**Гірша.** Не будзе Гірша (-ы), <дык> будзе чорт іншы.

**Глум.** Стары кажа на глум, а малады бярэ на вум.

**Глуха.** У каго кашаль, той і красен <і ў роце не суха, і ў хаце не глуха>.

**Глухі.** Глухім два разы ў касцёле не звоняць.

Глухому дзве абедні не служаць.

Для глухога дзвюх абедзень не служаць.

**Глыбока.** Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей (лепей, лепш).

Ціхая свіння глыбока рые (капае).

**Глыбокі.** Ціхая свіння глыбокі корань рые.

**Глядзець.** Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзець

Давялося свінні на неба глядзець.

Дараванаму (дарованаму, дармоваму) каню ў зубы не глядзяць.

Есць хлеб — ядзім, а няма — глядзім, сёння паабедаем, а як заўтра — не ведаем.

Калі бацька рыбак, то і сын гладзіць на ваду.

Колькі (як) ваўка (воўка) ні кармі, Са> ён у лес глядзіць (паглядае).

Мужык глядзіць, як варона, а хіцер, як чорт.

На сонца ўсе роўна гладзім, ды не ўсе роўна бачым.

Хто глядзіць вокам, той не пойдзе бокам.

Хто на чым сядзіць, той таго і глядзіць.

**Глячок.** Маеш дачку — трымай гарэлку ў глячку.

**Гнаць.** Старога хвалі, ды з двара гані

**Гніда.** Без струманту (без снасці) і вошы (гніду) не заб’еш.

**Гніллё.** Прыйдзе Ілья — наробіць гнілля.

**Гніць.** Рыба з галавы псуецца (загніваецца, пачынае гніць, гніе).

**Гной.** Дзе гной, там і лой.

За пчолкаю — у мёд, за жукам — у гной.

**Гнявіць.** З кім жыць, таго не гнявіць.

<І> бога хвалі і чорта не гняві.

**Гняздзечка.** Якая птушка, такое і гняздзечка.

**Гняздо.** Усякая птушка сваё гняздо бароніць.

**Год.** Абяцанага тры гады чакаюць.

Год на год не прыходзіцца (не выпадае).

Вясенні (вясновы) дзень год корміць.

Лета год корміць.

Летні дзень год корміць.

Сем гадоў мак не радзіў, а голаду не было.

Сем гадоў нявестка жыла, а не ведала, што сучка свёкрава без хваста.

Сем гадоў нявестка жыла замужам і не ведала, што ў свёкра сучка без хваста.

Што <ні> год, то ўдод.

Kamunikat.org

**Гожа.** Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа — не дай божа.

**Голад.** Голад не цётка.
Сем гадоў мак не радзіў, а голаду не было.
У голад <людзі> намруцца, а ў вайну налгуцца.

**Голены. Гл.** галіць.

**Голы.** Голаму разбой не страшан (не спграшны).
Голы збірайся, голы гатоў.
Голы разбою не баіцца.
З міру па нітцы — голаму сарочка (кашуля).
На голага <і> сабакі брэшуць.

**Гонта.** Злазь з даху <і> не псуй гонту (гонты, гонгаў).

**Гоп.** Калі не пераскочыў, не кажы гоп.
Не кажы гоп, не пераскочыўшы.
Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў (не пераскочыш).
Не пераскочыў, не кажы гоп.

**Гора.** Гора плача, гора скача, гора песенькі пяе.
Гора табе, воле, калі цябе карова коле.
Гора толькі рака (ракаў) красіць.
Еду ціха — са мной ліха, еду скора — са мной гора.
З добрым гаспадаром нажывешся, з дрэнным гора набярэшся.
Слязамі (слязьмі) гору (бядзе) не паможаш.

**Горад.** Смеласць (храбрасць, адвага) гарады бярэ.

**Горача.** <І> адтуль горача (гарачо), <і> адсюль боляча (балячо).

**Горб.** Свайго гарба ніхто не бачыць.
Старасць не радасць <а горб не карысць>.

**Горкі.** Горка рэдзька, ды ядуць, цяжка (дрэнна, ліха) замужам, ды ідуць.
Горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі.
Горкая гарэлка (гарэлачка), але п'юць, дрэнна замужам, але ідуць.
Лепш (лепей) горкая праўда, чым салодкая мана (хлусня).
Не будзь горкім і не будзь салодкім, — горкае праплюющь, а салодкае праглынуць.
Не будзь салодкі, а то праглынуць, не будзь горкі, а то праплююць.

**Горш.** Ахвота горш за няволю.
Горш, калі баішся, і ліха не мінеш, і надрыжышся.
Няма горш, як даганяць і чакаць.
Няпрошаны (незапрошаны, нязваны) госць горш за татарына.
Чакаць і даганяць горш за ўсё.

**Госць.** Будзьце як дома, але і не забывайце, што ў гасцях.
Гасцям гадзі, але і сябе не галадзі.
Госць мала гасцюе, ды багата бачыць.
Госць на парог — гаспадыня за пірог.
Госць на парог — радасць у хату.
Госць — нявольнік.
Госць у дом, бог у дом.
Дзе госць, там і бог ёсць.
Няпрошаны (незапрошаны, нязваны) госць горш за татарына.
Першы дзень госць — золата, другі — срэбра, трэці — медзь, дадому (дахаты) едзь.
У гасцях добра, а дома лепей (лепш).
Чорт чорта пазнаў і на піва (у госці) пазваў.

**Граза.** Граза ў лес не ідзе.

Kamunikat.org

**Гразь.** Вясною вядро (караб, цэбар) вады, а лыжка гразі, а восенню лыжка вады, а вядро (караб, цэбар) гразі
З чужога воза і сярод гразі (броду) злазь (злазяць, злезеш).
Крывое кола на сябе гразь кідае.
Сей у гразь — будзеш князь.

**Грак**. Бывала, варона лапці абувала, а цяпер Ірак ходзіць так.
Гракі цяпла не прыносяць.

**Грамадка.** Дзе каша ды аладка, там і грамадка.

**Грамніцы.** Грамніцы — палавіна зіміцы.
На грамніцы нап’ецца певень вадзіцы.
Як на грамніцы нап’ецца певень вадзіцы, дык на Юр’я наесца вол травіцы.

**Грашаняты.** Грэх у мех, грашаняты* ў торбу.

**Грашыць.** Хто спіць, <дык> той не грашыць (не грэшыць).

**Грозны.** Грозен (грозны) рак, ды (але) ззаду вочы.
Грозны рак, ды дзе .ў яго вочы?

**Гром.** З вялікага грому <часамі, заўсёды> малы дождж <бывае>.
<Пакуль> гром не грымне (не загрыміць), мужык не перахрысціцца.
Чуў, кум, сонца, бачыў гром?

**Грош.** Усякі (кожны) гад чужому грошу рад.

**Грошы.** Веру Яўменю, а грошы кладзі ў кішэню.
Еш селядца з галавою, за ўсё грошы плачаны.
За пастой грошы не плацяць.
Каб не ежка ды адзежка, была б грошай поўна дзежка.
Калі маеш грошы, то не будзеш босы.
У каго грошы, у таго і розум.
Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку.

**Груган.** Груган гругану вока (вачэй) не выдзеўбе (не дзяўбе, не клюе).

**Грузд.** Назваўся груздом — лезь у кош (кошык).

**Грунт.** Слова вецер, а пісьмо грунт.

**Груша.** Зляпіў бог душу — ні ў пень, ні ў грушу.

**Грыб.** Дзетак узгадаваць — не грыбоў назбіраць.
Еш пірог (боршч) з грыбамі, а язык трымай за зубамі.
І да грыба трэба нагнуцца.
У грыбы хадзіць і то лепш са шчасцем.

**Грыва.** Кось-кось, пакуль за грыву.
Пашкадаваў воўк кабылу <пакінуў хвост ды грыву>.
Хто не ўтрымаўся за грыву, таму і хвост не паможа.

**Грымнуць.** <Пакуль> гром не грымне (не загрыміць), мужык не перахрысціцца.

**Грышка.** Цярпі, Грышка, карчма блізка.
Што будзе, тое (то) будзе, <а> Саўка (Грышка) на куце не будзе.

**Грэбля.** Ціхая вада грэблю рве.

**Грэх.** Грэх у мех, грашаняты ў торбу.
<І> рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць.
Рада б душа ў рай, ды грахі не пускаюць.
Хацела б душа ў рай, ды грахі не пускаюць.
Хацеў бы ў рай, ды грахі не пускаюць.
Што праўда, то не грэх.

**Грэць.** Чужое дабро не грэе.
Чужы кажух цела не грэе.



Kamunikat.org

**Гуж.** Калі ўзяўся за гуж, не кажы, што не дуж.
Узяўся за гуж, <дык> не кажы, што не дуж.
Узяўшыся за гуж, не кажы, што не дуж.

**Гузік.** На чужы рот гузіка не нашыеш.

**Гук.** Забілі зайца не забілі, а гуку (шуму) многа нарабілі.
Малы жук, ды вялікі гук.

**Гукнуць.** Як гукнеш, так і адгукнецца.

**Гультай.** Гультай за работу — мазоль за руку (мазалі за рукі).

**Гуляць.** Скончыў (кончыў) дзела — гуляй смела.
Хто <коней> мяняе, у таго хамут гуляе.

**Гумно.** Без гаспадара гумно плача, а 'без гаспадыні хата.
Калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ.
Калі на гумне не малоціцца, тады ў хаце калоціцца.
Пакуль <у (на) гумне> цэп, патуль (датуль) <на стале> хлеб.

**Гурт.** <Адна> паршывая (шалудзівая, паганая) авечка (аўца) увесь статак (гурт, усю чараду) псуе (сапсуе).

**Густа.** Аднаму густа, а другому пуста.
Каму густа, <а> каму пуста.

**Гусь.** Гусі нізка — зіма блізка.
Гусь свінні не таварыш.

**Гутарыць.** Гутар, гутар, а валы ў жыта.

Гэта. Хто лепшага не мае, таму і гэта добра.

**Дабраць.** Чорт не адны лапці (не адну пару лапцей) стаптаў, пакуль (покуль) такую пару дабраў (сабраў).
Чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль пару дабраў.

**Дабро.** Ад дабра дабра не шукаюць.
Ад ліха ціха, а дабра не чуваць.
Ад ліха ціха, дабра не відаць.
Гарэлка да дабра не давядзе.
Казала ліха, што не быць дабру.
Калі заб'еш бабра, то не будзе табе дабра.
Ліха без дабра не бывае.
Няма ліха без дабра.
У каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца.
Хто заб'е бабра, не будзе мець дабра.
Чужое дабро не грэе.

**Давацца** На бога спадзявайся, а (ды) сам не давайся (не агінайся, не зявай).

**Даваць.** Бадлівай карове бог рог не дае.
Бог сіротак любіць, але долі не дае.
Даюць — бяры, б'юць — уцякай.
За <аднаго> бітага двух нябітых даюць.
За няўдачу даюць прыдачу.
Кошку б'юць — нявестцы намёкі даюць.
Плакаў, плакаў — усё бог аднакаў, пачаў пяяць (спяваць) — стаў бог даваць.
Хто рана ўстае, таму <і> бог дае.
Як даюць, то бяры, а як б'юць, то ўцякай.

**Давесці.** Гарэлка да дабра не давядзе.
Язык да Кіева давядзе.



Kamunikat.org

**Давесціся.** Давялося свінні на неба глядзець.

**Даволі.** Усяго было даволі, толькі прынукі не было.

**Дагадацца.** Дзіця не плача, матка (маці) не дагадаецца.
Пакуль дзіця не заплача, маці не дагадаецца.

**Даганяць.** Даганяючы не нацалавацца (не нацалуешся).
Няма горш, як даганяць і чакаць.
Чакаць і даганяць горш за ўсё.

**Дагары.** Гавары, ды не <ўсё> дагары.

**Дадому.** Першы дзень госць — золата, другі — срэбра, трэці — медзь, дадому (дахаты) едзь.

**Дажыцца.** Дажыліся казакі (палякі), <што> ні хлеба, ні табакі

**Дажыць.** Дажылі казакі (палякі), <што> ні хлеба, ні табакі.

**Дакіпець.** Сіраце прыкіпіць (дакіпіць) у жываце.

**Далей.** Далей у лес — болей дроў.
Добрае далёка чуваць, а дрэннае яшчэ далей.
Добрая слава далёка ідзе, а кепская (ліхая) яшчэ далей <ляціць>.
Памалу едучы, далей будзеш.
Паціху едзеш — далей будзеш.
Цішэй едзеш — далей будзеш.
Чым далей у лес, тым болей (больш) дроў.

**Далёка.** Блізка відаць, ды далёка дыбаць.
Да бога высока, да цара (да пана) далёка.
Добрае далёка чуваць.
Добрае далёка чуваць, а дрэннае яшчэ далей.
Добрая слава далёка ідзе, а кепская (ліхая) яшчэ далей <ляціць>.
На лечаным кані далёка не заедзеш.
Хоць і відаць, але далёка дыбаць.
Яблык ад яблыні далёка не адкоціцца.

**Далоў.** З вачэй (з воч) далоў і з сэрца вон.
Касі, каса, пакуль раса, раса далоў — каса (касец) дамоў.

**Дамоў.** Касі, каса, пакуль раса, раса далоў — каса (касец) дамоў.

**Даравацъ.** Дараванаму (даровадаму, дармоваму) каню ў зубы не глядзяць.

**Дарагі.** Дарагая (дорага) лыжка к абеду.
Дарагая тая хатка, дзе радзіла (нарадзіла) мяне матка.
Малы залатнік, ды дарагі
Міл (мілы, дораг) той куток, дзе абрэзалі (рэзалі) пупок.
Не дораг абед, а дораг прывет.

**Дарма.** Дарма (задарма) і каза <ваўку> не скача.

**Дармовы.** Дараванаму (даровадаму, дармоваму) крню ў зубы не глядзяць.

**Дарога.** Арлу з савой не па дарозе.
Жывём (жыву) як <той> гарох пры дарозе — хто ідзе, той і скубе.
Злодзею адна дарога, а хто шукае, таму многа.
Каб свінні рогі, не саступіла б (не сышла б) з дарогі.
Калі хлеб у возе, то няма бяды ў дарозе.
На вытаптанай (выбітай, торнай) дарозе трава не расце.
Не вер каню ў дарозе, а жонцы дома.
Не конь вязе, а дарога.
Хвалі каня пасля дарогі, а пана — як выцягнуў ногі.
Шануй каня дома, а ён цябе ў дарозе.

**Дарожка.** Добрая слава на паліцы ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць.

**Датуль.** Пакуль <у (на) гумне> цэп, патуль (датуль) <на стале> хлеб.



Kamunikat.org

**Дах.** Злазь з даху <і> не псуй гонту (гонты, гонтаў).

**Дахаты.** Першы дзень госць — золата, другі — срэбра, трэці — медзь, дадому (дахаты) едзь.

**Дацца.** Даўся запрэгчы — дасіся і паганяць.

**Даць.** Бог даў, бог і ўзяў.

Бог не выдасць (не дасць, не папусціць, не прадасць), свіння не з’есць.

Ведаў бог, каму не даў рог.

Дай божа (бог) нашаму цяляці ваўка (воўка) спаймаці (з'есці).

Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа — не дай божа.

Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі (нядобры) памаўчаць.

Дай жонцы (бабе) волю — завядзе ў няволю.

Дасць бог дзень, дасій» і полудзень (хлеб, ежу, пажытак).

Даў бог цяля, ды не даў хлява.

<І> сам не гам і другому не дам.

На тым свеце не дадуць.

Не дай бог свінні рог, а мужыку панства.

Ні села, ні пала, дай, баба, сала.

Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў.

Як сабака на сене — і сам не гам і другому не дам.

**Дачка.** Дачка ў пары — не трымай у двары.

Маеш дачку — трымай гарэлку ў глячку.

Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку.

Хто любіць папа, хф пападдзю, хто папову дачку.

**Дбаць.** Багатаму і чорт у кашу дбае.

Хто дбае, той і мае.

**Два.** Адзін сын — не сын, два сыны -г- палова сына (паўсына), тры сыны — сын.

Адна галава добра, а дзве <яшчэ> лепш (лепей).

Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць.

Глухім два разы ў касцёле не звоняць.

Глухому дзве абедні не служаць.

Два вякі я жыць не збіраюся.

Два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць.

Дзвюм смерцям (смярцям) не бываць, <а> адной не мілаваць.

Для глухога дзвюх абедзень не служаць.

За <аднаго> бітага двух нябітых даюць.

За двума зайцамі пагонішся, ніводнага (ні аднаго) не зловіш.

Лісліваe (ласкавае, пакорнае) цяля (цялятка) дзвюх матак (дзве маткі) ссе.

Прыйшоў Пятрок — апаў лісток; прыйшоў Ільля — апала два.

Скрыпучая вярба два вякі жыве.

Скупы два разы траціць.

Стары друг лепш (лепей) за новых двух.

Ці за адну нагу вісець, ці за дзве — адна ласка.

Што два, то не адзін.

**Двое.** Адно дзіця — не дзіця, двое дзяцей — паўдзіцячы трое дзяцей — гэта дзіця.

Адно дзіця — няма дзяцей, двое дзяцей — што адно, а трое — сям’я.

**Двойчы.** Скупы плаціць двойчы.

**Двор.** Дачка ў пары — не трымай у двары.

Добры гаспадар і сабаку з двара (з хаты) не выганіць у такую нягоду (у такое надвор'е, у такі дзень).



Kamunikat.org

Карова на дварэ, <дык> і харч на стале.
Старога хвалі, ды з двара гані.

**Дзве.** Гл. два.

**Дзе.** Грозны рак, ды дзе ў яго вочы?
Дарагая тая хатка, дзе радзіла (нарадзіла) мяне матка.
Дзе быў (хадзіў), там <цяпер, ужо> няма.
Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл.
Дзе гной, там і лой.
Дзе госць, там і бог ёсць.
Дзе каша ды аладка, там і грамадка.
Дзе коратка (тонка); там ірвецца (і рвецца).
Дзе людзі бяднеюць, там паны багацеюць.
Дзе ні кінь, дык клін.
Дзе нянек многа, там дзіця бязнога (мурзатае).
Дзе поп царкву ставіць, там пан карчму ладзіш».
Дзе п'юць, там і льюць.
Дзе толькі мужык з слаўцом, там за ім пуга з вузлом.
Дзе фэст, там і я ест.
Дзе хадзіў, там няма.
Дзе цесна, там пацешна.
Дзе чорт <сам> не зможа (не можа), туды (там) бабу пашле.
Добра там, дзе нас няма.
Дождж ідзе не там, дзе просяць, а дзе косяць, не там, дзе ждуць, а там, дзе жнуць.
Каб ведаў чалавек, дзе спатыкнецца, то пераступіў бы тое месца.
Каб (калі б) ведаў, дзе павалішся (упадзеш), <там, дык, то> саломкі падаслаў бы.
Міл (мілы, дораг) той куток, дзе абрэзалі (рэзалі) пупок.
Не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць.
Няма лепш за той куток, дзе вязалі пупок.
Няма той хаткі, дзе б (каб) не было звадкі.
Паспытала свіння палена, памятае, дзе паела.
Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей (лепей, лепш).
Там добра, дзе нас няма.

**Дзежка.** Каб не ежка ды адзежка, была б грошай поўна дзежка.
Хапіў з дзежкі, аж не бачыць сцежкі.

**Дзела.** Дзела дзельніка (справа майстра) баіцца.
Канец — дзелу вянец.
Скончыў (кончыў) дзела — гуляй смела.

**Дзельнік.** Дзела дзельніка (справа майстра) баіцца.

**Дзень.** Вясенні (вясновы) дзень год корміць.
Дасць бог дзень, дасць і полудзень (хлеб, ежу, пажытак).
Дзень з алеем, а тыдзень так галеем.
Добры гаспадар і сабаку з двара (з хаты) не выганіць у такую нягоду (у такое надвор'е, у такі дзень).
Едзеш на дзень, бяры хлеба на тыдзень.
Ласкавае слова што дзень ясны (веснавы).
Летні дзень год корміць.
Першы дзень госць — золата, другі — срэбра, трэці — медзь, дадому (дахаты) едзь.
У бога дзён многа.
Што дзень — бліжэй да смерці.
<Што> дзень (дзянёк) пражыў, то і дзякуй богу.

**Дзерці.** Сухая лыжка рот дзярэ.

Kamunikat.org

**Дзесяць.** Адзін дурань можа задаць (задасць) столькі пытанняў, што дзесяць (сем) разумных не адкажуць.
Сарока з кола — дзесяць на кол.
Чорт бяду перабудзе — адна згіне, дзесяць будзе.

**Дзетка.** Дзетак узгадаваць — не грыбоў назбіраць.
Дзеткі падраслі, хатку растрэслі.
Малыя дзеткі — малыя бедкі <падрастуць дзеткі — падрастуць і бедкі>.

**Дзеўка.** Была б дзеўка, ды певень запеў, як радзілася.
Не выбірай дзеўку ў карагодзе, а ў агародзе.
Не хвалі каня запрагаючы, а дзеўку выбіраючы.
Няма злей асенняй мухі і дзеўкі-векавухі.

**Дзёгаць.** <Адна> лыжка дзёгцю псуе бочку мёду.
Ты яго маслам маж, а ён дзёгцем смярдзіць.

**Дзённы.** Начная зязюля (зязюлька) дзённую перакукуе.

**Дзівіцца.** Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.
Няхай багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.

**Дзіця.** Адзін Сцяпан — заўсёды пан, а калі і нястача, дзіця не плача.
Адно дзіця — не дзіця, двое дзяцей — паўдзіцяці, трое дзяцей — гэта дзіця.
Адно дзіця — няма дзяцей, двое дзяцей — што адно, а трое — сям'я.
Багатаму чорт дзяцей калыша.
Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзець
Гадуй, мядзведзь, дзеці, каб было за кім сядзеці.
Дзе нянек многа, там дзіця бязнога (мурзатае).
Дзіця за руку бярэш — маці за сэрца.
Дзіця не плача, матка (маці) не дагадаецца.
Кожнаму сваё (роднае) дзіця міла.
Малыя дзеці — малы клопат <большыя дзеці — большы клопат>.
Матка парве пазуху, хаваўшы дня дзяцей, а дзеці парвуць пазуху, хаваўшы ад маткі.
Пакуль дзіця не заплача, маці не дагадаецца.
У сямі нянек дзіця без вока (без носа).
Чым бы дзіця ні цешылася, абы (толькі б) не плакала.

**Дзьмухаць.** Апёкшыся на малацэ, <і> на ваду дзьмеш (дзьмухаеш).
Хто апарыцца на малацэ, той і на ваду дзьмухае.

**Дзьмуць.** Апёкшыся на малацэ, дык і на халодную ваду дзьмуць будзеш.
Апёкшыся на малацэ, <і> на ваду дзьмеш (дзьмухаеш).

**Дзядзька.** У агародзе (гародзе) бузіна, а ў Кіеве дзядзька.

**Дзяды.** Не заўсягды, як на дзяды.

**Дзяк.** Дзяк не поп, бярэ і боб.

**Дзяліць.** Бог не роўна дзеліць.

**Дзянёк.** Цянькі адбіраюць дзянькі.
<Што> дзень (дзянёк) пражыў, то і дзякуй богу.

**Дзярмо.** Пражылі лета гарачае, пражывём і дзярмо сабачае.

**Дзяўбці.** Груган гругану вока (вачэй) не выдзеўбе (не дзяўбе, не клюе).
Кропля камень крышыць (дзяўбе).

**Дзяцел.** Хто б дзятла пазнаў (ведаў), каб не яго <доўгі> нос.

**Дзячок.** Як багаты памрэ, па тры з хаты прэ, а як бедачок — толькі поп ды дзячок.



Kamunikat.org

Як багаты памрэ, то і апошні з хаты прэ, а як бедны худачок — толькі попік ды дзячок.

**Дно.** Апускаліся, куме, на дно.
Не траць, куме, сілы, спускайся на дно.

**Добра.** Адна галава добра, а дзве <яшчэ> лепш (лепей).
Добраму чалавечку добра і ў запечку <а благой (якой) благаце дрэнна і на куце>.
Добра сабаку і муха.
<Добра> смяецца той, хто смяецца апошні.
Добра там, дзе нас няма.
Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць.
Лепш (лепей) дрэнна ехаць, чым добра ісці.
Там добра, дзе нас няма.
У гасцях добра, а дома лепей (лепш).
Усюды добра, а дома лепей.
Хто лепшага не мае, таму і гэта добра.
Чужымі рукамі жар заграбаць лёгка (добра).

**Добры.** Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі (нядобры) памаўчаць.
Добрае далёка чуваць.
Добрае далёка чуваш», а дрэннае яшчэ далей.
Добрае сена: каб пасаліў, то і поп з'еў бы.
Добраму чалавечку добра і ў запечку <а благой (якой) благаце дрэнна і на куце>.
Добрая слава далёка ідзе, а кепская (ліхая) яшчэ далей <ляціць>.
Добрая слава на паліцы ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць.
Добры гаспадар і сабаку з двара (з хаты) не выганіць у такую нягоду (у такое надвор’е, у які дзень).
Добры пачатак — палавіна справы.
Добры сусед раднейшы за роднага брата.
За добрым мужам і варона жона, а за кепскім і княгіня загіне.
З добрым гаспадаром нажывешся, з дрэнным гора набярэшся.
Калядкі — добрыя святкі: пад'еў ды на палаткі
Любіў добрае, палюбі ж і злое.
Няма таго злога, каб не выйшла на добрае.
Свет не без добрых людзей.
Усе бабры дабры, адна выдра ліхая.
Час — найлепшы (самы лепшы, добры, вялікі) доктар (лекар).

**Дождж.** Дождж ідзе не тады, як просяць, а тады, як жнуць ды косяць.
Дождж ідзе не там, дзе просяць, а дзе косяць, не там, дзе ждуць, а там, дзе жнуць.
З вялікага грому <часамі, заўсёды> малы дождж <бывае>.
З вялікае хмары малы дождж.
Хоць плюй у вочы, а ён кажа (скажа, будзе гаварыць), што дождж ідзе.

**Дождждык.** Альбо дожджык, альбо снег, альбо будзе, альбо не.

**Доктар.** Здараецца, што і доктар ад жывата качаецца.
Час — найлепшы (самы лепшы, добры, вялікі) доктар (лекар).

**Доля.** Бог сіротак любіць, але долі не дае.
Гасподзь не без міласці, а казак не без долі.
У каго сем — тым і доля ўсем, а ў каго адно — і тое не ладно.

**Дом.** Без гаспадара дом сірата.
Госць у дом, бог у дом.
У сваёй хаце (у сваім доме) і вуглы (сцены) памагаюць.



Kamunikat.org

**Дома.** Без мяне мяне жанілі (ажанілі) <мяне дома не было>.
Будзьце як дома, але не забывайцеся, што ў гасцях.
Дома і вуглы памагаюць.
Дома і салома ядома.
Напрасткі <адна> варона лятае, затое (ды) <ніколі> дома не бывае.
Не вер каню ў дарозе, а жонцы дома.
У гасцях добра, а дома лепей (лепш).
Усюды добра, а дома лепей.
Хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар.
Шануй каня дома, а ён цябе ў дарозе.

**Доўга.** Скрыплівае дрэва доўга скрыпіць.

**Доўгі.** У бабы валасы доўгія (волас доўгі), а розум кароткі (памяць кароткая).
Хто б дзятла пазнаў (ведаў), каб не яго <доўгі> нос.

**Дохлы.** Ласка панская на рабым (дохлым) кані едзе.

**Дохнуць.** Ад (з) работы коні дохнуць.

**Дражніць.** Не дражні ліха, пакуль ціха.

**Драмаць.** На тое і шчупак у моры (у вадзе), каб карась не драмаў.

**Драсён.** Пайшоў (зарадзіў) драсён — не будзе (не жджы) красён.

**Дробны.** Першая <чарка> калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць (астатнія паляцяць дробнымі птушачкамі).

**Дровы.** Без падпалу дровы не гараць.
Далей у лес — болей дроў.
Чым далей у лес, тым болей (больш) дроў.

**Друг.** Для мілага друга і завушнічка з вуха.
Не той друг, што мёдам мажа, а той, што праўду ў вочы кажа.
Скажы <мне>, хто тваe сябры (твой сябра, твой друг), <і> я скажу, хто ты.
Стары друг лепш (лепей) за новых двух.

**Другі.** Адна бяда не ідзе, другую за сабой вядзе.
Аднаму густа, а другому пуста.
Адны пануюць, другія гаруюць.
Бяда адна не ходзіць <за сабою другую водзіць>.
Другіх слухай, а сваім розумам жыві.
<І> сам не гам і другому не дам.
Людзей (другіх) слухай, а (ды) свой розум май.
Не капай другому яму, сам у яе ўвалішся.
Пашлі дурнога, а за ім другога.
Першая жонка ад бога, другая ад людзей, а трэцяя ад чорта.
Першая <чарка> калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць (астатнія паляцяць дробнымі птушачкамі).
Першы дзень госць — золата, другі — срэбра, трэці — медзь, дадому (дахаты) едзь.
Прывычка — другая натура.
Як сабака на сене — і сам не гам і другому не дам.

**Дружба.** Дружба дружбай, а служба службай.
Дружба (прыяцель) пазнаецца ў няшчасці.
Не ў службу, а ў дружбу.
Служба не дружба.

**Дрыжаць.** Авечку стрыгуць, а баран дрыжыш».
Кажух ляжыш», а дурань дрыжыш».

**Дрэва.** На пахілую вярбу (на пахілае дрэва) козы скачуць.



Kamunikat.org

Скрыпучае дрэва жывучае.
Скрыпучае (скрыплівае) дрэва доўга скрыпіць (стаіць).
Якое дрэва, такі <і> клін, які бацька, такі <і> сын.

**Дрэнна.** Горка рэдзька, ды ядуць, цяжка (дрэнна, ліха) замужам, ды ідуць.
Горкая гарэлка (гарэлачка), але п'юць, дрэнна замужам, але ідуць.
Добраму чалавечку добра і ў запечку <а благой (якой) благаце дрэнна і на куце>.
Лепш (лепей) дрэнна ехаць, чым добра ісці.

**Дрэнны.** Добрае далёка чуваць, а дрэннае яшчэ далей.
З добрым гаспадаром нажывешся, з дрэнным гора набярэшся.

**Дуб.** Які дуб, такі і тын, які бацька, такі і сын.

**Дуга.** Вось вам хамут і дуга, <і, а> я вам <болей> не слуга.
<Калі> улез у дугу, дык не кажы <што> не магу.

**Дужацца.** З дужым не дужайся, з багатым не судзіся.

**Дужшы.** Гл. дужы.

**Дужы.** З багатым не варта судзіцца, а з дужым біцца.
З дужым не дужайся, з багатым не судзіся.
Узяўся за гуж, <дык> не кажы, што не дуж.
Узяўшыся за гуж, не кажы, што не дуж.
Хто дужшы, той прутам.

**Думаць.** Жывы пра жывое <і> думае.
Індык думаў, думаў (многа думаў) ды здох.
Хай конь думае: у яго галава большая (вялікая).

**Дурань.** Абяцанка-цацанка, а дурню радасць.
Адзін дурань можа задаць (задасць) столькі пытанняў, што дзесяць (сем) разумных не адкажуць.
Бойся быка спераду, каня ззаду, а дурня — з усіх чатырох бакоў.
Век жыві — век вучыся <а дурнем памрэш>.
Вырас пад неба, а дурань як трэба.
Вялік пень, ды дурань.
Дурню (дурному, дурням) закон не пісан.
Дурня і ў царкве б’юць.
Дурняў не аруць, не сеюць, яны самі родзяцца.
Еш, дурань, бо то з макам.
Жаніся, каб дурні не звяліся.
Загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб’е.
Застаў дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб’е.
Кажух ляжыш», а дурань дрыжыш».
Лепш (лепей) з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці.
Мужык — дурань, як умее, так і пее.
На наш век дурняў хопіць.
Не дурань, хто маўчыць.
Пашлі дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб’е.
П’яніца праспіцца, а дурань ніколі.
Работа дурняў (дурня, дурных) любіць.
Хіцер Зміцер, але (ды) і Саўка не дурань (не дурны).
Чужы дурань — смех, свой дурань — сорам.

**Дурачына.** Смех без прычыны — прызнак (знак) дурачыны.

**Дурносць.** Маладосць — дурносць.

**Дурны.** Абяцанкі-цацанкі, а дурню (дурному) радасць.
Дурная справа не хітрая.
Дурню (дурному, дурням) закон не пісан.
За дурной галавой нагам неспакой (небалазе).



Kamunikat.org

Пашлі дурнога, а за ім другога.
Хіцер Зміцер, але (ды) і Саўка не дурань (не дурны).

**Дух.** Воўчы дух (воўчае насенне) да лесу цягне.
Пакуль (покуль) з багатага пух, то (дык) з беднага дух.
У здаровым целе — здаровы дух.

**Душа.** Зляпіў бог душу — ні ў пень, ні ў грушу.
Мая душа не крывая, усё прымае.
Пакуль да бога, дык (то, так) чорт душу выме.
Рада б душа ў рай, ды грахі не пускаюць.
Рукі пабрудзіш — вадою адмыеш, душу забрудзіш — і мыла не паможа.
Хацела б душа ў рай, ды грахі не пускаюць.
Як не ела душа часнаку, пахнуць не будзе.

**Дыбаць.** Блізка відаць, ды далёка дыбаць.
Хоць і відаць, але далёка дыбаць.

**Дым.** Дыму без агню не бывае.
Куды вецер, туды і дым.
Сорам не дым, вачэй (вочы) не выесць.

**Дышаль.** Закон што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла.

**Д'ябал.** Сівізна ў валасы, <а> д'ябал у рабро.
Чорт за чортам (за д'ябла) цягне.

**Ежа.** Дасць бог дзень, дасць і полудзень (хлеб, ежу, пажытак).

**Ежка.** Каб не ежка ды адзежка, была б грошай поўна дзежка.

**Ездзіць.** Восень на рабым кані ездзіць.

**Есці.** Ганчар гаршкі лепіць, а сам у чарапку <есці> варыць.
Горка рэдзька, ды ядуць, цяжка (дрэнна, ліха) замужам, ды ідуць.
Было што піць і есці, але прынукі не было.
Еш, дурань, бо то з макам.
Еш пірог (боршч) з грыбамі, а язык трымай за зубамі.
Еш селядца з галавою, за ўсё грошы плачаны.
Ёсць хлеб — ядзім, а няма — глядзім, сёння паабедаем, а як заўтра — не ведаем.
Лішняга і свінні не ядуць (свіння не есць).
Не пі, не еш і з хаты не лезь.
Пі ды еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш.
Свайго не меўшы, трэба легчы (кладзіся) спаць не еўшы.
Хлеб-соль еш, а праўду рэж.
Хто не працуе (не робіць), той не есць.
Ці свінні елі, ці шляхта папасвалася (папаску мела).
Чакай, баба, Пятра — будзеш сыр есці.
Чакай, цётка, Пятра — будзеш сыр есці.
Што (чаго) не ясі, <таго> у рот не нясі.
Ядзім хлеб траякі: чорны, белы і ніякі.
Як не ела душа часнаку, пахнуць не будзе.

**Ехаць.** Едзеш на дзень, бяры хлеба на тыдзень.
Еду ціха — са мной ліха, еду скора — са мной гора.
Ехаўшы бачком, ні з кім не зачэпішся.
Куды еду, туды еду, ды ўсё карчмы не міну.
Ласка панская на рабым (дохлым) кані едзе.
Лепш (лепей) дрэнна ехаць, чым добра ісці.
На чыім возе (вазку, коніку) едзеш, таму і песню (песеньку, песенькі) спявай (пей, вядзі).
Не тады сабак кормяць, як на паляванне ісці (ехаць).

Памалу едучы, далей будзеш.
Пацiху едзеш — далей будзеш.
Першы дзень госць — золата, другi — срэбра, трэцi — медзь, дадому (дахаты) едзь.
Хто можа, той i едзе.
Цiшэй едзеш — далей будзеш.

**Ён.** Грозны рак, ды дзе ў яго вочы?
Дзе воўк радзiўся, там i куст яму мiл.
Дзе толькi мужык з слаўцом, там за iм пуга з вузлом.
Загадай дурню богу малiцца, дык ён i лоб разаб'е.
Займi чорта ад варот, дык ён цераз плот.
Застаў дурня богу малiцца, дык ён лоб разаб'е.
Каб пазнаць (ведаць) чалавека, <дык> трэба з'есцi з iм пуд солi.
Колькi (як) ваўка (воўка) нi кармi, <а> ён у лес глядзiць (паглядае).
Нашто богу малiцца, — ён нас i так баiцца.
Не ён першы, не ён апошнi
Не такi (не так) чорт страшны, як яго малююць.
Пашлi дурнога, а за iм другога.
Пашлi дурня богу малiцца, дык ён лоб разаб'е.
Пра воўка (аб воўку) памоўка, а ён <i сам> тут.
Прыбяры пень, дык i ён будзе прыгожы.
Ты з варот, а ён цераз плот.
Ты яго маслам маж, а ён дзёгцем смярдзiць.
Ты яму «стрыжанае, а ён табе «галёна».
Хай конь думае: у яго галава большая (вялiкая).
Хоць муж (мужык) з лапаць, абы з iм не плакаць.
Хоць плюй у вочы, а ён кажа (скажа, будзе гаварыць), што дождж iдзе.
Цешыўся старац, што пераржыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю.
Шануй каня дома, а ён цябе ў дарозе.
Як ваўка нi кармi, <а> ён у лес глядзiць.
Як ваўка нi кармi, а яго ў лес цягне.
Як воўка нi кармi, <а> ён у лес глядзiць.
Яму ранiцаю росна, у поўдзень млосна, а ўвечары камары кусаюць.
Я яму пра Фаму (пра Кузьму), а ён мне пра Ярому.

**Ёсць.** Дзе госць, там i бог ёсць.
Ёсць хлеб — ядзiм, а няма — глядзiм, сёння паабедаем, а як заўтра — не ведаем.
I ў сцен ёсць вушы.
Усяму на свеце ёсць канец.

**Жаба.** Любiў рак жабу, аж вочы выеў.
Не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць.
Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў.

**Жабрак.** Жабрак жабраку вiдзён па кiйку.

**Жаваранак.** Жаваранак прылятае на пратaлiну, шпак на прагалiну, жораў з цяплом, а ластаўка з лiстом.

**Жаваць.** Жывём, хлеб жуём.

**Жалеза.** Куй жалеза, пакуль гарачае.
Куй жалеза, пакуль не астыла.

**Жана.** Муж i жана — адна сатана.

**Жанiцца.** Жанiся, каб дурнi не звялiся.
Калi беднаму жанiцца, <то, i> ноч кароткая.
Не кайся, рана ўстаўшы (падняўшыся) i рана жанiўшыся.

Kamunikat.org

Пакуль жаніцца — заіліцца.
<Як> фаце жаніцца, <дык, і> ноч (ночка) кароткая (малая).

**Жаніць.** Без мяне мяне жанілі (ажанілі) <мяне дома не было>.

**Жар.** Чужымі рукамі жар заграбаць лёгка (добра).

**Жарабё.** Як (калі) удасца жарабё (бычок) з лысінкай, дык і здохне (састарэе) такім (з лысінкай).

**Жарства.** Наелася пападдзя круп, дык жарствы захацела.

**Жарт.** Кату жарты — мышцы смерць.

**Жартаваць.** Чым чорт не жартуе, калі (пакуль) бог спіць.

**Жаць.** Дождж ідзе не тады, як просяць, а тады, як жнуць ды косяць.
Дождж ідзе не там, дзе просяць, а дзе косяць, не там, дзе ждуць, а там, дзе жнуць.
Ішла Хоўра жыта жаць, забылася серп узяць.
Сама сябе раба б'е, калі (што) нячыста жне.

**Жбан.** Да пары збан (жбан) ваду носіць <ручка (вушка) адарвецца — збан паб'ецца>.

**Ждаць.** Дождж ідзе не там, дзе просяць, а дзе косяць, не там, дзе ждуць, а там, дзе жнуць.
Пайшоў (зарадзіў) драсён — не будзе (не жджы) красён.

**Жменя.** Лепш сініца ў руцэ (у жмені), чым журавель (жораў) у небе.

**Жона.** Гл. жонка.

**Жонка.** Брат любіць сястру багатую, а мужык (муж) жонку здаровую.
Выбірай жонку не на прышчы, а на іржышчы.
Дай жонцы (бабе) волю — завядзе ў няволю.
Жонка не лапаць, з нагі не скінеш.
Жонка не рукаў (не рукаво), не адпораш.
За добрым мужам і варона жона, а за кепскім і княгіня загіне.
Мужык з жонкай сварыцца, калі трасца ў гаршку варыцца.
Не вер каню ў дарозе, а жонцы дома.
Першая жонка ад бога, другая ад людзей, а трэцяя ад чорта.
Шукай жонку ў гародзе, а не ў карагодзе.
Які <чорт> Хомка, такая яго жонка.

**Жораў.** Жаваранак прылятае на праталіну, шпак на прагаліну, жораў з цяплом, а ластаўка з лістом.
Лепш сініца ў руцэ (у жмені), чым журавель (жораў) у небе.

**Жраць.** Хвароба — мігрэнь: жраць ахвота, а працаваць лень.

**Жук.** За пчолкаю — у мёд, за жуком — у гной.
Малы жук, ды вялікі гук.
На чужой старане і жук мяса <і старая баба — маладзіцах

**Жупіць.** Што каму рупіць, <то> той тое (пра тое) і жупіць.

**Журавель.** Лепш сініца ў руцэ (у жмені), чым журавель (жораў) у небе.

**Жучок.** Папаўся жучок ў панскую ручку.

**Жывіцца.** Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.
Няхай багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.

**Жывот.** Абедаў, а жывот не ведаў.
Здараецца, што і доктар ад жывата качаецца.
Сіраце прыкіпіць (дакіпіць) у жываце.

**Жывы.** Жывому (жывым) наўме жывое.
Жывы (жывым) у зямлю (у магілу, у ямку) не палезеш (не ляжаш).
Жывы пра жывое <і> думае.
На жывой касці мяса мусіць нарасці.



Kamunikat.org

На жывой касці мяса нарасце.
На жывых касцях мяса нарасце.

**Жыта.** Гутар, гутар, а валы ў жыта.
За маё жыта ды мяне і пабіта.
Ішла Хоўра жыта жаць, забылася серп узяць.
Не зважай (не ўважай) на ўраджай, а жыта сей.
Паміраць збірайся (збіраешся), а жыга сей.
У прочкі выбірайся, а жыта сей.

**Жытка.** Жыве кот і сабака, ды жытка не аднака.

**Жыццё.** Жыццё пражыць — не поле перайсці.
Каму кірмаш, а каму жыцця нямаш.

**Жыць.** Век жыві — век вучыся <а дурнем памрэш>
Два вякі я жыць не збіраюся.
Другіх слухай, а сваім розумам жыві.
Жыве кот і жыве сабака.
Жыве кот і сабака, ды жытка не аднака.
Жывём (жыву) як <той> гарох пры дарозе — хто ідзе, той і скубе.
Жывём, хлеб жуём.
З ваўкамі жыць — па-воўчы (па-воўчаму, па-ваўчынаму) выш».
З кім жыць, таго не гнявіць.
На вяку (жывучы) усяго нажывеш — і Кузьму татам назавеш.
Не хлебам адзіным жыве чалавек.
Сем гадоў нявестка жыла, а не ведала, што сучка свёкрава без хваста.
Сем гадоў нявестка жыла замужам і не ведала, што ў свёкра сучка без хваста.
Скрыпучае дрэва жывучае.
Скрыпучая вярба два вякі жыве.
Які б ні быў Панцялей, а жыць весялей.

**Забіць.** Без струманту (без снасці) і вошы (гніду) не заб'еш.
Забілі зайца не забілі, а гуку (шуму) многа нарабілі.
Калі заб'еш бабра, то не будзе табе дабра.
Хто заб'е бабра, не мець дабра.

**Забраць.** Злодзей хоць вуглы пакіне, а агонь усё забярэ.

**Забрудзіць.** Рукі пабрудзіш — вадою адмыеш, душу забрудзіш — і мыла не паможа.

**Забывацца.** Будзьце як дома, але і не забывайцеся, што ў гасцях.

**Забыцца.** Ішла Хоўра жыта жаць, забылася серп узяць.

**Заварыць.** Сам заварыў кашу, <дык> няхай сам і расхлёбвае.
Сам заварыў кашу, сам і расхлёбвай.

**Завесці.** Дай жонцы (бабе) волю — завядзе ў няволю.

**Завушніка.** Для мілага друга і завушнічка з вуха.

**Завязаць.** Адной рукой і вузла не завяжаш.
Людзям языка (языкоў) не завяжаш.
Людскога языка не завяжаш.

**Загадаць.** Загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб'е.
Сэрцу не загадаеш.

**Загаіцца.** Пакуль жаніцца — загаіцца.

**Заганяць.** Прайшлі пакровы — заганяй у хлеў каровы.

**Загінуць.** За добрым мужам і варона жона, а за кепскім і княгіня загіне.

**Заглянуць.** Загляне сонца <і> у наша аконца.

**Загнівацца.** Рыба з галавы псуецца (загніваецца, пачынае гніць, гніе).



Kamunikat.org

**Заграбаць.** Чужымі рукамі жар заграбаць лёгка (добра).

**Загрымець.** <Пакуль> гром не грымне (не загрыміць), мужык не перахрысціцца.

**Зад.** Карова целіцца, а ў быка зад баліць.

**Задам.** Задам (назад) талькі ракі поўзаюць (паўзуць, ходзяць).

**Задарам.** Задарам і скулка не садзе.

**Задарма.** Дарма (задарма) і каза <ваўку> не скача.

**Задаць.** Адзін дурань можа задаць (задасць) столькі пытанняў, што дзесяць (сем) разумных не адкажуць.

**Задужа.** Што задужа (занадта), то (тое) не здрова (не здарова).

**Заехаць.** На лечаным кані далёка не заедзеш.

**Зайчык.** Ранні зайчык зубкі цярэбіць, а позні вочкі прадзірае.

**Заказваць.** Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку.

**Закаханы.** У закаханай кухаркі няўдалая страва выходзіць.

**Закінуць.** Закінеш назад — знойдзеш наперадзе.

Кінь (кінеш, закінь) наперад (уперад) — знойдзеш ззаду.

Лёгкае пяро, ды на страху не закінеш.

**Закон.** Дурню (дурному, дурням) закон не пісан.

Закон, што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла.

**Залатнік.** Малы залатнік, ды дарагі.

**Залаты.** Не пад'ясі — і залатую фурманку аддасі.

**Заліць.** Студзень мяце — ліпень залье.

**Замок.** На чужы рот (язык) замок не навесіш (не павесіш).

**Замужам.** Горка рэдзька, ды ядуць; цяжка (дрэнна, ліха) замужам, ды ідуць.

Горкая гарэлка (гарэлачка), але п'юць, дрэнна замужам, але ідуць.

Сем гадоў нявестка жыла замужам і не ведала, што ў свёкра сучка без хваста.

**Занадта.** Што задужа (занадта), то (тое) не здрова (не здарова).

**Заняць.** Займі чорта ад варот, дык ён цераз плот.

**Запас.** Запас бяды не чыніць.

**Запела.** Была б дзеўка, ды певень запеў, як радзілася.

**Запечак.** Добраму чалавечку добра і ў запечку <а благой (якой) благаце дрэнна і на куце>.

**Запісаць.** Хто па ядзе (пад'еўшы) не аддыша, таго бог за свінню запіша.

**Заплакаць.** Пакуль дзіця не заплача, маці не дагадаецца.

**Запрагаць.** Не хвалі каня запрагаючы, а дзеўку выбіраючы.

**Запрэгчы.** Даўся запрэгчы — дасіся і паганяць.

**Запыліцца.** Быўшы ля мукі, запылішся.

Каля мукі ходзячы, запылішся.

**Зарадзіць.** Зарадзіў драсён — не будзе (не жджы) красён.

**Заракацца.** Ад торбы (ад сумы) і (ды) ад турмы не адракайся (не заракайся).

**Засіліць.** Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш не памачыўшыся.

**Засланіць.** Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала.

**Заслуга.** Якая заслуга, такая і пашана.

**Заставіць.** Застаў дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб'е.



Kamunikat.org

**Застацца.** Усё мінецца, а праўда застанецца.

**Заўважаць.** Бачым сучок у воку брата свайго, а бервяна ў сваім не заўважаем.

У чужым воку саломку (саломінку) бачым, а ў сваім <і> бервяна не заўважаем.

**Заўсёды.** Адзін Сцяпан — заўсёды пан, а калі і нястача, дзіця не плача.

Гара з гарой не сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсёды.

З вялікага грому <часамі, заўсёды> малы дождж <бывае>.

Маладое піва заўсёды шуміць.

Маленькая сучка заўсёды шчаня.

Не заўсёды світае, як певень спявае.

Не ўсё (не заўсёды) кату масленіца <прыйдзе і вялікі пост>.

Шавец заўсёды <ходзіць> без ботаў.

**Заўсягды.** Не заўсягды, як на дзяды.

**Заўтра.** Ёсць хлеб — ядзім, а няма — глядзім, сёння паабедаем, а як заўтра — не ведаем.

Ніколі не адкладвай на заўтра, што можна зрабіць сёння.

Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра.

Тое, што можна зрабіць сёння, ніколі не адкладвай на заўтра.

**Захацець.** Захацеўшы сабаку выцяць, палку знойдзеш.

Захочаш сабаку выцяць (ударыць) — палку (кій) знойдзеш.

Калі захочаш сабаку выцяць, то кій знойдзеш.

Наелася пападдзя круп, дык жарствы захацела.

Ш села, ні пала, захацела баба сала.

Пусці свінню пад стол, то яна захоча і на стол.

**Зачапіцца.** Ехаўшы бачком, ні з кім не зачэпішся.

**Заяц.** Забілі зайца не забілі, а гуку (шуму) многа нарабілі.

За двума зайцамі пагонішся, ніводнага (ні аднаго) не зловіш.

Работа не заяц, не ўцячэ.

**Збан.** Да пары збан (жбан) ваду носіць <ручка (вушка) адарвецца — збан паб'ецца>.

**Збегчы.** Работа (праца, справа) не воўк, у лес не ўцячэ (не збяжыць, не пабяжыць).

**Збірацца.** Голы збірайся, голы гатоў.

Два вякі я жыць не збіраюся.

Паміраць збірайся (збіраешся), а жыта сей.

**Збродлівы.** Збродлівай кошцы хвост уцінаюць.

**Звадка.** Няма той хаткі, дзе б (каб) не было звадкі.

**Зважаць.** Не зважай (не ўважай) на ўраджай, а жыта сей.

**Званіць.** Глухім два разы ў касцёле не звоняць.

**Зварыць.** Зваранай рыбе вада не патрэбна.

**Зваць.** Няхай хоць гаршком завуць, абы ў печ не ставілі

Хоць гаршком заві (называй), адно (толькі, а) у печ не стаўляй (не стаў).

**Зведаць.** Не ведаючы (не зведаўшы) броду, не сунься ў воду.

**Звер.** На лаўца і звер бяжыць.

Паранены звер страшны (яшчэ больш небяспечны).

**Звесціся.** Жаніся, каб дурні не зваліся.

**Зводзіць.** Шэпты хату зводзяць.

**Звычай.** Што <ні> край, то <і, свой> абычай (звычай).

Kamunikat.org

**Звяга.** Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць.

**Згадзіцца.** Яшчэ той не радзіўся, каб усяму свету згадзіўся.

**Згінуць.** Чорт бяду перабудзе — адна згіне, дзесяць будзе.

**Згода.** Маўчанне — знак згоды.

**Згубіць.** За вялікім пагонішся — і малое згубіш.
Лепш (лепей) з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці.

**Здавацца.** Калі здаецца, дык (то) трэба хрысціцца.

**Здаляка.** Рыбак рыбака бачыць здаляка.

**Здарацца.** Здараецца, што і доктар ад жывата качаецца.

**Здаровы.** Брат любіць сястру багатую, а мужык (муж) жонку здаровую.
Да цябе (да вас) не п'юць, не кажы (не кажыце) здароў будзь.
Не да вас п'юць, не кажыце здароў будзь.
Не да цябе п'юць, не кажы здароў будзь.
У здаровым целе — здаровы дух.

**Здароў.** Гл. здаровы.

**Здорава.** Што задужа (занадта), то (тое) не здрова (не здорава).

**Здохнуць.** З якой лысінкай цёлка нарадзілася, з такой і здохне.
Індык думаў, думаў (многа думаў) ды здох.
Каб не клін ды не мох, дык (то і) цясляр (цесля, плотнік) бы падох (здох).
Конская матка не здохла.
Лысае цялятка і здохне з лысінкай.
Уродзіцца цяля з лысінкай, то і з лысінкаю здохне.
Як (калі) удасца жарабё (бычок) з лысінкай, дык і здохне (састарэе) такім (з лысінкай).

Здраднік. Здраднік за агрызкі прадасць родных і блізкіх.

**Здрова.** Што задужа (занадта), то (тое) не здрова (не здорава).

**Здыхаць.** Кабыла (конь) здыхае, а <за> траву хватае (хапае).

**З'ездзіцца.** Быў конь, ды з'ездзіўся.

**Зерне.** Не раскусіш арэх, зерня не з'ясі.

**З'есці.** Адзін з'еш хоць вала, <дык> адна хвала <а пакрысе, ды ўсе>.
Бог не выдасць (не дасць, не папусціць, не прадасць), свіння не з'есць.
Ведае (знае) кошка, чыё сала з'ела.
Гадка (гідка) з'есці і шкада кінуць.
Галодны і каня з капытамі з'есць.
Дай божа (бог) нашаму цяляці ваўка (воўка) спаймаці (з'есці).
Добрае сена: каб пасаліў, то і поп з'еў бы.
Каб пазнаць (ведаць) чалавека, <дык> трэба з'есці з ім пуд солі.
Не раскусіш арэх, зерня не з'ясі.
Праўда не скварка, з кашаю не з'ясі.
Сабака не з'есць, пакуль не пакачае.
Трэба пуд солі з'есці, каб пазнаць чалавека.
Чакай Пятра — сыр (сыру) з'ясі.

**Зжыць.** Век зжыць — не мех сшыць.

**Ззаду.** Бойся быка спераду, каня ззаду, а дурня — з усіх чатырох бакоў.
Грозен (грозны) рак, ды (але) ззаду вочы.
Кінь (кінеш, закінь) наперад (уперад) — знойдзеш ззаду.

**Зіма.** Гусі нізка — зіма блізка.

**Зімаваць.** Два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць.

Kamunikat.org

**Зіміца.** Грамніцы — палавіна зіміцы.

**Зімні.** Зімняя ночка — бацьку сарочка.

**Зімой.** Рыхтуй калёсы зімой, а сані летам.

**Злавіць.** Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш не памачыўшыся.

За двума зайцамі пагонішся, ніводнага (ні аднаго) не зловіш.

Не злавіў — не злодзей.

Не злавіў (не ўзяў) за руку, не кажы <што> злодзей.

Не злавіўшы, не кажы, што злодзей.

Не злоўлены — не злодзей.

Слова не верабей, выпусціў (выпусціш, вылеціць, вылецела) — не зловіш.

Старога вераб'я на мякіне не зловіш (не падманеш, не правядзеш).

**Злазіць.** Злазь з даху <і> не псуй гонту (гонты, гонтаў).

З чужога воза і сярод гразі (броду) злазь (злазяць, злезеш).

**Злезці.** З чужога воза і сярод гразі (броду) злезеш.

**Злодзей.** Злодзей хоць вуглы пакіне, а агонь усё забярэ.

Злодзею адна дарога, а хто шукае, таму многа.

На злодзеі шапка гарыць.

Не злавіў — не злодзей.

Не злавіў (не ўзяў) за руку, не кажы <што> злодзей.

Не злавіўшы, не кажы, што злодзей.

Не злоўлены — не злодзей.

Хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар.

**Злосць.** Як няма рыбы без косці, так і няма чалавека без злосці.

**Злы.** Любіў добрае, палюбі ж і злое.

Няма таго злога, каб не выйшла на добрае.

**Злюбіцца.** Сцерпіцца — злюбіцца.

**Зляпіць.** Зляпіў бог душу — ні ў пень, ні ў грушу.

**Змагчы.** Дзе чорт <сам> не зможа (не можа), туды (там) бабу пашле.

**Змарыць.** Родная зямелька як зморанаму пасцелька.

**Змачыць.** І рыбы не хачу, і адзежкі не змачу.

**Зміцер.** Хіцер Зміцер, але (ды) і Саўка не дурань (не дурны).

**Зміцер.** Хіцёр Зміцер, ды і Саўка не дурны.

**Змяніцца.** Усё цячэ, усё змяняецца.

**Знаёмы.** Скажы мне, з кім ты знаёмы, і я скажу, хто ты.

**Знайка.** Нязнайка ляжыць, а знайка бяжыць.

**Знайсці.** Закінеш назад — знойдзеш наперадзе.

Захацеўшы сабаку выцяць, палку знойдзеш.

І за лучынку знойдзе прычынку.

І за шчэпку знойдзе прычэпку.

Калі захочаш сабаку выцяць, то кій знойдзеш.

Кінь (кінеш, закінь) наперад (уперад) — знойдзеш ззаду.

Кінь (кінеш) за сабою, <то> знойдзеш перад сабою.

Кінь назад — знойдзеш наперадзе.

Кінь перад сабою, знойдзеш за сабою.

Лепш (лепей) з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці.

Не шукай бяды, яна <сама> цябе знойдзе.

Не шукаючы, не знойдзеш.

Свіння лужыну (лужу) знойдзе.

**Знайсціся.** Была б (абы) шыя, <а> хамут знойдзецца.



Kamunikat.org

Было б балота, а чэрці знойдуцца.

**Знак.** Смех без прычыны — прызнак (знак) дурачыны.

**Знаходзіць.** Хто шукае, той знаходзіць.

**Знаць.** Ведае (знае) кошка, чыё сала з'ела.

І без папа ведаю (ведаем, знаю, знаем), што ў нядзелю свята.

Мая хата з краю <і я> нічога не знаю.

Хочаш многа знаць, трэба мала спаць.

**Зняць.** Зняўшы галаву, па валасах не плачуць.

**Золата.** Золата і ў смецці (у попеле) блішчыш».

Не ўсё тое золата, што блішчыць.

Першы дзень госць — золата, другі — срэбра, трэці — медзь, дадому (дахаты) едзь.

Слова — серабро (срэбра), маўчанне — золата.

**Зрабіцца.** Будзеш усё ведаць, хутка (скора) пастарэеш (састарышся, стары зробішся).

**Зрабіць.** Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа ісці (адысці).

Ніколі не адкладвай на заўтра, што можна зрабіць сёння.

Раней устанеш — болей зробіш.

Сказана — зроблена.

Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра.

Тое, што можна зрабіць сёння, ніколі не адкладвай на заўтра.

**Зраўнаваць.** Бог лесу не зраўнаваў, а то людзей ты зраўнуеш.

**Зраўняць.** Бог лесу не зраўняў, не тое што людзей.

**Зуб.** Вастры зуб аб зуб і розум аб розум.

Дараванаму (дарованаму, дармоваму) каню ў зубы не глядзяць.

Еш пірог (боршч) з грыбамі, а язык трымай за зубамі.

Па аблічччы апостал, а па зубах сабака.

Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў.

**Зубок.** Ранні зайчык зубкі цярэбіць, а позні вочкі прадзірае.

Ранняя птушка (птушачка, пташачка) зубкі (крыцкі) цярэбіць, а позняя вочы праціраe.

**Зык.** Карову б'юць за зык, а бабу за язык.

**Зяваць.** На бога спадзявайся, а (ды) сам не давайся (не агінайся, не зявай).

**Зязюля.** Начная зязюля (зязюлька) дзённую перакукуе.

Тая зязюля, ды не так кукуе.

**Зямелька.** Родная зямелька як зморанаму пасцелька.

**Зямля.** Жывы (жывым) у зямлю (у магілу, у ямку) не палезеш (не ляжаш).

Зямля святая ўсіх прымае.

Чуткамі зямля поўніцца.

**Зяць.** Зяць любіць узяць.

**Іван.** Беднаму (няшчаснаму) Івану няма нідзе талану.

Іван ківае на Пятра <а Пётр на Івана>.

**Іголка.** Куды іголка (іголачка), туды і нітка (нітачка).

**Ігрышча.** Выбірай жонку не на ігрышчы, а на іржышчы.

**Ілья.** Прыйдзе Ілья — наробіць гнілля.

Прыйшоў Пятрок — апаў лісток; прыйшоў Ілья — апала два.

**Ім.** Гл. ён.

**Індык.** Індык думаў, думаў (многа думаў) ды здох.

**Іншы.** Не будзе Гірша (-ы), <дык> будзе чорт іншы.



Kamunikat.org

У гадзюкі няма іншай навукі, як кусаць.

**Ірвацца.** Дзе коратка (тонка), там ірвецца (і рвецца).

**Іржышча.** Выбірай жонку не на прышчы, а на іржышчы.

**Іскра.** Іскру тушы да пажару, бяду адводзь да ўдару.

**Ісці.** Адклад не ідзе на (у) лад.
Адна бяда не ідзе, другую за сабой вядзе.
Горка рэдзька, ды ядуць, цяжка (дрэнна, ліха) замужам, ды ідуць.
Горкая гарэлка (гарэлачка), але п’юць, дрэнна замужам, але ідуць.
Граза ў лес не ідзе.
Добрая слава далёка ідзе, а кепская (ліхая) яшчэ далей <ляціць>.
Дождж ідзе не тады, як просяць, а тады, як жнуць ды косяць.
Дождж ідзе не там, дзе просяць, а дзе косяць, не там, дзе ждуць, а там, дзе жнуць.
Жывём (жыву) як <той> гарох пры дарозе — хто ідзе, той і скубе.
Ішла Хоўра жыта жаць, забылася серп узяць.
Ішоў ваякам, а назад ракам.
Калі гара не ідзе да Магамета, то Магамет ідзе да гары.
Лепш (лепей) дрэнна ехаць, чым добра ісці.
Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа ісці (адысці).
Не тады сабак кормяць, як на паляванне ісці (ехаць).
Салдат спіць, а служба ідзе.
Хоць плюй у вочы, а ён кажа (скажа, будзе гаварыць), што дождж ідзе.

**Кабыла.** Баба з воза — каню (кабыле) лягчэй.
<I> я не я і кабыла не мая.
Кабыла (конь) здыхае, а <за> траву хватае (хапае).
Кожны (усякі) цыган сваю кабылу хваліць.
Ні калёс, ні атос, і воўк кабылу панёс.
Пашкадаваў воўк кабылу <пакінуў хвост ды грыву>.

**Каваць.** Куй жалеза, пакуль гарачае.
Куй жалеза, пакуль не астыла.
Не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць.

**Каго.** Гл. хто.

**Кадушка.** Бяздоннай бочкі (бяздонную кадушку) не напоўніш.

**Кажух.** Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць.
Чужы кажух цела не грэе.
Што кажух, то не вата, <а> што капуста, то не гарбата.

**Каза.** Воўк казе не таварыш.
Дарма (задарма) і каза <ваўку> не скача.
На пахілую вярбу (на пахілае дрэва) козы скачуць.

**Казак.** Бог не без літасці, казак не без шчасця.
Гасподзь не без міласці, а казак не без долі.
Дажыліся (дажылі) казакі (палякі), <што> ні хлеба, ні табакі.
Цярпі, казак, атаманам будзеш.

**Казаць.** Да цябе (да вас) не п'юць, не кажы (не кажыце) здароў будзь.
Казала ліха, што не быць дабру.
Казала Насця, як удасца.
Калі не пераскочыў, не кажы гоп.
Калі ўзяўся за гуж, не кажы, што не дуж.
<Калі> улез у дугу, дык не кажы <што> не магу.
Не да вас п’юць, не кажыце здароў будзь.
Не да цябе п’юць, не кажы здароў будзь.
Не злавіў (не ўзяў) за руку, не кажы <што> злодзей.



Kamunikat.org

Не злавіўшы, не кажы, што злодзей.
Не кажы гоп, не пераскочыўшы.
Не кажы гоп, пакуль не пераскрчыў (не пераскочыш).
Не мне казаць, не табе слухаць.
Не пераскочыў, не кажы гоп.
Не пераскочыўшы, не кажы гоп.
Не той друг, што мёдам мажа, а той, хто праўду ў вочы кажа.
Скачы, урэжа, як пан кажа.
Стары кажа на глум, а малады бярэ на вум.
Узяўшыся за гуж, не кажы, што не дуж.
Хоць плюй у вочы, а ён кажа (скажа, будзе гаварыць), што дождж ідзе.

**Калаціцца.** Калі на гумне не малоціцца, тады ў хаце калоціцца.

**Калена.** Магдалена — вады па калена.
П'янаму <і> мора па калена.

**Калёсы.** Баба з калёс — калёсам лягчэй.
Ні калёс, ні атос, і воўк кабылу панёс.
Рыхтуй калёсы зімой, а сані летам.

**Калі-небудзь.** Будзе <калі-небудзь, некалі> і на нашай (маёй, тваёй) вуліцы свята.

**Калодзеж.** Не плюй у калодзеж, прыйдзецца напіцца.

**Калок.** Новае сітца на калку навісіцца, а старое і пад лаўкай наваляецца.

**Калоць.** Гора табе, воле, калі цябе карова коле.
Праўда вочы коле.

**Калыхаць.** Багатаму чорт дзяцей калыша.

**Калядкі.** Калядкі — добрыя святкі: пад'еў ды на палаткі.

**Камар.** Яму раніцаю росна, у поўдзень млосна, а ўвечары камары кусаюць.

**Камедыя.** Камедыя, хто не ведае, а хто і ведае, дык усё роўна камедыя.

**Камень.** Кропля камень крышыць (дзяўбе).
На адным месцы і камень <мохам> абрастае.
Пад ляжачы камень вада не цячэ (не пацячэ, не бяжыць, не пабяжыць).
Сэрца не камень.

**Кампанія.** За кампанію <і> цыган павесіўся.

**Каму.** Гл. хто.

**Камяк.** Першы блін выйшаў камяком.
Першы блін камяком.

**Канец.** Канец — дзелу вянец.
Колькі вяровачку ні вію», канец будзе.
Колькі вяровачцы ні віцца, а канцу быць (канец будзе).
Усё на свеце мае <свой> канец.
Усяму на свеце ёсць канец.
Як вяровачцы ні віцца, а канцу паявіцца.

**Капаць.** Не капай другому яму, сам у яе ўвалішся.
Хто пад кім яму капае, часта сам у яе ўпадае.
Ціхая свіння глыбока рые (капае).

**Капейка.** Брыгадзір капейкі не варт, калі чарцы рад.
Капейка рубель беражэ.
Хто капейкі не беражэ, таго рубель баіцца.



Kamunikat.org

**Капітан.** Калі п’яны (як п’ян), дык капітан, а калі (як) праспіцца, дык свінні баіцца.

**Капрал.** Хто палку ўзяў, той і капрал.

**Капуста.** Што кажух, то не вата, <а> што капуста, то не гарбата.

**Капыт.** Галодны і каня з капытамі з’есць.
Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй (з клюшнямі).

**Карабель.** Багатаму шкада (шкода) карабля, а беднаму — кашаля.
Вялікаму караблю — вялікае <і> плаванне.

**Каравай.** На чужы каравай рота (рот) не разяўляй (не разявай).

**Карагод.** Не выбірай дзеўку ў карагодзе, а ў агародзе.
Шукай жонку ў гародзе, а не ў карагодзе.

**Карась.** На тое і шчупак у моры (у вадзе), каб карась не драмаў.

**Каркаць.** Убіўся ў вароны, каркай так, як і оны.

**Карміць.** Ваўка (воўка) ногі кормяць.
Вясенні (вясновы) дзень год корміць.
Колькі (як) ваўка (воўка) ні кармі, <а> ён у лес глядзіць (паглядае).
Лета год корміць.
Летні дзень год корміць.
Не тады сабак кормяць, як на паляванне ісці (ехаць).
Салаўя байкамі (песнямі) не кормяць.
Як ваўка ні кармі, а яго ў лес цягне.
Як сабаку кормяць, так сабака і брэша.

**Карова.** Адну карову мае і тую за хвост падымае.
Бадлівай карове бог рог не дае.
Гора табе, воле, калі цябе карова коле.
Карова на дварэ, <дык> і харч на стале.
Карова целіцца, а ў быка зад баліць.
Карову б’юць за зык, а бабу за язык.
Малако ў каровы на языку.
Прыйшлі пакровы — заганяй у хлеў каровы.
Цаляеш у варону, а пападаеш у карову.
Чыя б кароўка (карова) мычала, а твая (чыя) б маўчала (памаўчала).

**Кароткі.** Калі беднаму жаніцца, Сто, і> ноч кароткая.
У бабы валасы доўгія (волас доўгі), а розум кароткі (памяць кароткая).
<Як> сіраце жаніцца, <дык і> ноч (ночка) кароткая (малая).

**Кароўка.** Прапала кароўка, прападай (няхай прападае) <і> вяроўка.
Чыя б кароўка (карова) мычала, а твая (чыя) б маўчала (памаўчала).

**Карцішка.** У карцішкі няма брацішкі.

**Карчма.** Дзе поп царкву ставіць, там пан карчму ладзіць.
Куды еду, туды еду, ды ўсё карчмы не міну.
Цярпі, Грышка, карчма блізка.

**Карысць.** Старасць не радасць <а горб не карысць>.

**Карэнне.** Якое карэнне, такое і насенне.

**Каса.** І баран бы касіў, каб хто касу насіў.
Касі, каса, пакуль раса, раса далоў — каса (касец) дамоў.

**Касец.** Касі, каса, пакуль раса, раса далоў — каса (касец) дамоў.

**Касіць.** Дождж ідзе не тады, як просяць, а тады, як жнуць ды косяць.
Дождж ідзе не там, дзе просяць, а дзе косяць, не там, дзе ждуць, а там, дзе жнуць.
І баран бы касіў, каб хто касу насіў.



Kamunikat.org

Касі, каса, пакуль раса, раса далоў — каса (касец) дамоў.

**Касмык.** З паршывай (шалудзівай) авечкі хоць шэрсці (воўны, поўсці) клок (касмык).

**Касцёл.** Глухім два разы ў касцёле не звоняць.

**Катацца.** Любіш катацца, любі і саначкі вазіць.

**Каток.** Катку жарты — мышцы смерць.

**Каторы.** Каторы конь цягне, таго і наганяюць.

**Каўбаса.** Ласы на чужыя прыпасы (каўбасы).

**Каханка.** У каханкі смаляныя лаўкі.

**Каханне.** Каханне і кашаль не схаваеш.

**Кацёл.** Пасмяяўся гаршчок з катла.

**Каціцца.** Яблык ад яблыні недалёка падае (коціцца).

**Качарга.** У сваёй хаце і качарга маці.

**Качацца.** Здараецца, што і доктар ад жывата качаецца.

**Каша.** Адзін і ў кашы няспорны.
Аржаная каша сама сябе хваліць.
Багатаму чорт у кашу дбае.
Дзе каша ды аладка, там і грамадка.
Кашы (кашу) маслам не сапсуеш (не папсуеш).
Праўда не скварка, з кашаю не з'ясі.
Сам заварыў кашу, <дык> няхай сам і расхлёбвае.

**Кашаль.** Каханне і кашаль не схаваеш.
У каго кашаль, той і красен <і ў роце не суха, і ў хаце не глуха>.

**Кашуля.** З міру па нітцы — голаму сарочка (кашуля).
Свая кашуля (сарочка, рубашка) бліжэй да цела.

**Кашэль.** Багатаму шкада (шкода) карабля, а беднаму — кашаля.

**Каяцца.** Не кайся, рана ўстаўшы (падняўшыся) і рана жаніўшыся.
Не кайся, што рана ўстаў або маладым ажаніўся.

**Квас.** Будзе час — будзе і квас.

**Кветачка.** Гэта яшчэ (толькі, пакуль) кветачкі, а ягадкі наперадзе (уперадзе, яшчэ будуць).

**Кепскі.** Добрая слава далёка ідзе, а кепская (ліхая) яшчэ далей <ляціць>.
За добрым мужам і варона жона, а за кепскім і княгіня загіне.

**Ківаць.** Іван ківае на Пятра <а Пётр на Івана>.
Янка ківае на Петруся, а Пятрусь на Янку.

**Кідаць.** Крывое кола на сябе гразь кідае.

**Кіеў.** У агародзе (гародзе) бузіна, а ў Кіеве дзядзька.
Язык да Кіева давядзе.

**Кіёк.** Жабрак жабраку відзён па кійку.

**Кій.** Абед на абед не тое, што кій на кій.
Захочаш сабаку выцяць (ударыш,) — палку (кій) знойдзеш.
Кось-кось да аброку, а потым кіем па боку.
Не баішся ківа, пабаішся кія.
Не слухаеш ківа, дык паслухаешся кія.

**Кім.** Гл. хто.

**Кінуць.** Гадка (гідка) з'есці і шкада кінуць.
Дзе ні кінь, дык клін.
Кінь (кінеш, закінь) наперад (уперад) — знойдзеш ззаду.
Кінь (кінеш) за сабою, <то> знойдзеш перад сабою.
Кінь назад — знойдзеш наперадзе.

Kamunikat.org

Кінь перад сабою, знойдзеш за сабою.
Куды ні кінь, усюды клін.

**Кіпець.** На назе бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць.

**Кірмаш.** Каму кірмаш, а каму жыцця нямаш.

**Кісель.** Шылам кісялю не схваціш (не схопіш).

**Кіў.** Не баішся ківа, пабаішся кія.
Не слухаеш ківа, дык паслухаешся кія.

**Кішэнь.** Веру Яўменю, а грошы кладзі ў кішэню.
Цаца-цаца, ды ў кішэнь.

**Класці.** Веру Яўменю, а грошы кладзі ў кішэню.

**Класціся.** Свайго не меўшы, трэба легчы (кладзіся) спаць не еўшы.

**Клін.** Дзе ні кінь, дык клін.
Каб не клін ды не мох, дык (то і) цясляр (цесля, плотнік) бы падох (здох).
Клін выбіваецца клінам.
Клін клінам выбіваюць (выганяюць).
Куды ні кінь, усюды клін.
Якое дрэва, такі <і> клін, які бацька, такі <і> сын.

**Клок.** З паршывай (шалудзівай) авечкі хоць шэрсці (воўны, поўсці) клок (касмык).

**Клопат.** Малыя дзеці — малы клопат <большыя дзеці — большы клопат >.
Не мела баба клопату, <дык> купіла парася.

**Клюшня.** Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй (з клюшнямі).

**Кляваць.** Груган гругану вока (вачэй) не выдзеўбе (не дзяўбе, не клюе).

**Клясці.** Пана клянуць, а пан тлусцее (таўсцее).

**Княгіня.** За добрым мужам і варона жона, а за кепскім і княгіня загіне.

**Князь.** Сей у гразь — будзеш князь.

**Кожны.** Кожнаму сваё (роднае) дзіця міла.
Кожная сасна свайму бору песню спявае.
Кожны кулік сваё балота хваліць.
Кожны курэц павінен мець свой аганец і тытунец.
Кожны па часе мае розум.
Кожны плача па сваім бацьку, як умее.
Кожны старац сваю торбу хваліць.
Кожны (усякі) цыган сваю кабылу хваліць.
Летам кожны кусцік начаваць (пераначаваць) пусціць.
На кожны чых (на ўсякае чханне) не наздароўкаешся (не павітаешся).
Усякі (кожны) гад чужому грошу рад.
Усякі (кожны) чорт на сваё кола ваду цягне.

**Кол.** Для прадажнай псіны кол з асіны.
Варона з кала — сем на кол.
Першая <чарка> калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць (астатнія паляцяць дробнымі птушачкамі).
Пі ды еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш.
Сарока з кола — дзесяць на кол.

**Кола.** Крывое кола на сябе гразь кідае.
Усякі (кожны) чорт на сваё кола ваду цягне.

**Колькі.** Колькі вяровачку ні віць, канец будзе.
Колькі вяровачцы ні віцца, а канцу быць (канец будзе).
Колькі (як) ваўка (воўка) ні кармі, <а> ён у лес глядзіць (паглядае).



Kamunikat.org

**Конік.** На чыім возе (вазку, коніку) едзеш, таму і песню (песеньку, песенькі) спявай (пей, вядзі).

**Конны.** Пешы коннаму не таварыш.

**Конскі.** Конская матка не здохла.

**Кончыць.** Скончыў (кончыў) дзела — гуляй смела.

**Конь.** Ад (з) работы коні дохнуць.

Баба з воза — каню (кабыле) лягчэй.

Бойся быка спераду, каня ззаду, а дурня — з усіх чатырох бакоў.

Быў конь, ды з’ездзіўся.

Восень на рабым кані ездзіць.

Вялікаму каню — вялікі хамут.

Галодны і каня з капытамі з’есць.

Дараванаму (дарованаму, дармоваму) каню ў зубы не глядзяць.

Кабыла (конь) здыхае, а <за> траву хватае (хапае).

Каторы конь цягне, таго і наганяюць.

Конь на чатырох нагах <і то> спатыкаецца.

Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй (з клюшнямі).

Ласка панская на рабым (дохлым) кані едзе.

На лечаным кані далёка не заедзеш.

На трактар спадзявайся, <а> каня не прадавай.

Не вер каню ў дарозе, а жонцы дома.

Не конь вязе, а дарога.

Не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць.

Не хвалі каня запрагаючы, а дзеўку выбіраючы.

Панскае вока каня тучыць (гадуе).

Стары вол (конь) баразны не псуе (не сапсуе).

Суджанага і канём не аб’едзеш.

У каня чатыры нагі, і той спатыкаецца.

Хай конь думае: у яго галава большая (вялікая).

Хвалі каня пасля дарогі, а пана — як выцягнуў ногі.

Хто <коней> мяняе, у таго хамут гуляе.

Цераз сілу і конь не цягне.

Шануй каня дома, а ён цябе ў дарозе.

Што каму суджана, <дык і пехатой> таго не абойдзеш і <з канём> не аб’едзеш.

**Копка.** Па кропельцы — рэчка, па сянінцы — копка, па копцы — стог.

**Кораб.** Вясною вядро (кораб, цэбар) вады, а лыжка гразі, а восенню лыжка вады, а вядро (кораб, цэбар) гразі.

**Корань.** Ціхая свіння глыбокі корань рые.

**Коратка.** Дзе коратка (тонка), там ірвецца (і рвецца).

**Корч.** Баязліваму і корч мядзведзь.

**Косць.** На жывой касці мяса мусіць нарасці.

На жывых касцях мяса нарасце.

Пара касцей не ломіць.

Язык без касцей.

Як няма рыбы без косці, так і няма чалавека без злосці.

**Кот.** Жыве кот і жыве сабака.

Жыве кот і сабака, ды жытка не аднака.

Мінулася кату масленіца.

Не ўсё (не заўсёды) кату масленіца <прыйдзе і вялікі пост>.

Поначы ўсе каты шэрыя.

**Кош.** Назваўся груздом — лезь у кош (кошык).

Kamunikat.org

**Кошка.** Ведае (знае) кошка, чыё сала з’ела.
Зброднівай кошцы хвост уцінаюць.
Кошку б’юць — нявестцы намёкі даюць.
Ноччу (поначы) усе каты (кошкі) шэрыя.

**Кошык.** Назваўся груздом — лезь у кош (кошык).

**Край.** Мая хата з краю <і я> нічога не знаю.
Што ні кран, то <і, свой> абычай (звычай).

**Крапіва.** Будзе (прыйдзе) і на крапіву мароз.

**Краса.** Харасто (краса) прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца.

**Красіць.** Гора толькі рака (ракаў) красіць.
Старасць нікога (чалавека) не красіць.
Хвароба <нікога> не красіць.

**Красны.** Не красна хата вугламі, а пірагамі.
Не радзіся красны, а радзіся шчасны.
У каго кашаль, той і красен <і ў роце не суха, і ў хаце не глуха>.

**Кропелька.** Па кропельцы — рэчка, па сьлінцы — копка, а па копцы — стог.

**Кропля.** Кропля камень крышыць (дзяўбе).

**Кросны.** Пайшоў (зарадзіў) драсён — не будзе (не жджы) красён.

**Круг.** Для старца міля не круг.
Старцу міля не круг.

**Крумкач.** Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе.

**Крупы.** Наелася пападдзя круп, дык жарствы захацела.

**Круцель.** Бог не цяля, бачыць (пазнае) круцяля.

**Круцельства.** Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш (пяройдзеш), а (але, ды) назад не вернешся.

**Круціць.** Круці не круці (не вярці), а трэба памерці.
Круцячы, свет пройдзеш, але назад не вернешся.

**Кручаны.** Не кручаны — не рэмень (не рамень), не вучаны — не чалавек.

**Крывы.** Крывое кола на сябе гразь кідае.
Мая душа не крывая, усё прымае.
Хоць крывое ды гарбатае, абы слаўнае ды багатае.

**Крыўда.** У цеснаце, <ды> не ў крыўдзе.

**Крычаць.** Папаўся ў вароны, то крычы, як воны.
Трапіў у вараны, крычы, як яны.
Што ў каго (каму) баліць, той пра тое (аб тым) і гаманіць (гаварыць, крычыць).

**Крышыць.** Кропля камень крышыць (дзяўбе).

**Куды.** Закон што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла.
Куды вецер, туды і дым.
Куды еду, туды еду, ды ўсё карчмы не міну.
Куды іголка (іголачка), туды і нітка (нітачка).
Куды ні кінь, усюды клін.
Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй (з клюшнямі).
Уткні мяне, божа, куды мне не трэба.

**Кузьма.** На вяку (жывучы) усяго нажывеш — і Кузьму татам назавеш.
Я яму пра Фаму (пра Кузьму), а ён мне пра Ярому.

**Кукаваць.** Тая зязюля, ды не так кукуе.

**Кулак.** Пасля бойкі кулакамі (рукамі) не махаюць.

**Кулік.** Кожны кулік сваё балота хваліць.



Kamunikat.org

**Куля.** Куляй у аднаго пацэліш, а трапным словам у тысячу.
Чалавек страляе, а чорт кулю носіць.

**Кум.** Дапускайся, куме, на дно.
Кум куме, а кума па ўсім сяле.
Не траць, куме, сілы, спускайся на дно.
Хоць кум, ды сабака.
Чуў, кум, сонца, бачыў гром?

**Кума.** Галоднай куме хлеб (сыр) наўме.
Кума куме, дый пайшло па ўсім сяле.
Кума (кум) куме, а кума па ўсім сяле.

**Купа.** Калі робіш у купе, не баліць у пупе.
Рабіць у купе — не баліць у пупе.

**Купіць.** За багацце розуму не купіш.
За што купіў, за тое <і> прадаю.
Купіў не купіў (куплю не куплю, купіш не купіш, купім не купім), і патаргавацца (патаргаваць) можна (варта).
Не мела баба клопату, <дык> купіла парася.

**Кураня.** Куранят увосень (восенню) лічаць.

**Куры.** Гл. курыца.

**Курыца.** Курыца не птушка, а баба не чалавек.
Ліса спіць і курэй бачыць.
Скажы курыцы, дык яны па ўсёй вуліцы.
Яйцо курыцы не вучыць.
Яйцо (яйка) курыцу вучыць.

**Курэц.** Калі курэц, то насі люльку і тытунец.
Кожны курэц павінен мець свой аганец і тытунец.

**Кусаць.** У гадзюкі няма іншай навукі, як кусаць.
Яму раніцаю росна, у поўдзень млосна, а ўвечары камары кусаюць.

**Куст.** Варона з куста, а пяць на куст.
Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл.
Пужаная варона <і> куста баіцца.
Сарока з куста — сорак на куст.
Які куст, такі і адростак.

**Кусцік.** Летам кожны кусцік начаваць (пераначаваць) пусціць.

**Кут.** Добраму чалавечку добра і ў запечку <а благой (якой) благаце дрэн на і на куце>.
Калі худ, не лезь на кут.
Што будзе, тое (то) будзе, <а> Саўка (Грышка) на куце не будзе.

**Куток.** Міл (мілы, дораг) той куток, дзе абрэзалі (рэзалі) пупок.
Няма лепш за той куток, дзе вязалі пупок.

**Кухарка.** У закаханай кухаркі няўдалая страва выходзіць.

**Лавец.** На лаўца і звер бяжыць.

**Лад.** Адклад не ідзе на (у) лад.
З адкладу няма ладу.

**Ладзіць.** Дзе поп царкву ставіць, там пан карчму ладзіць.

**Ламаць.** Пара касцей не ломіць.
Сіла салому ломіць.

**Лапата.** Розуму ў чужую галаву лапатай не накладзеш.

**Лапаць.** Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так.
Гаспадарку весці — не лапці плесці.
Жонка не лапаць, з нагі не скінеш.

Kamunikat.org

За пераборы лапці ды аборы.
Каму пашанцуе, той і ў лапцях танцуе.
Лапаць боту не пара.
Служка ў лапцям, а я (пан) босы.
Хоць муж (мужык) з лапаць, абы з ім не плакаць.
Чорт не адны лапці (не адну пару лапцей) стаптаў, пакуль (покуль) такую пару дабраў (сабраў).
Чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль пару дабраў.

**Лапінка.** Урадзілася цяля з белаю лапінкаю на лбе, так яно і памрэ.

**Ласка.** Ласка панская на рабым (дохлым) кані едзе.
Ці за адну нагу вісець, ці за дзве — адна ласка.

**Ласкавы.** Ласкавае слова што дзень ясны (веснавы).
Лісліваe (ласкавае, пакорнае) цяля (цялятка) дзвюх матак (дзве маткі) ссе.

**Ластаўка.** Адна ластаўка вясны не робіць.
Жаваранак прылятае на праталіну, шпак на прагаліну, жораў з цяплом, а ластаўка з лістом.

**Ласы.** Ласы на чужыя прыпасы (каўбасы).

**Лаўка.** Лепш пад лаўкай пасядзець, але на харошага паглядзець.
Новае сітца на калку навісіцца, а старое і пад лаўкай наваляецца.
У каханкі смаляныя лаўкі.

**Лашчыцца.** Не бойся таго сабакі, што брэша, а бойся таго, што лашчыцца.

**Легчы.** Жывы (жывым) у зямлю (у магілу, у ямку) не палезеш (не ляжаш).
Свайго не меўшы, трэба легчы (кладзіся) спаць не еўшы.

Лезці. Калі худ, не лезь на кут.
Назваўся груздом — лезь у кош (кошык).
Не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць.
Не пі, не еш і з хаты не лезь.

**Лекар.** Час — найлепшы (самы лепшы, добры, вялікі) доктар (лекар).

**Лень.** Хвароба — мігрэнь: жраць ахвота, а працаваць лень.

**Лепей.** Гл. лепш.

**Лепш, лепей.** Адна галава добра, а дзве <яшчэ> лепш (лепей).
Лепш (лепей) <адзін> раз убачыць (пабачыць), чым сто разоў пачуць.
Лепш (лепей) горкая праўда, чым салодкая мана (хлусня).
Лепш (лепей) дрэнна ехаць, чым добра ісці.
Лепш (лепей) з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці.
Лепш (лепей) позна, чым (як) ніколі.
Лепш пад лаўкай пасядзець, але на харошага паглядзець.
Лепш сініца ў руцэ (у жмені), чым журавель (жораў) у небе.
Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы.
Няма лепш за той куток, дзе вязалі пупок.
Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей (лепей, лепш).
Стары друг лепш (лепей) за новых двух.
У гасцях добра, а дома лепей (лепш).
У грыбы хадзіць і то лепш са шчасцем.
Усюды добра, а дома лепей.
Чым за морам віно піць, лепш (лепей) з Нёмана (у Нёмане) вадзіцу.

**Лепшы.** Лепшы спосаб абароны — нападзенне.
Самая лепшая абарона — нападзенне.
Хто лепшага не мае, таму і гэта добра.
Час — найлепшы (самы лепшы, добры, вялікі) доктар (лекар).

Kamunikat.org

**Лес.** Бог лесу не зраўнаваў, а то людзей ты зраўнуеш.
Бог лесу не зраўняў, не тое што людзей.
Ваўкоў (ваўка, воўка) баяцца — у лес не хадзіць.
Воўчы дух (воўчае насенне) да лесу цягне.
Граза ў лес не ідзе.
Далей у лес — болей дроў.
Колькі (як) ваўка (воўка) ні кармі, <а> ён у лес глядзіць (паглядае).
Лес сякуць — трэскі ляцяць.
Няма лесу без ваўка.
Работа (праца, справа) не воўк, у лес не ўцячэ (не збяжыць, не пабяжыць).
Хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар.
Чужая старана — цёмны лес.
Чым далей у лес, тым болей (больш) дроў.
Як ваўка ні кармі, а яго ў лес цягне.

**Лета.** Лета год корміць.
Пражылі лета гарачае, пражывём і дзярмо сабачае.

**Летам.** Летам кожны кусцік начаваць (пераначаваць) пусціць.
Рыхтуй калёсы зімой, а сані летам.

**Летні.** Летні дзень год корміць.

**Лёгка.** Чужымі рукамі жар заграбаць лёгка (добра).

**Лёгкі.** Лёгкае пяро, ды на страху не закінеш.

**Лёс.** Свайго лёсу не мінеш (не мінём).

**Ліняць.** Воўк ліняе, ды нораву не мяняе.

**Ліпень.** Студзень мяце — ліпень залье.

**Ліса.** Ліса спіць і курэй бачыць.

**Лісливы.** Ліслівае (ласкавае, пакорнае) цяля (цялятка) дзвюх матак (дзве маткі) ссе.

**Ліст.** Жаваранак прылятае на праталіну, шпак на прагаліну, жораў з цяплом, а ластаўка з лістом.
Лістам сцелецца, а ўкусіць цэліцца.

**Лісток.** Прыйшоў Пятрок — апаў лісток; прыйшоў Ілья — апала два.

**Літасць.** Бог не без літасці, казак не без шчасця.

**Ліха**[1]**.** Ад ліха ціха, а дабра не чуваць.
Ад ліха ціха, дабра не відаць.
Горш, калі баішся, і ліха не мінеш, і надрыжышся.
Еду ціха — са мной ліха, еду скора — са мной гора.
Казала ліха, што не быць дабру.
Ліха без дабра не бывае.
Не дражні ліха, пакуль ціха.
Не чапай ліха, калі спіць ціха.
Не чапай ліха, пакуль спіць.
Няма ліха без дабра.

**Ліха**[2]**.** Горка рэдзька, ды ядуць, цяжка (дрэнна, ліха) замужам, ды ідуць.

**Ліхі.** Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі (нядобры) памаўчаць.
Добрая слава далёка ідзе, а кепская (ліхая) яшчэ далей <ляціць>.
Усе бабры дабры, адна выдра ліхая.

**Ліць.** Дзе п'юць, там і льюць.

**Лічыць.** Воўк і лічанае бярэ.
Куранят увосень (восенню) лічаць.

**Лішні.** Лішняга і свінні не ядуць (свіння не есць).

**Лоб.** Галавою (ілбом) сцяны (сцяну, муру, мур) не праб'еш.
Загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб'е.
На чужы лоб сягаючы (шыбаючы), трэба і свой падставіць (наставіць).
Пашлі дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб'е.
Урадзілася цяля з белаю лацінкаю на лбе, так яно і памрэ.

**Логам.** Воўк каля (паблізу) свайго логава не бярэ (не шкодзіць).

**Лоі.** Дзе гной, там і лой.

**Локаць.** Блізка (блізкі) локаць, ды (а) не ўкусіш.

**Лужа.** Свіння лужыну (лужу) знойдзе.

**Лужына.** Свіння лужыну (лужу) знойдзе.

**Луста.** Адрэзанае лусты не прыклеіш (не прылепіш).

**Лучынка.** І за лучынку знойдзе прычынку.

**Лыжка.** <Адна> лыжка дзёгцю псуе бочку мёду.
Вясною вядро (кораб, цэбар) вады, а лыжка гразі, а восенню лыжка вады, а вядро (кораб, цэбар) гразі.
Дарагая (дорага) лыжка к абеду.
Сухая лыжка рот дзярэ.

**Лысінка.** З якой лысінкай цёлка нарадзілася, з такой і здохне.
Лысае цялятка і здохне з лысінкай.
Уродзіцца цяля з лысінкаю, то і з лысінкаю здохне.
Як (калі) удасца жарабё (бычок) з лысінкай, дык і здохне (састарэе) такім (з лысінкай).

**Лысы.** Лысае цялятка і здохне з лысінкай.

**Лычка.** Быць бычку на вяровачцы (на лычку).

**Любіць.** Бог сіротак любіць, але долі не дае.
Бог тройцу любіць.
Брат любіць сястру багатую, а мужык (муж) жонку здаровую.
Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць.
Зяць любіць узяць.
Любіў добрае, палюбі ж і злое.
Любіў катацца, любі і саначкі вазіць.
Любіў рак жабу, аж вочы выеў.
Любіць аржаная каша сама сябе хваліць.
Работа дурняў (дурня, дурных) любіць.
Рыба любіць ваду.
Хто каго любіць, той таго і чубіць.
Хто любіць папа, хто пападдзю, хто папову дачку.

**Любы.** З мілым (з любым) рай і ў шалашы (у будане).
Насільна мілы (міл, любы, люб) не будзеш.

**Людзі.** Бог лесу не зраўнаваў, а то людзей ты зраўнуеш.
Бог лесу не зраўняў, не тое што людзей.
Дзе людзі бяднеюць, там паны багацеюць.
Людзей (другіх) слухай, а (ды) свой розум май.
Людзі і мядзведзя вучаць.
Людзям языка (языкоў) не завяжаш.
На каго бог, на таго і людзі.
Паспех — людзям на смех.
Паспяшыш — людзей насмяшыць
Першая жонка ад бога, другая ад людзей, а трэцяя ад чорта.
Свет не без добрых людзей.
У голад <людзі> намруцца, а ў вайну налгуцца.

У людзей пытай і свой розум май.

**Людскі.** Людскога языка це завяжаш.

**Люлька.** Калі курэц, то насі люльку і тытунец.

**Лягчэй.** Баба з воза — каню (кабыле) лягчэй.
Баба з калёс — калёсам лягчэй.

**Ляжаць.** Добрая слава на паліцы ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць.
Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць.
Нязнайка ляжыць, а знайка бяжыць.

**Ляжачы.** Пад ляжачы камень вада не цячэ.

**Ляпей.** Гл. лепш.

**Ляпіць.** Ганчар гаршкі лепіць, а сам у чарапку <есці> варыць.
Не святыя (не багі) гаршкі лепяць.

**Лятаць.** Высока лятаеш, але нізка сядзеш.
Напрасткі <адна> варона лятае, затое (ды) <ніколі> дома не бывае.

**Ляцець.** Добрая слава далёка ідзе, а кепская (ліхая) яшчэ далей <ляціць>.
Лес сякуць — трэскі ляцяць.

**Лячыць.** На лечаным кані далёка не заедзеш.

**Магамет.** Калі гара не ідзе да Магамета, то Магамет ідзе да гары.

**Магдалена.** Магдалена — вады па калена.

**Магіла.** Гарбатага магіла выправіць (выпрастае).
Жывы (жывым) у зямлю (у магілу, у ямку) не палезеш (не ляжаш).
Нежывога з магілы не падымеш.

**Магчы.** Адзін дурань можа задаць столькі пытанняў, што дзесяць (сем) разумных не адкажуць.
<Калі> улез у дугу, дык не кажы <што> не магу.
Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа ісці (адысці).
Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы.
Не піў — не мог, а выпіў — ні рук, ні ног.

**Мазаць.** Не той друг, што мёдам мажа, а той, хто праўду ў вочы кажа.
Ты яго маслам маж, а ён дзёгцем смярдзіць.
Хто мажа, той і едзе.

**Мазоль.** Гультай за работу — мазоль за руку (мазалі за рукі).

**Май.** Цешыўся старац, што перажыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю.

**Майстар.** Справа майстра баіцца.

**Мак.** Еш, дурань, бо то з макам.
Сем гадоў мак не радзіў, а голаду не было.

**Мала.** Госць мала гасцюе, ды багата бачыць.
Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала.
На бяду мала трэба.
Хочаш многа знаць, трэба мала спаць.

**Маладзец.** Маладзец супраць (супроць, сярод) авец, а супраць (супроць) малайца — сам аўца.

**Маладзіца.** На чужой старане і жук мяса <і старая баба — маладзіцах

**Маладосць.** Маладосць — дурносць.

**Малады.** Маладое піва заўсёды шуміць.
Не кайся, што рана ўстаў або маладым ажаніўся.
Стары кажа на глум, а малады бярэ на вум.

**Малако.** Апёкшыся малаком, ваду студзяць.
Апёкшыся на малацэ, <і> на ваду дзьмеш (дзьмухаеш).

Малако ў каровы на языку.
Хто апарыцца на малацэ, той і на ваду дзьмухае.

**Малаціцца.** Калі на гумне не малоціцца, тады ў хаце калоціцца.

**Маленне.** Новы поп, дык новае і маленне.

**Маленькі.** Маленькая сучка заўсёды шчаня.
Маленькі сабачка да старасці шчанюк (шчаня).

**Малітва.** Што ні поп, то свая малітва.

**Маліцца.** Загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб'е.
Нашто богу маліцца, — ён нас і так баіцца.
Пашлі дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб'е.

**Малоць.** Млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе.

**Малы.** За вялікім пагонішся — і малое згубіш.
З вялікага грому <часамі, заўсёды> малы дождж <бывае>.
З вялікае хмары малы дождж.
Малы жук, ды вялікі гук.
Малы залатнік, ды дарагі.
Малыя дзеткі — малыя бедкі <падрастуць дзеткі — падрастуць і бедкі>.
Малыя дзеці — малы клопат <большыя дзеці — большы клопаты
<Як> сіраце жаніцца, <дык і> ноч (ночка) кароткая (малая).

**Маляваць.** Не такі (не так) чорт страшны, як яго малююць.

**Мана.** Лепш (лепей) горкая праўда, чым салодкая мана (хлусня).
Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш (пяройдзеш), а (але, ды) назад не вернешся.

**Марац.** Марац адмарозіць палец.
Цешыўся старац, што перажыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю.

**Мароз.** Будзе (прыйдзе) і на крапіву мароз.
Мароз сем баб павёз.

**Марцыпан.** Абыдзецца без марцыпанаў цыганскае вяселле.

**Масква.** Масква слязам не верыць.
Не адразу Масква будавалася.

**Масла.** Кашы (кашу) маслам не сапсуеш (не папсуеш).
Ты яго маслам маж, а ён дзёгцем смярдзіць.

**Масленіца.** Мінулася кату масленіца.
Не ўсё (не заўсёды) кату масленіца <прыйдзе і вялікі пост>.

**Матка.** Дарагая тая хатка, дзе радзіла (нарадзіла) мяне матка.
Дзіця не плача, матка (маці) не дагадаецца.
Конская матка не здохла.
Матка парве пазуху, хаваўшы для дзяцей, а дзеці парвуць пазуху, хаваўшы ад маткі.
Ліслівае (ласкавае, пакорнае) цяля (цялятка) дзвюх матак (дзве маткі) ссе.

**Маўр.** Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа ісці (адысці).

**Маўчанне.** Маўчанне — знак згоды.
Слова — серабро (срэбра), маўчанне — золата.

**Маўчаць.** Не дурань, хто маўчыць.
Чыя б кароўка (карова) мычала, а твая (чыя) б маўчала (памаўчала).

**Махаць.** Брахаць — не цэпам махаць.
Пасля бойкі кулакамі (рукамі) не махаюць.

**Маці.** Дзіця за руку бярэш — маці за сэрца.
Пакуль дзіця не заплача, маці не дагадаецца.

Kamunikat.org

Тады маці міла, як ногі мыла.
У сваёй хаце і качарга маці

**Мачаха.** Чужая старана — мачаха.

**Медзь.** Першы дзень госць — золата, другі — срэбра, трэці — медзь, дадому (дахаты) едзь.

**Меней.** Гл. менш.

**Менш, меней.** Меней (менш) гавары — болей (больш) пачуеш.

**Месіва.** Каму што, а свінні месіва.

**Месца.** Каб ведаў чалавек, дзе спатыкнецца, то пераступіў бы тое месца.
На адным месцы і камень <мохам> абрастае.

**Мех.** Век зжыць — не мех сшыць.
Грэх у мех, грашаняты ў торбу.
Шыла ў мяшку (у мяху) не схаваеш (не ўтоіш).

**Мецiць.** Бог шэльму меціш».

**Мець.** Адну карову мае і тую за хвост падымае.
І сцены маюць вушы.
Калі маеш грошы, то не будзеш босы.
Кожны курэц павінен мець свой аганец і тытунец.
Кожны па часе мае розум.
Людзей (другіх) слухай, а (ды) свой розум май.
Маеш дачку — трымай гарэлку ў глячку.
Не май сто рублёў, а май сто сяброў.
Не мела баба клопату, <дык> купіла парася.
Свайго не меўшы, трэба легчы (кладзіся) спаць не еўшы.
У людзей пытай і свой розум май.
У музыкі хлеб невялікі, а спяваю маюць ніякі.
Усё на свеце мае <свой> канец.
Хто дбае, той і мае.
Хто заб’е бабра, не будзе мець дабра.
Хто лепшага не мае, таму і гэта добра.
Хто робіць, той і мае.
Хто чужога не шкадуе, той свайго не мае.
Ці свінні елі, ці шляхта папасвалася (папаску мела).

**Меч.** Павінную галаву <і> меч не сячэ.

**Мёд.** <Адна> лыжка дзёгцю псуе бочку мёду.
За пчолкаю — у мёд, за жукам — у гной.
Не той друг, што мёдам мажа, а той, хто праўду ў вочы кажа.

**Мігрэнь.** Хвароба — мігрэнь: жраць ахвота, а працаваць лень.

**Мікола.** Прыйшоў Мікола, не пытай ні ў кога, бяры сявеньку і (ды) сей памаленьку.

**Міласць.** Гасподзь не без міласці, а казак не без долі.
Міласці прашу к нашаму шалашу.

**Мілы.** Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл.
Для мілага друга і завушнічка з вуха.
З мілым (з любым) рай і ў шалашы (у будане).
Кожнаму сваё (роднае) дзіця міла.
Міл (мілы, дораг) той куток, дзе абрэзалі (рэзалі) пупок.
Мілыя сварацца — толькі цешацца.
Насільна мілы (міл, любы, люб) не будзеш.
Сілай мілы не будзеш.
Тады маці міла, як ногі мыла.

**Міля.** Для старца міля не круг.



Kamunikat.org

Старцу міля не круг.

**Мілаваць.** Дзвюм смерцям (смярцям) не бываць, <а> адной не мілаваць.
Чаму быць, таго не мілаваць.

**Мінуцца.** Мінулася кату масленіца.
Мінуліся тыя рою, калі паны браліся ў бокі.
Усё мінецца, а праўда застанецца.

**Мінуць.** Горш, калі баішся, і ліха не мінеш, і надрыжышся.
Куды еду, туды еду, ды ўсё карчмы не міну.
Свайго лёсу не мінеш (не мінём).

**Мір.** З міру па нітцы — голаму сарочка (кашуля).
Што <будзе> міру, тое (то) і бабінаму сыну.

**Млосна.** Яму раніцаю росна, у поўдзень млосна, а ўвечары камары кусаюць.

**Млын.** Млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе.

**Мне.** Гл. я.

**Многа.** Дзе нянек многа, там дзіця бязнога (мурзатае).
Забілі зайца не забілі, а гуку (шуму) многа нарабілі.
Злодзею адна дарога, а хто шукае, таму многа.
Індык думаў, думаў (многа думаў) ды здох.
У бога дзён многа.
Хочаш многа знаць, трэба мала спаць.

**Мной.** Гл. я.

**Можа.** Можа надвое варожа.

**Можна.** Ашуканствам можна свет прайсці, але назад не вернешся.
Купіў не купіў (куплю не куплю, купіш не купіш, купім не купім), а патаргавацца (патаргаваць) можна (варта).
Ніколі не адкладвай на заўтра, што можна зрабіць сёння.
Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра.

**Мой.** Будзе <калі-небудзь, некалі> і на нашай (маёй, тваёй) вуліцы свята.
За маё жыта ды мяне і пабіта.
<І> я не я і кабыла не мая.
Мая душа не крывая, усё прымае.
Мая хата з краю <і я> нічога не знаю.
Язык мой — вораг мой.
Я не я і хата не мая.

**Мора.** На тое і шчупак у моры (у вадзе), каб карась не драмаў.
П’янаму <і> мора па калена.
Чым за морам віно піць, лепш (лепей) з Нёмана (у Нёмане) вадзіцу.
Шылам мора не нагрэеш.

**Мох.** Каб не клін ды не мох, дык (то і) цясляр (цесля, плотнік) бы падох (здох).
На адным месцы і камень <мохам> абрастае.

**Мудры.** Раніца мудрэйшая (мудрэй) за вечар.

**Муж.** Брат любіць сястру багатую, а мужык (муж) жонку здаровую.
За добрым мужам і варона жона, а за кепскім і княгіня загіне.
Муж і Жана — адна сатана.
Хоць муж (мужык) з лапаць, абы з ім не плакаць.

**Мужык.** Брат любіць сястру багатую, а мужык (муж) жонку здаровую.
Дзе толькі мужык з слаўцом, там за ім пуга з вузлом.
Мужык глядзіць, як варона, а хіцер, як чорт.
Мужык — дурань, як умее, так і пее.
Мужык з жонкай сварыцца, калі трасца ў гаршку варыцца.

kamunikat.org

Мужыку розум прыходзіць па шкодзе.
Не дай бог свінні рог, а мужыку панства.
<Пакуль> гром не грымне (не загрыміць), мужык не перахрысціцца.
Паны б'юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць.
Хоць муж (мужык) з лапаць, абы з ім не плакаць.

**Музыка.** Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку.

**Музыка.** У музыкі хлеб невялікі, а спяваю маюць ніякі.

**Музыкант.** Я не музыкант (не арганіст), не перабіраю.

**Мука.** Быўшы ля мукі, запылішся.
Каля мукі ходзячы, запылішся.
Млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе.
Перамелецца — мука будзе.
Усякая будзе гаспадыня, калі <мукі> поўная скрыня.
Як мукі скрыня, дык і свіння гаспадыня.

**Мур.** Галавою (ілбом) сцяны (сцяну, муру, мур) не праб'еш.

**Мурзаты.** Дзе нянек многа, там дзіця бязнога (мурзатае).

**Мусіць.** На жывой касці мяса мусіць нарасці.

**Муха.** Добра сабаку і муха.
Няма злей асенняй мухі і дзеўкі-векавухі.

**Мы.** Бог цярпеў і нам вялеў.
Добра там, дзе нас няма.
На табе, божа (нябожа), што нам (мне) нягожа.
Нашто богу маліцца, — ён нас і так баіцца.
Не мы першыя, не мы апошнія.
Там добра, дзе нас няма.
Усе <мы> пад богам ходзім.

**Мыла.** Рукі пабрудзіш — вадою адмыеш, душу забрудзіш — і мыла не паможа.

**Мыць.** Рука руку мые.
Тады маці міла, як ногі мыла.
Ціхая вада берагі мые.

**Мычаць.** Чыя б кароўка (карова) мычала, а твая (чыя) б маўчала (памаўчала).

**Мыш.** Гара нарадзіла (радзіла) мыш.

**Мышка.** Катку жарты — мышцы смерць.

**Мядзведзь.** Баязліваму і корч мядзведзь.
Гадуй, мядзведзь, дзеці, каб было за кім сядзець
Два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць.
Людзі і мядзведзя вучаць.
На воўка памоўка, а мядзведзь цішком.

**Мякіна.** Старога вераб'я на мякіне не зловіш (не падманеш, не правядзеш).

**Мяне.** Гл. я.

**Мяняцца.** Усё цячэ, усё мяняецца (змяняецца).

**Мяняць.** Воўк ліняе, ды нораву не мяняе.
Хто <коней> мяняе, у таго хамут гуляе.

**Мяса.** На жывой касці мяса мусіць нарасці.
На жывых касцях мяса нарасце.
На чужой старане і жук мяса <і старая баба — маладзіца>.

**Мясці.** Новая мятла па-новаму мяце.



Kamunikat.org

Студзень мяце — ліпень залье.

**Мятла.** Новая мятла па-новаму мяце.

**Мяшок.** Шыла ў мяшку (у мяху) не схаваеш (не ўтоіш).

**Набрацца.** З добрым гаспадаром нажывешся, з дрэнным гора набярэшся.
З кім павядзешся, ад таго <і> набярэшся.

**Наваляцца.** Новае сітца на калку навісіцца, а старое і пад лаўкай наваляецца.

**Наваяваць.** Хто языком штурмуе, не шмат наваюе.

**Навесіць.** На чужы рот (язык) замок не навесіш (не павесіш).

**Навыецца.** Новае сітца на калку навісіцца, а старое і пад лаўкай наваляецца.

**Павітацца.** На кожны чых (на ўсякае чханне) не наздароўкаешся (не павітаешся).

**Навука.** У гадзюкі няма іншай навукі, як кусаць.

**Нага.** Ваўка (воўка) ногі кормяць.
Жонка не лапаць, з нагі не скінеш.
За дурной галавой нагам неспакой (небалазе).
Конь на чатырох нагах <і то> спатыкаецца.
На назе бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць.
Не піў — не мог, а выпіў — ні рук, ні ног.
Тады маці міла, як ногі мыла.
Ты на гару, а чорт за наіу.
У каня чатыры нагі, і той спатыкаецца.
У нагах праўды няма.
Хвалі каня пасля дарогі, а пана — як выцягнуў ногі.
Ці за адну нагу вісець, ці за дзве — адна ласка.
Чалавек на гару, а чорт за нагу.
Як чалавек на гару, дык чорт за нагу.

**Нагнуцца.** І да грыба трэба нагнуцца.

**Нагрэць.** Шылам мора не нагрэеш.

**Надвое.** Можа надвое варожа.

**Надвор'е.** Добры гаспадар і сабаку з двара (з хаты) не выганіць у такую нягоду (у такое надвор'е, у такі дзень).

**Надрыжацца.** Горш, калі баішся, і ліха не мінеш, і надрыжышся.

**Наесціся.** <Калі> не наеўся, дык (то) і не наліжашся.
Наелася пападдзя круп, дык жарствы захацела.
Як на грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, дык на Юр'я наесца вол травіцы.

**Нажыцца.** З добрым гаспадаром нажывешся, з дрэнным гора набярэшся.

**Нажыць.** На вяку (жывучы) усяго нажывеш — і Кузьму татам назавеш.

**Назад.** Ашуканствам можна свет прайсці, але назад не вернешся.
Задам (назад) толькі ракі поўзаюць (паўзуць, ходзяць).
Закінеш назад — знойдзеш наперадзе.
Ішоў ваякам, а назад ракам.
Кінь назад — знойдзеш наперадзе.
Круцячы, свет пройдзеш, але назад не вернешся.
Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш (пяройдзеш), а (але, ды) назад не вернешся.

**Назбіраць.** Дзетак узгадаваць — не грыбоў назбіраць.

**Назвацца.** Назваўся груздом — лезь у кош (кошык).

**Назваць.** На вяку (жывучы) усяго нажывеш — і Кузьму татам назавеш.



Kamunikat.org

**Наздароўкацца.** На кожны чых (на ўсякае чханне) не наздароўкаешся (не павітаешся).

**Называць.** Называй хоць горшком, толькі ў печ не стаўляй.
Хоць гаршком заві (называй), адно (толькі, а) у печ не стаўляй (не стаў).

**Найлепшы.** Час — найлепшы (самы лепшы, добры, вялікі) доктар (лекар).

**Кінуць.** На чужыя вусны не накінеш хусты.

**Наклад.** Старцу сяло не <у> наклад.

**Накласці.** Розуму ў чужую галаву лапатай не накладзеш.

**Налгацца.** У голад <людзі> намруцца, а ў вайну налгуцца.

**Налізацца.** <Калі> не наеўся, дык (то) і не наліжашся.

**Нам.** **Гл.** мы.

**Намачыцца.** Каля (ля) вады <ходзячы> намочышся.

**Намерціся.** У голад <людзі> намруцца, а ў вайну налгуцца.

**Намёк.** Кошку б'юць — нявестцы намёкі даюць.

**Наняцца.** Наняўся, як прадаўся.

**Нападзенне.** Лепшы спосаб абароны — нападзенне.
Самая лепшая абарона — нападзенне.

**Напалохаць.** Напалоханая варона і вераб'я баіцца.

**Напасць.** Ад (з) напасці не прапасці.

**Наперад.** Кінь (кінеш, закінь) наперад (уперад) — знойдзеш ззаду.

**Наперадзе.** Гэта яшчэ (толькі, пакуль) кветачкі, а ягадкі наперадзе (уперадзе, яшчэ будуць).
Закінеш назад — знойдзеш наперадзе.
Кінь назад — знойдзеш наперадзе.

**Напісаць.** Што напішаш (напісана) пяром, <то> не вырубіш (не высечаш) тапаром.

**Напіцца.** З хараства вады не нап'ешся.
На грамніцы нап'ецца певень вадзіцы.
Не плюй у калодзеж, прыйдзецца напіцца.
Як на грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, дык на Юр'я наесца вол травіцы.

**Напоўніць.** Бяздоннай бочкі (бяздонную кадушку) не напоўніш.

**Напрасткі.** Напрасткі <адна> варона лятае, затое (ды) <ніколі> дома не бывае.

**Нарабіць.** Забілі зайца не забілі, а гуку (шуму) многа нарабілі.
Прыйдзе Ілья — наробіць гнілля.

**Нараджацца.** Хто не нараджаецца, той не памірае.

**Нарадзіцца.** З якой лысінкай цёлка нарадзілася, з такой і здохне.

**Нарадзіць.** Гара нарадзіла (радзіла) мыш.
Дарагая тая хатка, дзе радзіла (нарадзіла) мяне матка.

**Нарасці.** На жывой касці мяса мусіць нарасці.
На жывых касцях мяса нарасце.

**Нас.** Гл. мы.

**Насенне.** Воўчае насенне да лесу цягне.
Якое карэнне, такое і насенне.

**Насільна.** Насільна мілы (міл, любы, люб) не будзеш.



Kamunikat.org

**Насіць.** Да пары збан (жбан) ваду носіць <ручка (вушка) адарвецца — збан паб’ецца>.
І баран бы касіў, каб хто касу насіў.
Калі курэц, то насі люльку і тытунец.
Насіў воўк, панеслі і ваўка (воўка).
Сабака брэша — вецер носіць.
Чалавек страляе, а чорт кулю носіць.

**Насмяшыць.** Паспяшыш — людзей насмяшыш.

**Наставіць.** На чужы лоб сягаючы (шыбаючы), трэба і свой падставіць (наставіць).

**Насця.** Казала Насця, як удасца.

**Натура.** Прывычка — другая натура.

**Наўме.** Галоднай куме хлеб (сыр) наўме.
Жывому (жывым) наўме жывое.

**Нацалавацца.** Даганяючы не нацалавацца (не нацалуешся).

**Начаваць.** Летам кожны кусцік начаваць (пераначаваць) пусціць.

**Начны.** Начная зязюля (зязюлька) дзённую перакусе.

**Наш.** Будзе <калі-небудзь, некалі> і на нашай (маёй, тваёй) вуліцы свята.
Дай божа (бог) нашаму цяляці ваўка (воўка) спаймаці (з’есці).
Загляне сонца <і> у наша аконца.
Міласці прашу к нашаму шалашу.
На наш век дурняў хопіць.
Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку.
Прыйдзе і на нашу вуліцу свята.
Чые бычкі ні былі б, абы нашы цялядкі.

**Нашто.** Нашто богу маліцца, — ён нас і так баіцца.

**Нашыць.** На чужы рот гузіка не нашыеш.

**Неба.** Вырас пад неба, а дурань як трэба.
Давялося свінні на неба глядзець.
Лепш сініца ў руцэ (у жмені), чым журавель (жораў) у небе.

**Небалазе.** За дурной галавой нагам неспакой (небалазе).

**Небяспечны.** Паранены звер страшны (яшчэ больш небяспечны).

**Невучоны.** Невучоны (нявучаны) як (што) сляпы.
Чалавек невучоны як (што) тапор нетачоны.

**Невялікі.** У музыкі хлеб невялікі, а спявак! маюць ніякі.

**Недалёка.** Яблык ад яблыні недалёка падае (коціцца).

**Нежывы.** Нежывога з магілы не падымеш.

**Незапрошаны.** Незапрошаны госць горш за татарына.

**Некалі.** Будзе <калі-небудзь, некалі> і на нашай (маёй, тваёй) вуліцы свята.

**Неспакой.** За дурной галавой нагам неспакой (небалазе).

**Несці.** Цешыўся старац, што пяражыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю.
Што (чаго) не ясі, <таго>. у рот не нясі.

**Несціся.** У каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца.

**Нетачоны.** Чалавек невучоны як (што) тапор нетачоны.

**Нёман.** Чым за морам віно піць, лепш (лепей) з Нёмана (у Нёмане) вадзіцу.

**Ніводзін.** За двума зайцамі пагонішся, ніводнага (ні аднаго) не зловіш.



Kamunikat.org

**Нідзе.** Беднаму (няшчаснаму) Івану няма нідзе талану.

**Нізка.** Высока лятаеш, але нізка сядзеш.
Гусі нізка — зіма блізка.

**Нікога.** Гл. ніхто.

**Ніколі.** Вучыцца ніколі не позна.
Лепш (лепей) позна, чым (як) ніколі.
Напрасткі <адна> варона лятае, затое (ды) <ніколі> дома не бывае.
Ніколі не адкладвай на заўтра, што можна зрабіць сёння.
П'яніца праспіцца, а дурань ніколі.
Работы ніколі (век) не пераробіш.
Тое, што можна зрабіць сёння, ніколі не адкладвай на заўтра.

**Нітка.** З міру па нітцы — голаму сарочка (кашуля).
Куды іголка (іголачка), туды і нітка (нітачка).

**Ніхто.** Не руш чужога і не бойся нікога.
Не чапай нічога і не бойся нікога.
Ніхто не ведае, як хто абедае.
Свайго гарба ніхто не бачыць.
Старасць нікога (чалавека) не красіць.
Хвароба <нікога> не красіць.

**Нічога.** Гл. нішто.

**Нішто.** Мая хата з краю <і я> нічога не знаю.
Не чапай нічога і не бойся нікога.
Няма нічога тайнага (патайнага), каб не стала (што не стала б, каб не было) яўным.
Хто <нічога> не робіць, той не памыляецца.

**Ніякі.** У музыкі хлеб невялікі, а спяваю маюць ніякі.
Ядзім хлеб траякі: чорны, белы і ніякі.

**Новы.** Новае сітца на калку навісіцца, а старое і пад лаўкай наваляецца.
Новая мятла па-новаму мяце.
Новы поп, дык новае і маленне.
Стары друг лепш (лепей) за новых двух.
Хто новага не бачыў, той старому рад.

**Нораў.** Воўк ліняе, ды нораву не мяняе.

**Нос.** За спрос не б'юць у нос.
У сямі нянек дзіця без вока (без носа).
Хто б дзятла пазнаў (ведаў), каб не яго <доўгі> нос.

**Ноч.** Калі беднаму жаніцца, <то і> ноч кароткая.
<Як> сіраце жаніцца, <дык і> ноч (ночка) кароткая (малая).

**Ночка.** Бачна па вочках, што ходзіць па ночках.
Зімняя ночка — бацьку сарочка.
<Як> сіраце жаніцца, <дык і> ноч (ночка) кароткая (малая).

**Ноччу.** Ноччу (поначы) усе каты (кошкі) шэрыя.

**Нябіты.** За <аднаго> бітага двух нябітых даюць.

**Нябожа.** На табе, божа (нябожа), што нам (мне) нягожа.

**Няведанне.** Няведанне — нягрэшанне.

**Нявестка.** Кошку б'юць — нявестцы намёкі даюць.
Сем гадоў нявестка жыла, а не ведала, што сучка свёкрава без хваста.
Сем гадоў нявестка жыла замужам і не ведала, што ў свёкра сучка без хваста.

**Нявольнік.** Госць — нявольнік.



kamunikat.org

**Няволя.** Ахвота горш за няволю.
Дай жонцы (бабе) волю — завядзе ў няволю.

**Нявучаны.** Нявучаны як сляпы.

**Нягода.** Добры гаспадар і сабаку з двара (з хаты) не выганіць у такую нягоду (у такое надвор'е, у такі дзень).

**Нягожа.** Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа — не дай божа.
На табе, божа (нябожа), што нам (мне) нягожа.

**Нягрэшанне.** Няведанне — нягрэшанне.

**Нядзеля.** I без папа ведаю (ведаем, знаю, знаем), што ў нядзелю свята.

**Нядобры.** Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі (нядобры) памаўчаць.

**Нязваны.** Нязваны госць горш за татарына.

**Нязнайка.** Нязнайка ляжыць, а знайка бяжыць.

**Няма.** Адно дзіця — няма дзяцей, двое дзяцей — што адно, а трое — сям'я.
Беднаму (няшчаснаму) Івану няма ндзе тал ану.
Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзець
Дзе быў (хадзіў), там <цяпер, ужо> няма.
Добра там, дзе нас няма.
Ёсць хлеб — ядзім, а няма — глядзім, сёння паабедаем, а як заўтра — не ведаем.
З адкладу няма ладу.
Калі хлеб у возе, то няма бяды ў дарозе.
Не ўздыхай, чаго няма, то няхай.
Няма горш, як даганяць і чакаць.
Няма злей асенняй мухі і дзеўкі-векавухі.
Няма лепш за той куток, дзе вязалі пупок.
Няма лесу без ваўка.
Няма ліха без дабра.
Няма нічога тайнага (патайнага), каб не стала (што не стала б, каб не было) яўным.
Няма роду без выроду.
Няма таго злога, каб не выйшла на добрае.
Няма той хаткі, дзе б (каб) не было звадкі.
У гадзюкі няма іншай навукі, як кусаць.
У карцішкі няма брацішкі.
У нагах праўды няма.
Як няма рыбы без косці, так і няма чалавека без злосці.

**Нямаш.** Каму кірмаш, а каму жыцця нямаш.

**Нянька.** Дзе нянек многа, там дзіця бязнога (мурзатае).
У сямі нянек дзіця без вока (без носа).

**Няпраўда.** Няпраўдай свет пройдзеш, а назад не вернешся.

**Няпрошаны.** Няпрошаны (незапрошаны, нязваны) госць горш за татарына.

**Няспорны.** Адзін і ў кашы няспорны.

**Нястача.** Адзін Сцяпан — заўсёды пан, а калі і нястача, дзіця не плача.

**Няўдалы.** У закаханай кухаркі няўдалая страва выходзіць.

**Няўдача.** За няўдачу даюць прыдачу.

**Нячыста.** Сама сябе раба б'е, калі (што) нячыста жне.

**Няшчасны.** Няшчаснаму Івану няма ндзе талану.

**Няшчасце.** Дружба (прыяцель) пазнаецца ў няшчасці.



kamunikat.org

**Паабедаць.** Ёсць хлеб — ядзім, а няма — глядзім, сёння паабедаем, а як заўтра — не ведаем.

**Пабачыць.** Лепш (лепей) <адзін> раз убачыць (пабачыць), чым сто разоў пачуць.

**Пабаяцца.** Не баішся ківа, пабаішся кія.

**Пабегчы.** Пад ляжачы камень вада не цячэ (не пацячэ, не бяжыць, не пабяжыць).

Работа (праца, справа) не воўк, у лес не ўцячэ (не збяжыць, не пабяжыць).

**Пабіцца.** Да пары збан (жбан) ваду носіць <ручка (вушка) адарвецца — збан паб'ецца>.

**Пабіць.** За маё жыта ды мяне і пабіта.

**Пабрудзіць.** Рукі пабрудзіш — вадою адмыеш, душу забрудзіш — і мыла не паможа.

**Паваліцца.** Каб (калі б) ведаў, дзе паваілішся (упадзеш), <там, дык, то> саломкі падаслаў бы.

**Паварушыцца.** Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш не памачыўшыся.

**Па-ваўчынаму.** З ваўкамі жыць — па-воўчы (па-воўчаму, па-ваўчынаму) выць.

**Павезці.** Мароз сем баб павёз.

**Павесіцца.** За кампанію <і> цыган павесіўся.

**Павесіць.** На чужы рот (язык) замок не навесіш (не павесіш).

**Павесціся.** З кім павядзешся, ад таго <і> набярэшся.

**Павінен.** Кожны курэц павінен мець свой аганец і тытунец.

**Павінны.** Павінную галаву <і> меч не сячэ.

**Па-воўчаму.** З ваўкамі жыць — па-воўчы (па-воўчаму, па-ваўчынаму) выць.

**Па-воўчы.** З ваўкамі жыць — па-воўчы (па-воўчаму, па-ваўчынаму) выць.

**Павярнуць.** Закон што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла.

**Паганы.** Не будзь ні войтам, ні панам — не будзеш чалавекам паганым.

Паганае да чыстага не прыстае.

Паганая авечка ўвесь статак псуе.

**Паганяць.** Даўся запрэгчы — дасіся і паганяць.

Каторы конь цягне, таго і наганяюць.

**Паглядаць.** Колькі (як) ваўка (воўка) ні кармі, <а> ён у лес глядзіць (паглядае).

**Паглядзець.** Лепш пад лаўкай пасядзець, але на харошага паглядзець.

**Пагнацца.** За вялікім пагонішся — і малое згубіш.

За двума зайцамі пагонішся, ніводнага (ні аднаго) не зловіш.

**Пагрэць.** Пень гарэў, а чорт хвост пагрэў.

**Падаслаць.** Каб (калі б) ведаў, дзе паваілішся (упадзеш), <там, дык, то> саломкі падаслаў бы.

**Падаць.** Яблык ад яблыні недалёка падае (коціцца).

**Пад'есці.** Калядкі — добрыя сваткі: пад'еў ды на палатакі.

Не пад'ясі — і залатую фурманку аддасі.

Хто пад'еўшы не аддыша, таго бог за свінню запіша.

**Падзерці.** Шавец у падзёртых ботах ходзіць.

**Падзьмуць.** Напроці ветру не падзьмеш.



kamunikat.org

**Падмазаць.** Не падмажаш — не паедзеш.
Не падмазаўшы, не паедзеш.

**Падмануць.** Старога вераб'я на мякіне не зловіш (не падманеш, не правядзеш).

**Падняцца.** Не кайся, рана ўстаўшы (падняўшыся) і рана жаніўшыся.

**Падняць.** Нежывога з магілы не падымеш.

**Падохнуць.** Каб не клін ды не мох, дык (то і) цясляр (цесля, плотнік) бы падох (здох).

**Падпал.** Без падпалу дровы не гараць.

**Падрасці.** Дзеткі падраслі, хатку раставі.
Малыя дзеткі — малыя бедкі < падрастуць дзеткі — падрастуць і бедкі>

**Падскочыць.** Вышэй пупа (пят, галавы) не падскочыш (не скочыш).
Вышэй <самога> сябе не скочыш (не падскочыш).

**Падставіць.** На чужы лоб сягаючы (шыбаючы), трэба і свой падставіць (наставіць).

**Падымаць.** Адну карову мае і тую за хвост падымае.

**Паесці.** Паспытала свіння палена, памятае, дзе паела.

**Паехаць.** Не падмажаш — не паедзеш.
Не падмазаўшы, не паедзеш.

**Пажар.** Іскру тушы да пажару, бяду адводзь да ўдару.
Пажар (агонь) агнём не тушаць (не гасяць).

**Пажаць.** Хто сее (пасее) вецер, той пажне буру.
Што пасееш, тое і пажнеш.

**Пажытак.** Дасць бог дзень, дасць і полудзень (хлеб, ежу, пажытак).

**Пажыць.** Пажывём — пабачым (убачым).

**Пазваць.** Чорт чорта пазнаў і на піва (у госці) пазваў.

**Пазнавацца.** Дружба (прыяцель) пазнаецца ў няшчасці.

**Пазнаць.** Бог не цяля, бачыць (пазнае) круцяля.
Каб пазнаць (ведаць) чалавека, <дык> трэба з'есці з ім пуд солі.
Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку.
Трэба пуд солі з'есці, каб пазнаць чалавека.
Хто б дзятла пазнаў (ведаў), каб не яго <доўгі> нос.
Чорт чорта пазнаў і на піва (у госці) пазваў.

**Пазуха.** Матка парве пазуху, хаваўшы для дзяцей, а дзеці парвуць пазуху, хаваўшы ад маткі.

**Пазычыць.** Розум не сякера — не пазычыш.

**Пайсці.** Калі пайшоў у бойку, дык чуба не шкадуй.
Кума куме, дый пайшло па ўсім сяле.
Пайшоў (зарадзіў) драсён — не будзе (не жджы) красён.
Пайшоў па воўну, а вярнуўся стрыжаны (пастрыжаны, астрыжаны).
Пайшоў па попел, а чорт ухопіў.
Пайшоў у бойку, чупрыны не шкадуй.
Хто глядзіць вокам, той не пойдзе бокам.

**Пакачаць.** Сабака не з'есць, пакуль не пакачае.

**Пакінуць.** Злодзей хоць вуглы пакіне, а агонь усё забярэ.
Пашкадаваў воўк кабылу <пакінуў хвост ды грыву>.

**Паклон.** З паклону (з паклонаў) галава (галоўка) не баліць.

**Пакорны.** Пакорнае цяля дзвюх матак ссе.

**Пакровы.** Прыйшлі пакровы — заганяй у хлеў каровы.

Kamunikat.org

**Пакрысе.** Адзін з'еш хоць вала, <дык> адна хвала <а пакрысе, ды ўсе>.

**Пакуль.** Гэта пакуль кветачкі, а ягадкі наперадзе.

**Палавіна.** Грамніцы — палавіна зіміцы.
Добры пачатак — палавіна справы.

**Палаткі.** Калядкі — добрыя, святкі: пад'еў ды на палаткі.

**Палезці.** Жывы (жывым) у зямлю (у магілу, у ямку) не палезеш (не ляжаш).

**Палена.** Паспытала свіння палена, памятае, дзе паела.

**Палец.** Марац адмарозіць палец.
Чужую бяду рукамі (і пальцам) развяду.

**Паліца.** Добрая слава на паліцы ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць.

**Палка.** Захацеўшы сабаку выцяць, палку знойдзеш.
Захочаш сабаку выцяць (ударыць) — палку (кій) знойдзеш.
Свату першая чарка і першая палка.
Хто палку ўзяў, той і капрал.

**Палова.** Адзін сын — не сын, два сыны — палова сына (паўсына), тры сыны — сын.

**Палюбіць.** Любіў добрае, палюбі ж і злое.
Працу палюбіш — чалавекам будзеш.

**Паляванне.** Не тады сабак кормяць, як на паляванне ісці (ехаць).

**Паляк.** Дажыліся (дажылі) казакі (палякі), <што> ні хлеба, ні табакі.

**Паляцець.** Першая <чарка> калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць (астатнія паляцяць дробнымі птушачкамі).

**Памагаць.** Дома і вуглы памагаюць.
У сваёй хаце (у сваім доме) і вуглы (сцены) памагаюць.

**Памагчы.** Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы.
Рукі пабрудзіш — вадою адмыеш, душу забрудзіш — і мыла не поможа.
Слязамі (слязьмі) гору (бядзе) не паможаш.
Хто не ўтрымаўся за грыву, таму і хвост не паможа.

**Памаленьку.** Прыйшоў Мікола, не пытай ні ў кога, бяры сяленьку і (ды) сей памаленьку.

**Памалу.** Памалу едучы, далей будзеш.

**Памаўчаць.** Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі (нядобры) памаўчаць.
Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы.
Чыя б кароўка (карова) мычала, а твая (чыя) б маўчала (памаўчала).

**Памачыцца.** Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш не памачыўшыся.

**Памерці.** Век жыві — век вучыся <а дурнем памрэш>.
Круці не круці (не вярці), а трэба памерці.
Пакуль сыты пахудзее, дык худы памрэ.
Урадзілася цяля з белаю лацінкаю на лбе, так яно і памрэ.
Як багаты памрэ, па тры з хаты прэ, а як бедачок — толькі поп ды дзячок.
Як багаты памрэ, то і апошні з хаты прэ, а як бедны худачок — толькі попік ды дзячок.

**Паміраць.** Паміраць збірайся (збіраешся), а жыта сей.
Хто не нараджаецца, той не памірае.

**Памоўка.** На воўка памоўка, а мядзведзь цішком.
Пра воўка (аб воўку ) памоўка, а ён <і сам> тут.



Kamunikat.org

**Памыляцца.** Хто <нічога> не робіць, той не памыляецца.

**Памянуць.** Хто старое ўспомніць (успамяне, памяне), таму вока вон.

**Памятаць.** Паспытала свіння палена, памятае, дзе паела.

**Памяць.** У бабы валасы доўгія (волас доўгі), а розум кароткі (памяць кароткая).

**Пан.** Або пан або прапаў.
Адзін Сцяпан — заўсёды пан, а калі і нястача, дзіця не плача.
Да бога высока, да цара (да пана) далёка.
Дзе людзі бяднеюць, там паны багацеюць.
Дзе поп царкву ставіць, там пан карчму ладзіць.
Мінуліся тыя рою, калі паны браліся ў бокі.
Не будзь ні войтам, ні панам — не будзеш чалавекам паганым.
Пана клянуць, а пан тлусцее (таўсцее).
Пан за пана цягне (верне).
Пан ці прапаў.
Паны б'юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць.
Скачы, уража, як пан кажа.
Служка ў лапцях, а я (пан) босы.
Хвалі каня пасля дарогі, а пана — як выцягнуў ногі.
Ці пан ці прапаў.
Што ўложыць хам, <то> не выме і пан.

**Панаваць.** Адны пануюць, другія гаруюць.

**Панесці.** Насіў воўк, панеслі і ваўка (воўка).
Ні калёс, ні атос, і воўк кабылу панёс.

**Па-новаму.** Новая мятла па-новаму мяце.

**Панскі.** Ласка панская на рабым (дохлым) кані едзе.
Панскае вока каня тучыць (гадуе).
Папаўся жучку ў панскую ручку.

**Панства.** Не дай бог свінні рог, а мужыку панства.

**Панцялей.** Які б ні быў Панцялей, а жыць весялей.

**Нападаць.** Цаляеш у варону, а пападаеш у карову.

**Пападдзя.** Наелася пападдзя круп, дык жарствы захацела.
Хто любіць папа, хто пападдзю, хто папову дачку.
Як папу ўдаецца, то і пападдзя смяецца.

**Папасвацца.** Ці свінні елі, ці шляхта папасвалася (папаску мела).

**Папаска.** Ці свінні елі, ці шляхта папасвалася (папаску мела).

**Папасціся.** Папаўся жучку ў панскую ручку.
Папаўся ў вароны, то крычы, як воны.

**Паперці.** Супраць (супроць) ражна не папрэш.

**Папоў.** Хто любіць папа, хто пападдзю, хто папову дачку.

**Папсаваць.** Кашы (кашу) маслам не сапсуеш (не папсуеш).

**Папусціць.** Бог не папусціць, свіння не з'есць.

**Пара[1].** Бот лапцю не пара.
Лапаць боту не пара.
Чорт не адны лапці (не адну пару лапцей) стаптаў, пакуль (покуль) такую пару дабраў (сабраў).
Чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль пару дабраў.

**Пара[2].** Пара касцей не ломіць.



Kamunikat.org

**Пара́.** Да пары збан (жбан) ваду носіць <ручка (вушка) адарвецца — збан паб’ецца>.
Дачка ў пары — не трымай у двары.

**Параніць.** Паранены звер страшны (яшчэ больш небяспечны).

**Парася, парасё.** Не да парасят, калі свінню смаляць.
Не мела баба клопату, <дык> купіла парася.
Свінні не да парасят, калі яе смаляць.
Хто парася (парасё) украў, у таго ў вушах (увушшу) пішчыць.

**Парваць.** Матка парве пазуху, хаваўшы для дзяцей, а дзеці парвуць пазуху, хаваўшы ад маткі.

**Парог.** Без бога ні да парога.
Без хлеба яда — да парога хада.
Госць на парог — гаспадыня за пірог.
Госць на парог — радасць у хату.

**Паршывы.** З паршывай (шалудзівай) авечкі хоць шэрсці (воўны, поўсці) клок (касмык).
Паршывая авечка ўвесь статак псуе.

**Пасаліць.** Добрае сена: каб пасаліў, то і поп з’еў бы.

**Пасеяць.** Хто пасее вецер, той пажне буру.
Што пасееш, тое і пажнеш.

**Паслаць.** Дзе чорт <сам> не зможа (не можа), туды (там) бабу пашле.
Пашлі дурнога, а за ім другога.
Пашлі дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб’е.

**Паслухацца.** Не слухаеш ківа, дык паслухаешся кія.

**Пасмяяцца.** Пасмяяўся гаршчок з катла.
Пасмяяўся шалудзівы з (каля) пляшывага.

**Паспех.** Паспех— людзям на смех.

**Паспытаць.** Паспытала свіння палена, памятае, дзе паела.

**Паспяшыць.** Паспяшыш — людзей насмяшыць

**Пастарэць.** Будзеш усё ведаць, хутка (скора) пастарэеш (састарышся, стары зробішся).

**Пастой.** За пастой грошы не плацяць.

**Пастрыгчы.** Пайшоў па воўну, а вярнуўся стрыжаны (пастрыжаны, астрыжаны).

**Пасцелька.** Родная зямелька як зморанаму пасцелька.

**Пасці.** Ні села, ні пала, дай, баба, сала.
Ні села, ні пала, захацела баба сала.

**Пасядзець.** Лепш пад лаўкай пасядзець, але на харошага паглядзець.

**Патайны.** Няма нічога тайнага (патайнага), каб не стала (што не стала б, каб не было) яўным.

**Патаргавацца.** Купіў не купіў (куплю не куплю, купіш не купіш, купім не купім), а патаргавацца (патаргаваць) можна (варта).

**Патаргаваць.** Купіў не купіў (куплю не куплю, купіш не купіш, купім не купім), а патаргавацца (патаргаваць) можна (варта).

**Патрэбны.** Зваранай рыбе вада не патрэбна.

**Патуль.** Пакуль <у (на) гумне> цэп, патуль (датуль) <на стале> хлеб.

**Патыліца.** У разумнага вочы і на патыліцы сядзяць.

**Паўдзіцяці.** Адно дзіця — не дзіця, двое дзяцей — паўдзіцячы трое дзяцей — гэта дзіця.



Kamunikat.org

**Паўзці.** Задам (назад) толькі ракі поўзаюць (паўзуць, ходзяць).

**Паўсына** Адзін сын — не сын, два сыны — палова сына (паўсына), тры сыны — сын.

**Пахілы.** На пахілую вярбу (на пахілае дрэва) козы скачуць.

**Пахнуць.** Як не ела душа часнаку, пахнуць не будзе.

**Пахудзець.** Пакуль сыты пахудзее, дык худы памрэ.

**Пацеры.** Калі хата гарыць, не да пацераў.
Не да пацераў, калі хата гарыць.

**Пацешна.** Дзе цесна, там пацешна.

**Паціху.** Паціху едзеш — далей будзеш.

**Пацэліць.** Куляй у аднаго пацэліш, а трапным словам у тысячу.

**Пацягнуць.** Цягаў (цягнуў) воўк, пацягнулі і воўка.

**Пацячы.** Пад ляжачы камень вада не цячэ (не пацячэ, не бяжыць, не пабяжыць).

**Пачатак.** Добры пачатак — палавіна справы.

**Пачаць.** Плакаў, плакаў, а бог быў аднакаў, пачаў танцаваць, пачало шанцаваць.
Плакаў, плакаў — усе бог аднакаў, пачаў пяяць (спяваць) — стаў бог даваць.

**Пачуць.** Лепш (лепей) <адзін> раз убачыць (пабачыць), чым сто разоў пачуць.
Меней (менш) гавары — болей (больш) пачуеш.
Пераначуем, болей пачуем.

**Пачынаць.** Рыба з галавы псуецца (загніваецца, пачынае гніць, гніе).

**Пашана.** Якая заслуга, такая і пашана.

**Пашанцаваць.** Каму пашанцуе, той і ў лапцях танцуе.

**Пашкадаваць.** Пашкадаваў воўк кабылу <пакінуў хвост ды грыву>.

**Паявіцца.** Як вяровачцы ні віцца, а канцу паявіцца.

**Певень.** Была б дзеўка, ды певень запеў, як радзілася.
На грамніцы нап'ецца певень вадзіцы.
На сваім сметніку і певень (верабей) гаспадар.
Не заўсёды світае, як певень спявае.
У каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца.
Як на грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, дык на Юр'я наесца вол травіцы.

**Пень.** Вялік пень, ды дурань.
Зляпіў бог душу — ні ў пень, ні ў грушу.
Пень гарэў, а чорт хвост пагрэў.
Пень прыбяры, то і пень харошы.
Прыбяры пень, дык і ён будзе прыгожы.

**Перабіраць.** Я не музыкант (не арганіст), не перабіраю.

**Перабіць.** Пугай абуха не пераб'еш.

**Пераборы.** За пераборы лапці ды аборы.

**Перабыць.** Чорт бяду перабудзе — адна згіне, дзесяць будзе.

**Пераажыць.** Пераажылі лета гарачае, перажывём і дзярмо сабачае.
Цешыўся старац, што перажыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю.

**Перайсці.** Жыццё пражыць — не поле перайсці.
Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш (пяройдзеш), а (але, ды) назад не вернешся.

**Перакукаваць.** Начная зязюля (зязюлька) дзённую перакукуе.

**Перамалоцца.** Перамелецца — мука будзе.

**Пераначаваць.** Летам кожны кусцік начаваць (пераначаваць) пусціць.

Пераначуем, болей пачуем.

**Перарабіць.** Работы ніколі (век) не пераробіш.

**Пераскочыць.** Калі не пераскочыў, не кажы гоп.

Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў (не пераскочыш).

Не пераскочыў, не кажы гоп.

Не пераскочыўшы, не кажы гоп.

Смерць не ручаінка — не пераскочыш.

**Пераступіць.** Каб ведаў чалавек, дзе спатыкнецца, то пераступіў бы тое месца.

**Перахрысціцца.** <Пакуль> гром не грымне (не загрыміць), мужык не перахрысціцца.

**Перці.** Як багаты памрэ, па тры з хаты прэ, а як бедачок — толькі поп ды дзячок.

Як багаты памрэ, то і апошні з хаты прэ, а як бедны худачок — толькі попік ды дзячок.

**Першы.** Не ён першы, не ён апошні.

Не мы першыя, не мы апошнія.

Не ты першы, не ты апошні.

Не я першы, не я апошні.

Першая жонка ад бога, другая ад людзей, а трэцяя ад чорта.

Першая <чарка> калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць (астатнія паляцяць дробнымі птушачкамі).

Першы блін выйшаў камяком.

Першы блін камяком.

Першы дзень госць — золата, другі — срэбра, трэці — медзь, дадому (дахаты) едзь.

Свату першая чарка і першая палка.

**Песенька.** Гора плача, гора скача, гора песенькі пяе.

На чыім возе (вазку, коніку) едзеш, таму і песню (песеньку, песенькі) спявай (пей, вядзі).

**Песня.** З песні слова не выкінеш.

Кожная сасна свайму бору песню спявае.

На чыім возе (вазку, коніку) едзеш, таму і песню (песеньку, песенькі) спявай (пей, вядзі).

Салаўя байкамі (песнямі) не кормяць.

**Пехатой.** Што каму суджана, <дык і пехатой> таго не абойдзеш і <з канём> не аб'едзеш.

**Пець.** Гора плача, гора скача, гора песенькі пяе.

Мужык — дурань, як умее, так і пее.

На чыім возе (вазку, коніку) едзеш, таму і песню (песеньку, песенькі) спявай (пей, вядзі).

**Печ.** Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць.

Адна галавешка і ў печы не тлее (не гарыць).

Заві хоць гаршком, толькі ў печ не стаўляй.

Называй хоць гаршком, толькі ў печ не стаўляй.

Няхай хоць гаршком завуць, абы ў печ не ставілі.

Хоць гаршком заві (называй), адно (толькі, а) у печ не стаўляй (не стаў).



Kamunikat.org

**Пешы.** Пешы коннаму не таварыш.

**Пётр.** Іван ківае на Петра <а Пётр на Івана>.

**Піва.** Маладое піва заўсёды шуміць.
Не той піва п'е, хто варыць.
Чорт чорта пазнаў і на піва (у госці) пазваў.

**Пірог.** Госць на парог — гаспадыня за пірог.
Еш пірог (боршч) з грыбамі, а язык трымай за зубамі.
Не красна хата вугламі, а пірагамі.
У чужых руках пірог вялік.

**Пісака.** Пісаў пісака, што не разбярэ і сабака.

**Пісаць.** Дурню (дурному, дурням) закон не пісан.
Пісаў пісака, што не разбярэ і сабака.

**Пісьмо.** Слова вецер, а пісьмо грунт.

**Піць.** Было што піць і есці, але прынукі не было.
Горкая гарэлка (гарэлачка), але п'юць, дрэнна замужам, але ідуць.
Да цябе (да вас) не п'юць, не кажы (не кажыце) здароў будзь.
Дзе п'юць, там і льюць.
Не да вас п'юць, не кажыце здароў будзь.
Не да цябе п'юць, не кажы здароў будзь.
Не пі, не еш і з хаты не лезь.
Не піў — не мог, а выпіў — ні рук, ні ног.
Не той піва п'е, хто варыць.
Пі ды еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш.
Пі, ды розуму не прапі.
Чым за морам віно піць, лепш (лепей) з Нёмана (у Нёмане) вадзіцу.

**Пішчаць.** Хто парася (парасё) украў, у таго ў вушах (увушшу) пішчыць.

**Плаванне.** Вялікаму караблю — вялікае <і> плаванне.

**Плаваць.** Не вучы рыбу плаваць.
Не тады вучацца плаваць, калі вада ў рот плыве.

**Плакаць.** Адзін Сцяпан — заўсёды пан, а калі і нястача, дзіця не плача.
Без гаспадара гумно плача, а без гаспадыні хата.
Гора плача, гора скача, гора песенькі пяе.
Дзіця не плача, матка (маці) не дагадаецца.
Зняўшы галаву, па валасах не плачуць.
Кожны плача па сваім бацьку, як умее.
Плакаў, плакаў, а бог быў аднакаў, пачаў танцаваць, пачало шанцаваць.
Плакаў, плакаў — усё бог аднакаў, пачаў пяяць (спяваць) — стаў бог даваць.
Хоць муж (мужык) з лапаць, абы з ім не плакаць.
Хто як хоча, так па свайму бацьку плача.
Чаго ж бы плакаў слеп, каб бачыў свет (след).
Чым бы дзіця ні цешылася, абы (толькі б) не плакала.

**Плата.** За спрос платы не бяруць.

**Плаціць.** Еш селядца з галавою, за ўсё грошы плачаны.
За пастой грошы не плацяць.
Не плаціць багаты, а вінаваты.
Скупы плаціць двойчы.
Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку.

**Племя.** Якое семя, такое і племя.

**Плесці.** Гаспадарку весці — не лапці плесці.

**Плот.** Займі чорта ад варот, дык ён цераз плот.

Ты з варот, а ён цераз плот.
Шлюб <быў> пад плотам, а вяселле потым.

**Плотнік.** Каб не клін ды не мох, дык (то і) цясляр (цесля, плотнік) бы падох (здох).

**Плыць.** Не тады вучацца плаваць, калі вада ў рот плыве.

**Пляваць.** Не плюй у калодзеж, прыйдзецца напіцца.
Хоць плюй у вочы, а ён кажа (скажа, будзе гаварыць), што дождж ідзе.

**Пляшывы.** Пасмяяўся шалудзівы з (каля) пляшывага.

**Позна.** Вучыцца ніколі не позна.
Лепш (лепей) позна, чым (як) ніколі.
Хто позна ходзіць, <той> сам сабе шкодзіць.

**Позні.** Ранні зайчык зубкі цярэбіць, а позні вочкі прадзірае.
Ранняя птушка (птушачка, пташачка) зубкі (крылкі) цярэбіць, а позняя вочы праціраe.

**Полацк.** Не адзін Гаўрыла <што> у Полацку.

**Поле.** Адзін у полі не воін.
Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць.
Вольнаму воля, <а> шалёнаму поле (уратаванаму рай).
Жыццё пражыць — не поле перайсці.
Прыйшла Прачыстая — усе поле чыстае.
Пустазелле з поля вон.

**Полудзень.** Дасць бог дзень, дасць і полудзень (хлеб, ежу, пажытак).

**Поначы.** Поначы ўсе каты шэрыя.

**Поп.** Дзе поп царкву ставіць, там пан карчму ладзіць.
Дзяк не поп, бярэ і боб.
Добрае сена: каб пасаліў, то і поп з'еў бы.
І без папа ведаю (ведаем, знаю, знаем), што ў нядзелю свята.
Калі не поп, <дык> не ўбірайся ў рызы.
На бязлюддзі і поп чалавек.
Не поп, не ўбірайся (не прыбірайся) у рызы.
Новы поп, дык новае і маленне.
Поп сваё, <а> чорт сваё.
Хто любіць папа, хто пападдзю, хто папову дачку.
Што ні поп, то свая малітва.
Як багаты памрэ, па тры з хаты прэ, а як бедачок — толькі поп ды дзячок.
Як папу ўдаецца, то і пападдзя смяецца.

**Попел.** Золата і ў смецці (у попеле) блішчыць.
Пайшоў па попел, а чорт ухопіў.

**Попік.** Як багаты памрэ, то і апошні з хаты прэ, а як бедны худачок — толькі попік ды дзячок.

**Пост.** Не ўсё (не заўсёды) кату масленіца <прыйдзе і вялікі пост>.

**Потым.** Кось-кось да аброку, а потым кіем па боку.
Шлюб <быў> пад плотам, а вяселле потым.

**Поўдзень.** Яму раніцаю росна, у поўдзень млосна, а ўвечары камары кусаюць.

**Поўзаць.** Задам (назад) толькі ракі поўзаюць (паўзуць, ходзяць).

**Поўніцца.** Чуткамі зямля поўніцца.

**Поўны.** Каб не ежка ды адзежка, была б грошай поўна дзежка.
Усякая будзе гаспадыня, калі <мукі> поўная скрыня.



Kamunikat.org

**Поўсць.** З паршывай (шалудзівай) авечкі хоць шэрсці (воўны, поўсці) клок (касмык).

**Прабіць.** Галавою (ілбом) сцяны (сцяну, муру, мур) не праб'еш.

**Правесці.** Старога вераб'я на мякіне не зловіш (не падманеш, не правядзеш).

**Праводзіць.** Па адзежы сустракаюць, а па розуму праводзяць.
По адзенні страчаюць, а па розуму праводзяць.

**Прагаліна.** Жаваранак прылятае на прагаліну, шпак на прагаліну, жораў з цяплом, а ластаўка з лістом.

**Праглынуць.** Не будзь горкім і не будзь салодкім, — горкае праплююць, а салодкае праглынуць.
Не будзь салодкі, а то праглынуць, не будзь горкі, а то праплююць.

**Прадаваць.** За што купіў, за тое <і> прадаю.
На трактар спадзявайся, <а> каня не прадавай

**Прадажны.** Для прадажнай псіны кол з асіны.

**Прадацца.** Наняўся, як прадаўся.

**Прадаць.** Бог не прадасць, свіння не з'есць.
Здраднік за агрызкі прадасць родных і блізкіх.

**Прадзіраць.** Ранні зайчык зубкі цярэбіць, а позні вочкі прадзірае.

**Пражыць.** Жыццё пражыць — не поле перайсці.
<Што> дзень (дзянёк) пражыў, то і дзякуй богу.

**Прайсці.** Ашуканствам можна свет прайсці, але назад не вернешся.
Круцячы, свет пройдзеш, але назад не вернешся.
Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш (пяройдзеш), а (але, ды) назад не вернешся.

**Прапасці.** Або пан або прапаў.
Ад (з) напасці не прапасці.
Альбо пан альбо прапаў.
Пан ці прапаў.
Прапала кароўка, прападай (няхай прападае) <і> вяроўка.
Ці пан ці прапаў.
Што з воза ўпала, тое (то) прапала.

**Прапіць.** Пі, ды розуму не прапі.

**Прапляваць.** Не будзь горкім і не будзь салодкім, — горкае праплююць, а салодкае праглынуць.
Не будзь салодкі, а то праглынуць, не будзь горкі, а то праплююць.

**Прасіць.** Дождж ідзе не тады, як просяць, а тады, як жнуць ды косяць.
Дождж ідзе не там, дзе просяць, а дзе косяць, не там, дзе ждуць, а там, дзе жнуць.
Міласці прашу к нашаму шалашу.

**Праспацца.** Калі п'яны (як п'ян), дык капітан, а калі (як) праспіцца, дык свінні баіцца.
П'яніца праспіцца, а дурань ніколі.

**Прагаліна.** Жаваранак прылятае на прагаліну, шпак на прагаліну, жораў з цяплом, а ластаўка з лістом.

**Праўда.** Лепш (лепей) горкая праўда, чым салодкая мана (хлусня).
Не той друг, што мёдам мажа, а той, хто праўду ў вочы кажа.
Праўда вочы коле.
Праўда не скварка, з кашаю не з'ясі.
У нагах праўды няма.
Усё мінецца, а праўда застанецца.



Kamunikat.org

Хлеб-соль еш, а праўду рэж.
Што праўда, то не грэх.

**Праца.** Горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі.
Праца не воўк, у лес не ўцячэ.
Працу палюбіш — чалавекам будзеш.

**Працаваць.** Хвароба — мігрэнь: жраць ахвота, а працаваць лень.
Хто не працуе (не робіць), той не есць.

**Праціраць.** Ранняя птушка (птушачка, пташачка) зубкі (крылкі) цярэбіць, а позняя вочы працірае.

**Прачыстая.** Прыйшла Прачыстая — усё поле чыстае.

**Прочкі.** У прочкі выбірайся, а жыта сей.

**Прутшы.** Хто дужшы, той прутшы.

**Прыбірацца.** Не поп, не ўбірайся (не прыбірайся) у рызы.

**Прыбраць.** Пень прыбяры, то і пень харошы.
Прыбяры пень, дык і ён будзе прыгожы.

**Прыбытак.** Ад прыбытку галава не баліць.

**Прывесці.** Сава не родзіць (не прывядзе) сакала <а такога ж чорта, як самах

**Прывет.** Не дораг абед, а дораг прывет.

**Прывычка.** Прывычка — другая натура.

**Прыгадзіцца.** Хараство (краса) прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца.

**Прыглядзецца.** Хараство (краса) прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца.

**Прыгожы.** Прыбяры пень, дык і ён будзе прыгожы.

**Прыдача.** Да ўдачы не трэба прыдачы.
За няўдачу даюць прыдачу.

**Прызнак.** Смех без прычыны — прызнак (знак) дурачыны.

**Прыйсці.** Не ўсё (не заўсёды) кату масленіца <прыйдзе і вялікі пост>.
Прыйдзе Ілья — наробіць гнілля.
Прыйдзе і на крапіву мароз.
Прыйдзе і на нашу вуліцу свята.
Прыйшла Прачыстая — усё поле чыстае.
Прыйшлі пакровы — заганяй у хлеў каровы.
Прыйшоў Мікола, не пытай ні ў кога, бяры сявеньку і (ды) сей паманеньку.
Прыйшоў Пятрок — апаў лісток; прыйшоў Ілья — апала два.

**Прыйсціся.** Не плюй у калодзеж, прыйдзецца напіцца.

**Прыкіпець.** Сірацe прыкіпіць (дакіпіць) у жываце.

**Прыклеіць.** Адрэзанае лусты не прыклееш (не прылепіш).

**Прыляпіць.** Адрэзанае лусты не прыклееш (не прылепіш).

**Прылятаць.** Жаваранак прылятае на праталіну, шлак на прагаліну, жораў з цяплом, а ластаўка з лістом.

**Прымаць.** Зямля святая ўсіх прымае.
Мая душа не крывая, усё прымае.

**Прымачы.** Прымачы хлеб — сабачы.

**Прынесці.** Сарока на хвасце прынесла.

**Прыносіць.** Гракі цяпла не прыносяць.

**Прынука.** Было што піць і есці, але прынукі не было.
Усяго было даволі, толькі прынукі не было.

**Прыпасы.** Ласы на чужыя прыпасы (каўбасы).

**Прыставаць.** Бруднае (паганае) да чыстага не прыстае.

**Прыстаў.** У сваім стане і прыстаў цар.

Kamunikat.org

**Прыстаць.** Бруднае (паганае) да чыстага не прыстане.

**Прыходзіцца.** Год на год не прыходзіцца (не выпадае).

**Прыходзіць.** Апетыт прыходзіць у час (у часе) яды.

Мужыку розум прыходзіць па шкодзе.

Прыходзіш) і на нашу вуліцу свята.

**Прычына.** Смех без прычыны — прызнак (знак) дурачыны.

**Прычыніш.** І за лучынку знойдзе прычынку.

**Прычэпка.** І за шчэпку знойдзе прычэпку.

**Прыяцель.** Прыяцель пазнаецца ў няшчасці.

**Псавацца.** Рыба з галавы псуецца (загніваецца, пачынае гніць, гніе).

**Псаваць.** <Адна> лыжка дзёгцю псуе бочку мёду.

<Адна> паршывая (шалудзівая, паганая) авечка (аўца) увесь статак (гурт, усю чараду) псуе (сапсуе).

Злазь з даху <і> не псуй гонту (гонты, гонтаў).

Стары вол (конь) баразны не псуе (не сапсуе).

**Псіна.** Для прадажнай псіны кол з асіны.

**Пташачка.** Ранняя птушка (птушачка, пташачка) зубкі (крылкі) цярэбіць, а позняя вочы праціpae.

**Птушачка.** Першая <чарка> калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць (астатнія паляцяць дробнымі птушачкамі).

Ранняя птушка (птушачка, пташачка) зубкі (крылкі) цярэбіць, а позняя вочы праціpae.

**Птушка.** Курыца не птушка, а баба не чалавек.

Ранняя птушка (птушачка, пташачка) зубкі (крылкі) цярэбіць, а позняя вочы праціpae.

Усякая птушка сваё гняздо бароніць.

Якая птушка, такое і гняздзечка.

**Пуга.** Дзе толькі мужык з слаўцом, там за ім пуга з вузлом.

Пугай абуха не пераб'еш.

**Пуд.** Каб пазнаць (ведаць) чалавека, <дык> трэба з'есці з ім пуд солі.

Трэба пуд солі з'есці, каб пазнаць чалавека.

**Пужаны.** Пужаная варона <і> куста баіцца.

**Пуп.** Вышэй пупа (пят, галавы) не падскочыш (не скочыш).

Калі робіш у купе, не баліць у пупе.

Рабіць у купе — не баліць у пупе.

**Пупок.** Міл (мілы, дораг) той куток, дзе абрэзалі (рэзалі) пупок.

Няма лепш за той куток, дзе вязалі пупок.

**Пускаць.** <І> рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць.

Рада б душа ў рай, ды грахі не пускаюць.

Хацела б душа ў рай, ды грахі не пускаюць.

Хацеў бы ў рай, ды грахі не пускаюць.

**Пуста.** Аднаму густа, а другому пуста.

Каму густа, <а> каму пуста.

**Пустазелле.** Пустазелле з поля вон.

**Пусціць.** Летам кожны кусцік начаваць (пераначаваць) пусціць.

Пусці свінню пад стол, то яна захоча і на стол.

**Пух.** Пакуль (покуль) з багатага пух, то (дык) з беднага дух.

**Пчолка.** За пчолкаю — у мёд, за жукам — у гной.

**Пытанне.** Адзін дурань можа задаць (задасць) столькі пытанняў, што дзесяць (сем) разумных не адкажуць.

**Пытаць.** Прыйшоў Мікола, не пытай ні ў кога, бяры сявеньку і (ды) сей памаленьку.



Kamunikat.org

У людзей пытай і свой розум май.

Хто пытае, той не блудзіць.

**П'яніца.** П’яніца праспіцца, а дурань ніколі.

**П'яны.** Калі п’яны (як п’ян), дык капітан, а калі (як) праспіцца, дык свінні баіцца.

П’янаму <і> мора па калена.

Што ў цвярозага ў галаве (на розуме), то (тое) у п’янага на языку.

**Пяро.** Лёгкае пяро, ды на страху не закінеш.

Што напішаш (напісана) пяром, <то> не вырубіш (не высечаш) тапаром.

**Пята.** Вышэй пят не падскочыш.

**Пятро.** Чакай, баба, Пятра — будзеш сыр есці.

Чакай Пятра — сыр (сыру) з’ясі.

Чакай, цётка, Пятра — будзеш сыр есці.

**Пятрок.** Прыйшоў Пятрок — апаў лісток; прыйшоў Ілья — апала два.

**Пятрусь.** Янка ківае на Петруся, а Пятрусь на Янку.

**Пяць.** Варона з куста, а пяць на куст.

**Пячы.** Калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ.

**Пяяць.** Плакаў, плакаў — усё бог аднакаў, пачаў пяяць (спяваць) — стаў бог даваць.

**Раба.** Сама сябе раба б’е, калі (што) нячыста жне.

**Рабіць.** Адна ластаўка вясны не робіць.

Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць.

Калі робіш у купе, не баліць у пупе.

Рабіць у купе — не баліць у пупе.

Хто не робіць, той не есць.

Хто нічога не робіць, той не памыляецца.

Хто робіць, той і мае.

**Работа.** Ад (з) работы коні дохнуць.

Гультай за работу — мазоль за руку (мазалі за рукі).

Работа дурняў (дурня, дурных) любіць.

Работа не заяц, не ўцячэ.

Работа (праца, справа) не воўк, у лес не ўцячэ (не збяжыць, не пабяжыць).

Работы ніколі (век) не пераробіш.

Увосень — работ восем.

**Рабро.** Сівізна ў валасы, <а> д’ябал у рабро.

**Рабрына.** Сівізна ў бараду, а чорт у рабрыну.

**Рабы.** Восень на рабым кані ездзіць.

Ласка панская на рабым (дохлым) кані едзе.

**Радасць.** Абяцанка-цацанка, а дурню радасць.

Абяцанкі-цацанкі, а дурню (дурному) радасць.

Госць на парог — радасць у хату.

Старасць не радасць <а горб не карысць>.

**Радзіны.** Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны.

**Радзіцца.** Была б дзеўка, ды певень запеў, як радзілася.

Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл.

Дурняў не аруць, не сеюць, яны самі родзяцца.

Не радзіся красны, а радзіся шчасны.

Яшчэ той не радзіўся, каб усяму свету згадзіўся.

**Радзіць.** Гара радзіла мыш.

Дарагая тая хатка, дзе радзіла (нарадзіла) мяне матка.

kamunikat.org

Сава не родзіць (не прывядзе) сакала <а такога ж чорта, як самах
Сем гадоў мак не радзіў, а голаду не было.

**Раднейшы.** Гл. родны.

Рады. Брыгадзір капейкі не варт, калі чарцы рад.
<І> рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць.
На чужой старонцы рад сваёй варонцы.
Рада б душа ў рай, ды грахі не пускаюць.
Усякі (кожны) гад чужому грошу рад.
Хто новага не бачыў, той старому рад.
Чым багаты, тым і рады.
Чым хата багата, тым і рада.

**Ражон.** Супраць (супроць) ражна не папрэш.

**Раз.** Глухім два разы ў касцёле не звоняць.
Лепш (лепей) <адзін> раз убачыць (пабачыць), чым сто разоў пачуць.
Сем бед за раз — адзін адказ.
Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж.
Скупы два разы траціць.

**Разабраць.** Пісаў пісака, Што не разбярэ і сабака.

**Разбіць.** Загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб'е.
Застаў дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб'е.
Пашлі дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб'е.

**Разбой.** Голаму разбой не страшан (не страшны).
Голы разбою не баіцца.

**Развесці.** Чужую бяду рукамі (і пальцам) развяду.

**Разумны.** Адзін дурань можа задаць (задасць) столькі пытанняў, што дзесяць (сем) разумных не адкажуць.
Лепш (лепей) з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці.
У разумнага вочы і на патыліцы сядзяць.

**Разяўляць.** На чужы каравай рота (рот) не разяўляй (не разявай).

**Рай.** Вольнаму воля, <а> шалёнаму поле (уратаванаму рай).
З мілым (з любым) рай і ў шалашы (у будане).
<І> рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць.
Рада б душа ў рай, ды грахі не пускаюць.
Хацела б душа ў рай, ды грахі не пускаюць.
Хацеў бы ў рай, ды грахі не пускаюць.

**Рак.** Гора толькі рака (ракаў) красіць.
Грозен (грозны) рак, ды (але) ззаду вочы.
Грозны рак, ды дзе ў яго вочы?
Задам (назад) толькі ракі поўзаюць (паўзуць, ходзяць).
Ішоў ваякам, а назад ракам.
Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй (з клюшнямі).
Любіў рак жабу, аж вочы выеў.
На бязрыб'і і рак рыба.

**Рамень.** Не кручаны — не рэмень (не рамень), не вучаны — не чалавек.

**Рана[1].** Чужая рана не баліць.

**Рана[2].** Не кайся, рана ўстаўшы (падняўшыся) і рана жаніўшыся.
Не кайся, што рана ўстаў або маладым ажаніўся.
Хто рана ўстае, таму <і> бог дае.

**Раней.** Раней устанеш — болей зробіш.

**Раніца.** Раніца мудрэйшая (мудрэй) за вечар.

**Раніцай.** Яму раніцаю росна, у поўдзень млосна, а ўвечары камары кусаюць.

**Ранні.** Ранні зайчык зубкі цярэбіць, а позні вочкі прадзірае.

Kamunikat.org

Ранняя птушка (птушачка, пташачка) зубкі (крылкі) цярэбіць, а позняя вочы працірае.

**Раса.** Касі, каса, пакуль раса, раса далоў — каса (касец) дамоў.

Пакуль (покі) сонца ўзыдзе, раса вочы выесць.

**Раскусіць.** Не раскусіш арэх, зерня не з'ясі.

Чалавек не арэх, адразу не раскусіш.

**Растрасці.** Дзеткі падраслі, хатку растраві.

**Расхлёбваць.** Сам заварыў кашу, <дык> няхай сам і расхлёбвае.

Сам заварыў кашу, сам і расхлёбвай.

**Расці.** На вытаптанай (выбітай, торнай) дарозе трава не расце.

**Рвацца.** Дзе коратка (тонка), там ірвецца (і рвецца).

**Рваць.** На смелага сабакі брэшуць, а баязлівага рвуць.

Ціхая вада грэблю рве.

**Рог.** Бадлівай карове бог рог не дае.

Ведаў бог, каму не даў рог.

Каб свінні рогі, не саступіла б (не сышла б) з дарогі.

Не дай бог свінні рог, а мужыку панства.

**Род.** Няма роду без выроду.

**Родны.** Добры сусед раднейшы за роднага брата.

Здраднік за агрызкі прадасць родных і блізкіх.

Кожнаму сваё (роднае) дзіця міла.

Родная зямелька як зморанаму пасцелька.

**Розум.** Вастры зуб аб зуб і розум аб розум.

Волас сівее, розум слабее.

Вырас, а розуму не вынес.

Другіх слухай, а сваім розумам жыві.

За багацце розуму не купіш.

Кожны па часе мае розум.

Людзей (другіх) слухай, а (ды) свой розум май.

Мужыку розум прыходзіць па шкодзе.

Па адзежы сустракаюць, а па розуму праводзяць.

Па адзенні страчаюць, а па розуму праводзяць.

Пі, ды розуму не прапі.

Розум не сякера — не пазычыш.

Розуму ў чужую галаву лапатай не накладзеш.

У бабы валасы доўгія (волас доўгі), а розум кароткі (памяць кароткая).

У каго грошы, у таго і розум.

У людзей пытай і свой розум май.

Хараство (краса) прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца.

Што <ні> галава, то <і> розум.

Што ў цвярозага ў галаве (на розуме), то (тое) у п'янага на языку.

**Рок.** Мінуліся тыя рокі, калі паны браліся ў бокі.

**Росна.** Яму раніцаю росна, у поўдзень млосна, а ўвечары камары кусаюць.

**Рот.** На чужы каравай рота (рот) не разяўляй (не разявай).

На чужы рот гузіка не нашыеш.

На чужы рот (язык) замок не навесіш (не павесіш).

Не тады вучацца плаваць, калі вада ў рот плыве.

Пі ды еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш.

Сухая лыжка рот дзярэ.

У каго кашаль, той і красен <і ў роце не суха, і ў хаце не глуха>.

Што (чаго) не ясі, <таго> у рот не нясі.

**Роўна.** Бог не роўна дзеліць.

kamunikat.org

На сонца ўсе роўна глядзім, ды не ўсе роўна бачым.

**Рубашка.** Свая рубашка бліжэй да цела.

**Рубель.** З хаткі ў хатку, дык на рубель упадку.
Капейка рубель беражэ.
Не май сто рублёў, а май сто сяброў.
Хто капейкі не беражэ, таго рубель баіцца.

**Рука.** Адной рукой і вузла не завяжаш.
Гультай за работу — мазоль за руку (мазалі за рукі).
Дзіця за руку бярэш — маці за сэрца.
Лепш сініца ў руцэ (у жмені), чым журавель (жораў) у небе.
Не злавіў (не ўзяў) за руку, не кажы <што> злодзей.
Не піў — не мог, а выпіў — ні рук, ні ног.
Пасля бойкі кулакамі (рукамі) не махаюць.
Рука руку мые.
Рукі пабрудзіш — вадою адмыеш, душу забрудзіш — і мыла не паможа.
У чужых руках пірог вялік.
Хлеб на стале — рукі свае.
Чужую бяду рукамі (і пальцам) развяду.
Чужымі рукамі жар заграбаць лёгка (добра).

**Рукаво.** Жонка не рукаў (не рукаво), не адпораш.

**Рукаў.** Жонка не рукаў (не рукаво), не адпораш.

**Рупіць.** Што каму рупіць, <то> той тое (пра тое) і жупіць.

**Ручаінка.** Смерць не ручаінка — не пераскочыш.

**Ручка.** Да пары збан (жбан) ваду носіць <ручка (вушка) адарвецца — збан паб’ецца>.
Папаўся жучку ў панскую ручку.

**Рушыць.** Не руш чужога і не бойся нікога.

**Рыба.** Зваранай рыбе вада не патрэбна.
І рыбы не хачу, і адзежкі не змачу.
На бязрыб’і і рак рыба.
Не вучы рыбу плаваць.
Рыба з галавы псуецца (загніваецца, пачынае гніць, гніе).
Рыба любіць ваду.
Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей (лепей, лепш).
Як няма рыбы без косці, так і няма чалавека без злосці.

**Рыбак.** Калі бацька рыбак, то і сын глядзіць на ваду.
Рыбак рыбака бачыць здаляка.

**Рыбка.** Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш не памачыўшыся.

**Рыза.** Калі не поп, <дык> не ўбірайся ў рызы.
Не поп, не ўбірайся (не прыбірайся) у рызы.

**Рыхтаваць.** Рыхтуй калёсы зімой, а сані летам.

**Рыць.** Ціхая свіння глыбока рые (капае).
Ціхая свіння глыбокі корань рые.

**Рэдзька.** Горка рэдзька, ды ядуць, цяжка (дрэнна, ліха) замужам, ды ідуць.
Хрэн за рэдзьку не саладзейшы.

**Рэдка.** Каб такіх часта сеялі, ды рэдка ўзыходзілі.

**Рэзаць.** Міл (мілы, дораг) той куток, дзе абрэзалі (рэзалі) пупок.
Хлеб-соль еш, а праўду рэж.

**Рэмень.** Не кручаны — не рэмень (не рамень), не вучаны — не чалавек.

**Рэчка.** Па кропельцы — рэчка, па сянінцы — копка, па копцы — стог.

**Сабака.** Без старога каля хаты — як без сабакі.



kamunikat.org

Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць.
Вялікага сабакі вялікі брэх.
Добра сабаку і муха.
Добры гаспадар і сабаку з двара (з хаты) не выганіць у такую нягоду (у такое надвор'е, у такі дзень).
Жыве кот і жыве сабака.
Жыве кот і сабака, ды жытка не аднака.
Захочаш сабаку выцяць (ударыць) — палку (кій) знойдзеш.
Калі захочаш сабаку выцяць, то кій знойдзеш.
На голага <і> сабакі брэшуць.
На смелага сабакі брэшуць, а баязлівага рвуць.
Не бойся таго сабакі, што брэша, а бойся таго, што лашчыцца.
Не тады сабак кормяць, як на паляванне ісці (ехаць).
Па абліччы апостал, а па зубах сабака.
Пісаў пісака, што не разбярэ і сабака.
Сабака брэша — вецер носіць.
Сабака не з'есць, пакуль не пакачае.
Сабаку <і> сабачая смерць.
Хоць кум, ды сабака.
Як сабака на сене — і сам не гам і другому не дам.
Як сабаку кормяць, так сабака і брэша.

**Сабачка.** Маленькі сабачка да старасці шчанюк (шчаня).

**Сабачы.** Пераджылі лета гарачае, пераджывём і дзярмо сабачае.
Прымачы хлеб — сабачы.
Сабаку <і> сабачая смерць.

**Сабой. Гл.** сябе.

**Сабраць.** Чорт не адны лапці (не адну пару лапцей) стаптаў, пакуль (покуль) такую пару дабраў (сабраў).

**Сава.** Арлу з савой не па дарозе.
Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзець.
Сава не родзіць (не прывядзе) сакала <а такога ж чорта, як сама>.

**Садзіцца.** Не ў свае сані не садзіся.

**Сакол.** Першая <чарка> калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць (астатнія паляцяць дробнымі птушачкамі).
Сава не родзіць (не прывядзе) сакала <а такога ж чорта, як сама>.

**Сала.** Ведае (знае) кошка, чыё сала з'ела.
Ні села, ні пала, дай, баба, сала.
Ні села, ні пала, захацела баба сала.

**Салавей.** Салавей байкамі не сыты.
Салаўя байкамі (песнямі) не кормяць.

**Саладзейшы.** Хрэн за рэдзьку не саладзейшы.

**Салдат.** Салдат спіць, а служба ідзе.

**Салодкі.** Горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі.
Лепш (лепей) горкая праўда, чым салодкая мана (хлусня).
Не будзь горкім і не будзь салодкім, — горкае праплююць, а салодкае праглынуць.
Не будзь салодкі, а то праглынуць, не будзь горкі, а то праплююць.

**Салома.** Дома і салома ядома.
Сіла салому ломіць.

**Саломінка.** Тапелец і за саломінку хапаецца.
<Той> хто топіцца, <і> за саломінку хопіцца.
У чужым воку саломку (саломінку) бачым, а ў сваім <і> бервяна не заўважаем.

Як топішся, дык і за саломінку хапаешся.

**Саломка.** Каб (калі б) ведаў, дзе павалішся (упадзеш), <там, дык, то> саломкі падаслаў бы.

У чужым воку саломку (саломінку) бачым, а ў сваім <і> бервяна не заўважаем.

**Сам.** Аржаная каша сама сябе хваліць.

Вышэй <самога> сябе не скочыш (не падскочыш).

Ганчар гаршкі лепіць, а сам у чарапку <есці> варыць.

Дзе чорт <сам> не зможа (не можа), туды (там) бабу пашле.

Дурняў не аруць, не сеюць, яны самі родзяцца.

<І> сам не гам і другому не дам.

Любіць аржаная каша сама сябе хваліць.

На бога спадзявайся, а (ды) сам не давайся (не агінайся, не зявай).

Не капай другому яму, сам у яе ўвалішся.

Не шукай бяды, яна <сама> цябе знойдзе.

Першая <чарка> калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць (астатнія паляцяць дробнымі птушачкамі).

Пра воўка (аб воўку) памоўка, а ён <і сам> тут.

Сава не родзіць (не прывядзе) сакала <а такога ж чорта, як сама>.

Сама сябе раба б'е, калі (што) нячыста жне.

Сам заварыў кашу, <дык> няхай сам і расхлёбвае.

Сам заварыў кашу, сам і расхлёбвай.

Хто пад кім яму капае, часта сам у яе ўпадае.

Хто позна ходзіць, <той> сам сабе шкодзіць.

Якія самі, такія і сані.

Як сабака на сене — і сам не гам, і другому не дам.

Самы. Самая лепшая абарона — нападзенне.

Час — найлепшы (самы лепшы, добры, вялікі) доктар (лекар).

**Саначкі.** Любіш катацца, любі і саначкі вазіць.

**Сані.** Не ў свае сані не садзіся.

Рыхтуй калёсы зімой, а сані летам.

Якія самі, такія і сані.

**Сапсаваць.** <Адна> паршывая (шалудзівая, паганая) авечка (аўца) увесь статак (гурт, усю чараду) псуе (сапсуе).

Кашы (кашу) маслам не сапсуеш (не папсуеш).

Стары вол (конь) баразны не псуе (не сапсуе).

**Сарока.** Сарока з кола — дзесяць на кол.

Сарока з куста — сорак на куст.

Сарока на хвасце прынесла.

**Сарочка.** Зімняя ночка — бацьку сарочка.

З міру па нітцы — голаму сарочка (кашуля).

Свая сарочка бліжэй да цела.

**Сасна.** Кожная сасна свайму бору песню спявае.

**Састарыць.** Будзеш усё ведаць, хутка (скора) пастарэеш (састарышся, стары зробішся).

Скора састарышся, як усё будзеш ведаць.

**Састарэць.** Як (калі) удасца жарабё (бычок) з лысінкай, дык і здохне (састарэе) такім (з лысінкай).

**Саступіць.** Каб свінні рогі, не саступіла б (не сышла б) з дарогі.

**Сатана.** Муж і жана — адна сатана.

**Саўка.** Хіцер Зміцер, але (ды) і Саўка не дурань (не дурны).

Хіцёр Зміцер, ды і Саўка не дурны.

Што будзе, тое (то) будзе, <а> Саўка (Грышка) на куце не будзе.



Kamunikat.org

**Сачыўка.** Хто ў боб, <а> хто ў гарох <а хто (ты) у сачыўку>.

**Сварыцца.** Мілыя сварацца — толькі цешацца.

Мужык з жонкай сварыцца, калі трасца ў гаршку варыцца.

**Сват.** Свату першая чарка і першая палка.

**Свежы.** Пі ды еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш.

**Свет.** Ашуканствам можна свет прайсці, але назад не вернешся.

Круцячы свет пройдзеш, але назад не вернешся.

Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш (пяройдзеш), а (але, ды) назад не вернешся.

На тым свеце не дадуць.

Свет не без добрых людзей.

Такога цвету па ўсяму свету.

Усё на свеце мае <свой> канец.

Усяму на свеце ёсць канец.

Чаго ж бы плакаў слеп, каб бачыў свет (след).

Яшчэ той не радзіўся, каб усяму свету згадзіўся.

**Свёкар.** Сем гадоў нявестка жыла замужам і не ведала, што ў свёкра сучка без хваста.

**Свёкраў.** Сем гадоў нявестка жыла, а не ведала, што сучка свёкрава без хваста.

**Свіння.** Бог не выдасць (не дасць, не папусціць, не прадасць), свіння не з’есць.

Гусь свінні не таварыш.

Давялося свінні на неба глядзець.

Каб свінні рогі, не саступіла б (не сышла б) з дарогі.

Калі п’яны (як п’ян), дык капітан, а калі (як) праспіцца, дык свінні баіцца.

Каму што, а свінні месіва.

Лішняга і свінні не ядуць (свіння не есць).

Не дай бог свінні рог, а мужыку панства.

Не да парасят, калі свінню смаляць.

Паспытала свіння палена, памятае, дзе паела.

Пусці свінню пад стол, то яна захоча і на стол.

Свінні не да парасят, калі яе смаляць.

Свіння лужыну (лужу) знойдзе.

Хто па ядзе (пад’еўшы) не аддыша, таго бог за свінню запіша.

Ці свінні елі, ці шляхта папасвалася (папаску мела).

Ціхая свіння глыбока рые (капае).

Ціхая свіння глыбокі корань рые.

Як мукі скрыня, дык і свіння гаспадыня.

**Світаць.** Не заўсёды світае, як певень спявае.

**Свой.** Бачым сучок у воку брата свайго, а бервяна ў сваім не заўважаем.

Воўк каля (паблізу) свайго логава не бярэ (не шкодзіць).

Другіх слухай, а сваім розумам жыві.

Кожнаму сваё (роднае) дзіця міла.

Кожная сасна свайму бору песню спявае.

Кожны кулік сваё балота хваліць.

Кожны курэц павінен мець свой аганец і тытунец.

Кожны плача па сваім бацьку, як умее.

Кожны старац сваю торбу хваліць.

Кожны (усякі) цыган сваю кабылу хваліць.

Людзей (другіх) слухай, а (ды) свой розум май.

Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа ісці (адысці).

На сваім сметніку і певень (верабей) гаспадар.

Kamunikat.org

На чужой старонцы рад сваёй варонцы.

На чужы лоб сягаючы (шыбаючы), трэба і свой падставіць (наставіць).

Не ў свае сані не садзіся.

Поп сваё, <а> чорт сваё.

Свайго гарба ніхто не бачыць.

Свайго лёсу не мінеш (не мінём).

Свайго не меўшы, трэба легчы (кладзіся) спаць не еўшы.

Свая кашуля (сарочка, рубашка) бліжэй да цела.

Свая сярмяжка не цяжка.

У людзей пытай і свой розум май.

У сваёй хаце і качарга маці.

У сваёй хаце (у сваім доме) і вуглы (сцены) памагаюць.

У сваім стане і прыстаў цар.

Усё на свеце мае <свой> канец.

Усякая птушка сваё гняздо бароніць.

Усякі (кожны) чорт на сваё кола ваду цягне.

Усяму свой час.

У чужым воку саломку (саломінку) бачым, а ў сваім <і> бервяна не заўважаем.

Хлеб на стале — рукі свае.

Хто чужога не шкадуе, той свайго не мае.

Хто як хоча, так па свайму бацьку плача.

Чужы дурань — смех, свой дурань — сорам.

Што <ні> край, то <і, свой> абычай (звычай).

Што ні поп, то свая малітва.

**Свята.** Будзе <калі-небудзь, некалі> і на нашай (маёй, тваёй) вуліцы свята.

І без папа ведаю (ведаем, знаю, знаем), што ў нядзелю свята.

Прыйдзе і на нашу вуліцу свята.

Прыйшло і на нашу вуліцу свята.

**Святка.** Калядкі — добрыя святкі: пад'еў ды на палаткі.

**Святы.** Зямля святая ўсіх прымае.

Не святыя (не багі) гаршкі лепяць.

**Свяціць.** У чужой старонцы не так свеціць сонца.

**Селядзец.** Еш селядца з галавою, за ўсё грошы плачаны.

**Сем.** Адзін дурань можа задаць (задасць) столькі пытанняў, што дзесяць (сем) разумных не адкажуць.

Варона з кала — сем на кол.

Мароз сем баб павёз.

Сем бед — адзін атвет.

Сем бед за раз — адзін адказ.

Сем гадоў мак не радзіў, а голаду не было.

Сем гадоў нявестка жыла, а не ведала, што сучка свёкрава без хваста.

Сем гадоў нявестка жыла замужам і не ведала, што ў свёкра сучка без хваста.

Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж.

У каго сем — тым і доля ўсем, а ў каго адно — і тое не ладно.

У сямі нянек дзіця без вока (без носа).

Чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль пару дабраў.

**Семя.** Якое семя, такое і племя.

**Сена.** Добрае сена: каб пасаліў, то і поп з'еў бы.

Як сабака на сене — і сам не гам і другому не дам.

**Сенька.** Па Сеньку (па Хомку) <і> шапка.

Kamunikat.org

**Серабро.** Слова — серабро (срэбра), маўчанне — золата.

**Серп.** Ішла Хоўра жыта жаць, забылася серп узяць.

**Сесці.** Высока лятаеш, але нізка сядзеш.
Задарам і скула не сядзе.
Ні села, ні пала, дай, баба, сала.
Ні села, ні пала, захацела баба сала.

**Сеяць.** Дурняў не аруць, не сеюць, яны самі родзяцца.
Каб такіх часта сеялі, ды рэдка ўзыходзілі.
Не зважай (не ўважай) на ўраджай, а жыта сей.
Паміраць збірайся (збіраешся), а жыга сей.
Прыйшоў Мікола, не пытай ні ў кога, бяры сяваньку і (ды) сей памаленьку.
Сей у гразь — будзеш князь.
У прочкі выбірайся, а жыта сей.
Хто сее (пасее) вецер, той пажне буру.
Чым чорт не араў, тым <і> сеяць не стаў (не будзе).

**Сёння.** Ёсць хлеб — ядзім, а няма — глядзім, сёння паабедаем, а як заўтра — не ведаем.
Ніколі не адкладвай на заўтра, што можна зрабіць сёння.
Тое, што можна зрабіць сёння, ніколі не адкладвай на заўтра.

Сівець. Волас сівее, розум слабее.

**Сівізна.** Сівізна не ўкарызна.
Сівізна ў бараду, а чорт у рабрыну.
Сівізна ў валасы, <а> д'ябал у рабро.

**Сіла.** Не траць, куме, сілы, спускайся на дно.
Сілай мілы не будзеш.
Сіла салому ломіць.
Цераз сілу і конь не цягне.

**Сініца.** Лепш сініца ў руцэ (у жмені), чым журавель (жораў) у небе.

**Сірата.** Адкуль сіраце бацьку ўзяць.
Без гаспадара дом сірата.
Сіраце прыкіпіць (дакіпіць) у жываце.
<Як> сіраце жаніцца, <дык і> ноч (ночка) кароткая (малая).

**Сіротка.** Бог сіротак любіць, але долі не дае.

**Сітца.** Новае сітца на калку навісіцца, а старое і пад лаўкай наваляецца.

**Сказаць.** Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі (нядобры) памаўчаць.
Пабачым — сказаў сляпы.
Скажы курыцы, дык яна па ўсёй вуліцы.
Скажы мне, з кім ты знаёмы, і я скажу, хто ты.
Скажы <мне>, хто твае сябры (твой сябра, твой друг), <і> я скажу, хто ты.
Сказана — зроблена.
Хоць плюй у вочы, а ён кажа (скажа, будзе гаварыць), што дождж ідзе.

**Скакаць.** Гора плача, гора скача, гора песенькі пяе.
Дарма (задарма) каза <ваўку> не скача.
На пахілую вярбу (на пахілае дрэва) козы скачуць.
Скачы, урэжа, як пан кажа.

**Скварка.** Праўда не скварка, з кашаю не з'ясі.

**Скінуць.** Жонка не лапаць, з нагі не скінеш.

**Скончыць.** Скончыў (кончыў) дзела — гуляй смела.

**Скора.** Будзеш усё ведаць, хутка (скора) пастарэеш (састарышся, стары зробішся).



Kamunikat.org

Еду ціха — са мной ліха, еду скора — са мной гора.
Скора састарышся, як усё будзеш ведаць.

**Скочыць.** Вышэй пупа (пят, галавы) не падскочыш (не скочыш).
Вышэй <самога> сябе не скочыш (не падскочыш).

**Скрывіць.** Хвароба калі не ўморыць, то (дык) скрывіць.

**Скрыня.** Усякая будзе гаспадыня, калі <мукі> поўная скрыня.
Як мукі скрыня, дык і свіння гаспадыня.

**Скрыпець.** На назе бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць.
Скрыпучае (скрыплівае) дрэва доўга скрыпіць (стаіць).

**Скрыплівы.** Скрыплівае дрэва доўга скрыпіць.

**Скрыпучы.** Скрыпучае дрэва жывучае.
Скрыпучае (скрыплівае) дрэва доўга скрыпіць (стаіць).
Скрыпучая вярба два вякі жыве.

**Скубці.** Жывём (жыву) як <той> гарох пры дарозе — хто ідзе, той і скубе.

**Скулка.** Задарам і скулка не сядзе.

**Скупы.** Скупы два разы траціць.
Скупы плаціць двойчы.

**Слабець.** Волас сівее, розум слабее.

**Слава.** Добрая слава далёка ідзе, а кепская (ліхая) яшчэ далей <ляціць>.
Добрая слава на паліцы ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць.

**Слаўны.** Славен бубен за гарамі.
Хоць крывое ды гарбатае, абы слаўнае ды багатае.

**Слаўцо.** Дзе толькі мужык з слаўцом, там за ім пуга з вузлом.

**Слацца.** Лістам сцелецца, а ўкусіць цэліцца.

**След.** Чаго ж бы плакаў слеп, каб бачыў свет (след).

**Слёзка.** Адальюцца воўку авечыя слёзкі (слёзы).

**Слова.** З песні слова не выкінеш.
Куляй у аднаго пацэліш, а трапным словам у тысячу.
Ласкавае слова што дзень ясны (веснавы).
Слова вецер, а пісьмо грунт.
Слова не верабей, выпусціў (выпусціш, вылеціць, вылецела) — не зловіш.
Слова — серабро (срэбра), маўчанне — золата.

**Слуга.** Вось табе (вам) хамут і дуга, <і, а> я табе (вам) <больш, болей> не слуга.

**Служба.** Дружба дружбай, а служба службай.
Не ў службу, а ў дружбу.
Салдат спіць, а служба ідзе.
Служба не дружба.

**Служка.** Служка ў лапцях, а я (пан) босы.

**Служыць.** Глухому дзве абедні не служаць.
Для глухога дзвюх абедзень не служаць.
Служыў да вуса, служы і да барады.

**Слухаць.** Другіх слухай, а сваім розумам жыві.
Людзей (другіх) слухай, а (ды) свой розум май.
Не мне казаць, не табе слухаць.
Не слухаеш ківа, дык паслухаешся кія.

**Сляза.** Адальюцца воўку авечыя слёзкі (слёзы).
Масква слязам не верыць.
Слязамі (слязьмі) гору (бядзе) не паможаш.

**Сляпы.** Невучоны (нявучаны) як (што) сляпы.
Пабачым — сказаў сляпы.

Kamunikat.org

Чаго ж бы плакаў сleп, каб бачыў свет (след).

**Смаліць.** Не да парасят, калі свінню смаляць.
Свінні не да парасят, калі яе смаляць.

**Смаляны.** У каханкі смаляныя лаўкі.

**Смачней.** Чужое ўсё смачней.

**Смачны.** Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў.

**Смела.** Скончыў (кончыў) дзела — гуляй смела.

**Смеласць.** Смеласць (храбрасць, адвага) гарады бярэ.

**Смелы.** На смелага сабакі брэшуць, а баязлівага рвуць.

**Смерць.** Ад смерці не адкупішся.
Дзвюм смерцям (смярцям) не бываць, <а> адной не мінаваць.
Катку жарты — мышцы смерць.
Перад смерцю не надышашся.
Сабаку <і> сабачая смерць.
Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны.
Смерць не ручаінка — не пераскочыш.
Што дзень — бліжэй да смерці.

**Сметнік.** На сваім сметніку і певень (верабей) гаспадар.

**Смех.** Паспех — людзям на смех.
Смех без прычыны — прызнак (знак) дурачыны.
Чужы дурань — смех, свой дурань — сорам.

**Смецце.** Золата і ў смецці (у попеле) блішчыць.

**Смярдзець.** Ты яго маслам маж, а ён дзёгцем смярдзіць.

**Смяяцца.** <Добра> смяецца той, хто смяецца апошні.
Як папу ўдаецца, то і пападдзя смяецца.

**Снасць.** Без снасці і вошы не заб'еш.

**Снег.** Альбо дожджык, альбо снег, альбо будзе, альбо не.

**Сніцца.** Галоднаму не спіцца, калі хлеб сніцца.

**Соль.** Каб пазнаць (ведаць) чалавека, <дык> трэба з'есці з ім пуд солі.
Трэба пуд солі з'есці, каб пазнаць чалавека.
Хлеб-соль еш, а праўду рэж.

**Сонца.** Загляне сонца <і> у наша аконца.
Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала.
На сонца ўсе роўна глядзім, ды не ўсе роўна бачым.
Пакуль (покі) сонца ўзыдзе, раса вочы выесць.
У чужой староньцы не так свеціць сонца.
Чуў, кум, сонца, бачыў гром?

**Сорак.** Сарока з куста — сорак на куст.

**Сорам.** Сорам не дым, вачэй (вочы) не выесць.
Чужы дурань — смех, свой дурань — сорам.

**Спагадаць.** Сыты галоднаму не спагадае.

**Спадзявацца.** На бога спадзявайся, а (ды) сам не давайся (не агінайся, не зявай).
На трактар спадзявайся, <а> каня не прадавай

**Спаймаць** Дай божа (бог) нашаму цяляці ваўка (воўка) спаймаці (з'есці).

**Спатыкацца.** Конь на чатырох нагах <і то> спатыкаецца.
У каня чатыры нагі, і той спатыкаецца.

**Спатыкнуцца.** Каб ведаў чалавек, дзе спатыкнецца, то пераступіў бы тое месца.

**Спацца.** Галоднаму не спіцца, калі хлеб сніцца.

**Спаць.** Ліса спіць і курэй бачыць.
Не чапай ліха, калі спіць ціха.

Kamunikat.org

Не чапай ліха, пакуль спіць.
Салдат спіць, а служба ідзе.
Свайго не меўшы, трэба легчы (кладзіся) спаць не еўшы.
Хочаш многа знаць, трэба мала спаць.
Хто спіць, <дык> той не грашыць (не грэшыць).
Чым чорт не жартуе, калі (пакуль) бог спіць.

**Спераду.** Бойся быка спераду, каня ззаду, а дурня — з усіх чатырох бакоў

**Спіна.** У чорта спіна сцёрта.

**Спісаць.** Вайна ўсё спіша.

**Сплыць.** Што было, тое (то) сплыло.

**Спосаб.** Лепшы спосаб абароны — нападзенне.

**Справа.** Добры пачатак — палавіна справы.
Дурная справа не хітрая.
Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа ісці (адысці).
Справа майстра баіцца.
Справа не воўк, у лес не ўцячэ.

**Спроба.** Спроба не хвароба.

**Спрос.** За спрос не б'юць у нос.
За спрос платы не бяруць.

**Спускацца.** Не траць, куме, сілы, спускайся на дно.

**Спявак.** У музыкі хлеб невялікі, а спяваю маюць ніякі.

**Спяваць.** Кожная сасна свайму бору песню спявае.
На чыім возе (вазку, коніку) едзеш, таму і песню (песеньку, песенькі) спявай (пей, вядзі).
Не заўсёды світае, як певень спявае.
Плакаў, плакаў — усё бог аднакаў, пачаў пяяць (спяваць) — стаў бог даваць.

**Срэбра.** Першы дзень госць — золата, другі — срэбра, трэці — медзь, дадому (дахаты) едзь.
Слова — серабро (срэбра), маўчанне — золата.

**Ссаць.** Ліслівае (ласкавае, пакорнае) цяля (цялятка) дзвюх матак (дзве маткі) ссе.

**Ставіць.** Дзе поп царкву ставіш», там пан карчму ладзіць.
Няхай хоць гаршком завуць, абы ў печ не ставілі.

**Стан.** У сваім стане і прыстаў цар.

**Стаптаць.** Чорт не адны лапці (не адну пару лапцей) стаптаў, пакуль (покуль) такую пару дабраў (сабраў).
Чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль пару дабраў.

**Старана.** На чужой старане і жук мяса <і старая баба — маладзіца>.
Чужая старана — мачаха.
Чужая старана — цёмны лес.

**Старасць.** Маленькі сабачка да старасці шчанюк (шчаня).
Старасць не радасць <а горб не карысць>.
Старасць нікога (чалавека) не красіць.

**Старац.** Для старца міля не круг.
Кожны старац сваю торбу хваліць.
Старцу міля не круг.
Старцу сяло не <у> наклад.
Цешыўся старац, што перажыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю.

**Старонка.** На чужой старонцы рад сваёй варонцы.
У чужой старонцы не так свеціць сонца.

**Стары.** Без старога каля хаты — як без сабакі.

Будзеш усё ведаць, хутка (скора) пастарэеш (састарышся, стары зробішся).

На чужой старане і жук мяса <і старая баба — маладзіца>.

Новае сітца на калку навісіцца, а старое і пад лаўкай наваляецца.

Старога вераб'я на мякіне не зловіш (не падманеш, не правядзеш).

Старога хвалі, ды з двара гані.

Стары вол (конь) баразны не псуе (не сапсуе).

Стары друг лепш (лепей) за новых двух.

Стары кажа на глум, а малады бярэ на вум.

Хто новага не бачыў, той старому рад.

Хто старое ўспомніць (успамяне, памяне), таму вока вон.

**Статак.** <Адна> паршывая (шалудзівая, паганая) авечка (аўца) увесь статак (гурт, усю чараду) псуе (сапсуе).

**Стаўляць.** Заві хоць гаршком, толькі ў печ не стаўляй.

Называй хоць гаршком, толькі ў печ не стаўляй.

Хоць гаршком заві (называй), адно (толькі, а) у печ не стаўляй.

**Стаць.** Няма нічога тайнага (патайнага), каб не стала (што не стала б, каб не было) яўным.

Плакаў, плакаў — усё бог аднакаў, пачаў пяяць (спяваць) — стаў бог даваць.

Чым чорт не араў, тым <і> сеяць не стаў (не будзе).

**Стаяць.** Скрыпучае (спрыплівае) дрэва доўга скрыпіць (стаіць).

**Сто.** Лепш (лепей) <адзін> раз убачыць (пабачыць), чым сто разоў пачуць.

Не май сто рублёў, а май сто сяброў.

**Стог.** Па кропельцы — рэчка, па с янінцы — копка, а па копцы — стог.

**Стол.** Карова на дварэ, <дык> і харч на стале.

Пакуль <у (на) гумне> цэп, патуль (датуль) <на стале> хлеб.

Пусці свінню пад стол, то яна захоча і на стол.

Хлеб на стале — рукі свае.

**Столькі.** Адзін дурань можа задаць (задасць) столькі пытанняў, што дзесяць (сем) разумных не адкажуць.

**Страва.** У закаханай кухаркі няўдалая страва выходзіць.

**Страляць.** Чалавек страляе, а чорт кулю носіць.

**Страх.** У страху вочы вялікія.

**Страха.** Лёгкае пяро, ды на страху не закінеш.

**Страчаць.** Па адзенні страчаюць, а па розуму праводзяць.

**Страшны.** Голаму разбой не страшан (не страшны).

Не такі (не так) чорт страшны, як яго малююць.

Паранены звер страшны (яшчэ больш небяспечны).

**Струмант.** Без струманту (без снасці) і вошы (гніду) не заб'еш.

**Стрыгчы.** Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць.

**Стрыжаны.** Пайшоў па воўну, а вярнуўся стрыжаны (пастрыжаны, астрыжаны).

Ты яму "стрыжана" а ён табе «голена».

**Студзень.** Студзень мяце — ліпень залье.

**Студзіць.** Апёкшыся малаком, ваду студзяць.

**Суджаны.** Суджанага і канём не аб'едзеш.

Што каму суджана, <дык і пехатой> таго не абойдзеш і <з канём> не аб'едзеш.

**Судзіцца.** З багатым не варта судзіцца, а з дужым біцца.

З дужым не дужайся, з багатым не судзіся.

**Сума.** Ад сумы і ад турмы не адракайся.



Kamunikat.org

**Сунуцца.** Не ведаючы (не зведаўшы) броду, не сунься ў воду.

**Сусед.** Добры сусед раднейшы за роднага брата.

**Сустракаць.** Па адзежы сустракаюць, а па розуму праводзяць.

**Суха.** У каго кашаль, той і красен <і ў роце не суха, і ў хаце не глуха>.

**Сухі.** Сухая ложка рот дзярэ.

**Сучачка.** Маленькая сучачка заўсёды шчаня.

**Сучка.** Сем гадоў нявестка жыла, а не ведала, што сучка свёкрава без хваста.

Сем гадоў нявестка жыла замужам і не ведала, што ў свёкра сучка без хваста.

**Сучок.** Бачым сучок у воку брата свайго, а бервяна ў сваім не заўважаем.

**Схаваць.** Каханне і кашаль не схаваеш.

Шыла ў мяшку (у мяху) не схаваеш (не ўтоіш).

**Схапіць.** Шылам кісялю не схваціш (не схопіш).

**Схваціць.** Шылам кісялю не схваціш (не схопіш).

**Сходзіцца.** Гара з гарой не сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсёды.

**Сцежка.** Хапіў з дзежкі, аж не бачыць сцежкі.

**Сцерагчы.** Сцеражонага <і> бог сцеражэ.

**Сцерці.** У чорта спіна сцёрта.

**Сцяна.** Галавою (ілбом) сцяны (сцяну, муру, мур) не праб'еш.

І сцены маюць вушы.

І ў сцен ёсць вушы.

У сваёй хаце (у сваім доме) і вуглы (сцены) памагаюць.

**Сцяпан.** Адзін Сцяпан — заўсёды пан, а калі і нястача, дзіця не плача.

**Сцярпецца.** Сцерпіцца — злюбіцца.

**Сшыць.** Век зжыць — не мех сшыць.

**Сын.** Адзін сын — не сын, два сыны — палова сына (паўсына), тры сыны — сын.

Калі бацька рыбак, то і сын глядзіць на ваду.

Што <будзе> міру, тое (то) і бабінаму сыну.

Які дуб, такі і тын, які бацька, такі і сын.

Якое дрэва, такі <і> клін, які бацька, такі <і> сын.

**Сынок.** Што гадок, то і ядок (сынок).

**Сыр.** Галоднай куме хлеб (сыр) наўме.

Чакай, баба, Пятра — будзеш сыр есці.

Чакай Пятра — сыр (сыру) з'ясі.

Чакай, цётка, Пятра — будзеш сыр есці.

**Сысці.** Каб свінні рогі, не саступіла б (не сышла б) з дарогі.

**Сыты.** Пакуль сыты пахудзее, дык худы памрэ.

Салавей байкамі не сыты.

Сыты галоднаму не спагадае.

**Сэрца.** Дзіця за руку бярэш — маці за сэрца.

З вачэй (з воч) далоў і з сэрца вон.

Сэрца не камень.

Сэрцу не загадаеш.

**Сябар.** Не май сто рублёў, а май сто сяброў.

Скажы <мне>, хто твае сябры (твой сябра, твой друг), <і> я скажу, хто ты.

**Сябе.** Адна бяда не ідзе, другую за сабой вядзе.

Аржаная каша сама сябе хваліць.

Бяда адна не ходзіць <за сабою другую водзіць>.

Вышэй <самога> сябе не скочыш (не падскочыш).

Kamunikat.org

Гасцям гадзі, але і сябе не галадзі.
Кінь (кінеш) за сабою, <то> знойдзеш перад сабою.
Кінь перад сабою, знойдзеш за сабою.
Крывое кола на сябе гразь кідае.
Любіць аржаная каша сама сябе хваліць.
Сама сябе раба б’е, калі (што) нячыста жне.
Хто позна ходзіць, <той> сам сабе шкодзіць.
Шчасце адно не ходзіць, бяду за сабою водзіць.

**Сявенька.** Прыйшоў Мікола, не пытай ні ў кога, бяры сявеньку і (ды) сей памаленьку.

**Сягаць.** На чужы лоб сягаючы (шыбаючы), трэба і свой падставіць (наставіць).

**Сядзець.** Гадуй, мядзведзь, дзеці, каб было за кім сядзеці.
У разумнага вочы і на патыліцы сядзяць.
Хто на чым сядзіць, той таго і глядзіць.

**Сякера.** Розум не сякера — не пазычыш.

**Сяло.** Кума куме, дый пайшло па ўсім сяле.
Кума (кум) куме, а кума па ўсім сяле.
Старцу сяло не <у> наклад.

**Сямёра.** Сямёра аднаго не чакаюць.

**Сям’я.** Сям’я не без вырадка.
У сям’і не без вырадка.

**С янінка.** Па кропельцы — рэчка, па сянінцы — копка, а па копцы — стог.

**Сярмяжка.** Свая сярмяжка не цяжка.

**Сястра.** Брат любіць сястру багатую, а мужык (муж) жонку здаровую.

**Сячы.** Лес сякуць — трэскі ляцяць.
Павінную галаву <і> меч не сячэ.

**Табака.** Дажыліся (дажылі) казакі (палякі), <што> ні хлеба, ні табакі.

**Таварыш.** Воўк казе не таварыш.
Гусь свінні не таварыш.
Пешы коннаму не таварыш.

**Тады.** Дождж ідзе не тады, як просяць, а тады, як жнуць ды косяць.
Калі на гумне не малоцiцца, тады ў хаце калоціцца.
Калі (як) шанцуе, то (тады) і Халімон танцуе.
Не тады вучацца плаваць, калі вада ў рот плыве.
Не тады сабак кормяць, як на паляванне ісці (ехаць).
Тады маці міла, як ногі мыла.
Як трывога, тады (дык) да бога.

**Тайны.** Няма нічога тайнага (патайнага), каб не стала (што не стала б, каб не было) яўным.

**Так.** Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так.
Дзень з алеем, а тыдзень так галеем.
Мужык — дурань, як умее, так і пее.
Нашто богу маліцца, — ён нас і так баіцца.
Не так чорт страшны, як яго малююць.
Тая зязюля, ды не так кукуе.
Убіўся ў вароны, каркай так, як і оны.
Урадзілася цяля з белаю лапінкаю на лбе, так яно і памрэ.
У чужой старонцы не так свеціць сонца.
Хто як хоча, так па свайму бацьку плача.
Як гукнеш, так і адгукнецца.
Як сабаку кормяць, так сабака і брэша.



kamunikat.org

**Такі.** Добры гаспадар і сабаку з двара (з хаты) не выганіць у такую нягоду (у такое надвор’е, у такі дзень).

З якой лысінкай цёлка нарадзілася, з такой і здохне.

Каб такіх часта сеялі, ды рэдка ўзыходзілі.

Не такі (не так) чорт страшны, як яго малююць.

Сава не родзіць (не прывядзе) сакала <а такога ж чорта, як сама>.

Такога цвету па ўсяму свету.

Чорт не адны лапці (не адну пару лапцей) стаптаў, пакуль (покуль) такую пару дабраў (сабраў).

Якая заслуга, такая і пашана.

Якая птушка, такое і гняздзечка.

Які дуб, такі і тын, які бацька, такі і сын.

Які куст, такі і адростак.

Які <чорт> Хомка, такая яго жонка.

Якія самі, такія і сані.

Як (калі) удасца жарабё (бычок) з лысінкай, дык і здохне (састарэе) такім (з лысінкай).

Якое дрэва, такі <і> клін, які бацька, такі <і> сын.

Якое карэнне, такое і насенне.

Якое семя, такое і племя.

**Талан.** Беднаму (няшчаснаму) Івану няма нідзе талану.

**Там.** Дзе быў (хадзіў), там <цяпер, ужо> няма.

Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл.

Дзе гной, там і лой.

Дзе госць, там і бог ёсць.

Дзе каша ды аладка, там і грамадка.

Дзе коратка (тонка), там ірвецца (і рвецца).

Дзе людзі бяднеюць, там паны багацеюць.

Дзе нянек многа, там дзіця бязнога (мурзатае).

Дзе поп царкву ставіць, там пан карчму ладзіць.

Дзе п’юць, там і льюць.

Дзе толькі мужык з слаўцом, там за ім пуга з вузлом.

Дзе фэст, там і я ест.

Дзе цесна, там пацешна.

Дзе чорт <сам> не зможа (не можа), туды (там) бабу пашле.

Добра там, дзе нас няма.

Дождж ідзе не там, дзе просяць, а дзе косяць, не там, дзе ждуць, а там, дзе жнуць.

Каб (калі б) ведаў, дзе павалішся (упадзеш), <там, дык, то> саломкі падаслаў бы.

Там добра, дзе нас няма.

**Танцаваць.** Калі (як) шанцуе, то (тады) і Халімон танцуе.

Каму пашанцуе, той і ў лапцях танцуе.

Плакаў, плакаў, а бог быў аднакаў, пачаў танцаваць, пачало шанцаваць.

**Тапелец.** Тапелец і за саломінку хапаецца.

**Тапіцца.** Калі (як) топішся, дык (то) за брытву хопішся (ухопішся).

<Той> хто топіцца, <і> за саломінку хопіцца.

Хто топіцца, той за брытву хопіцца.

Як топішся, дык за саломінку хапаешся.

**Тапор.** Чалавек невучоны як (што) тапор нетачоны.

Што напішаш (напісана) пяром, <то> не вырубіш (не высечаш) тапаром.

**Тата.** На вяку (жывучы) усяго нажывеш — і Кузьму татам назавеш.



Kamunikat.org

**Татарын.** Няпрошаны (незапрошаны, нязваны) госць горш за татарына.

**Таўсцець.** Пана клянуць, а пан тлусцее (таўсцее).

**Твар.** З твару яйка (яйцо), а ўсярэдзіне баўтун.

**Твой.** Будзе <калі-небудзь, некалі> і на нашай (маёй, тваёй) вуліцы свята.

Скажы <мне>, хто твае сябры (твой сябра, твой друг), <і> я скажу, хто ты.

Чыя б кароўка (карова) мычала, а твая (чыя) б маўчала (памаўчала).

**Тлець.** Адна галавешка і ў печы не тлее (не гарыць).

**Тлусцець.** Пана клянуць, а пан тлусцее (таўсцее).

**Той.** Абед на абед не тое што кій на кій.

Адну карову мае і тую за хвост падымае.

Бог лесу не зраўняў, не тое што людзей.

Дарагая тая хатка, дзе радзіла (нарадзіла) мяне матка.

<Добра> смяецца той, хто смяецца апошні.

Жывём (жыву) як <той> гарох пры дарозе — хто ідзе, той і скубе.

За што купіў, за тое <і> прадаю.

З кім жыць, таго не гнявіць.

З кім павядзешся, ад таго <і> набярэшся.

Злодзею адна дарога, а хто шукае, таму многа.

Каб ведаў чалавек, дзе спатыкнецца, то пераступіў бы тое месца.

Каму шанцуе (пашанцуе), той і ў лапцях танцуе.

Каторы конь цягне, таго і паганяюць.

Міл (мілы, дораг) той куток, дзе абрэзалі (рэзалі) пупок.

Мінуліся тыя рокі, калі паны браліся ў бокі.

На каго бог, на таго і людзі.

На тое і шчупак у моры (у вадзе), каб карась не драмаў.

На тым свеце не дадуць.

На чыім возе (вазку, коніку) едзеш, таму і песню (песеньку, песенькі) спявай (пей, вядзі).

Не бойся таго сабакі, што брэша, а бойся таго, што лашчыцца.

Не той друг, што мёдам мажа, а той, хто праўду ў вочы кажа.

Не той піва п'е, хто варыць.

Не ўсё тое золата, што блішчыць.

Няма лепш за той куток, дзе вязалі пупок.

Няма таго злога, каб не выйшла на добрае.

Няма той хаткі, дзе б (каб) не было звадкі.

Тая зязюля, ды не так кукуе.

Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра.

<Той> хто топіцца, <і> за саломінку хопіцца.

У каго грошы, у таго і розум.

У каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца.

У каго кашаль, той і красен <і ў роце не суха, і ў хаце не глуха>.

У каго сем — тым і доля ўсем, а ў каго адно — і тое не ладно.

У каня чатыры нагі, і той спатыкаецца.

Хто апарыцца на малацэ, той і на ваду дзьмухае.

Хто глядзіць вокам, той не пойдзе бокам.

Хто дбае, той і мае.

Хто дужшы, той прутшы.

Хто каго любіць, той таго і чубіць.

Хто капейкі не беражэ, таго рубель баіцца.

Хто <коней> мяняе, у таго хамут гуляе.

Хто лепшага не мае, таму і гэта добра.

Хто можа, той і едзе.

Хто на чым сядзіць, той таго і глядзіць.



Kamunikat.org

Хто не нараджаецца, той не памірае.

Хто не працуе (не робіць), той не есць.

Хто не ўтрымаўся за грыву, таму і хвост не паможа.

Хто <нічога> не робіць, той не памыляецца.

Хто новага не бачыў, той старому рад.

Хто палку ўзяў, той і капрал.

Хто парася (парасё) украў, у таго ў вушах (увушшу) пішчыць.

Хто па ядзе (пад'еўшы) не аддыша, таго бог за свінню запіша.

Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку.

Хто позна ходзіць, <той> сам сабе шкодзіць.

Хто пытае, той не блудзіць.

Хто рана ўстае, таму <і> бог дае.

Хто робіць, той і мае.

Хто сее (пасее) вецер, той пажне буру.

Хто спіць, <дык> той не грашыць (не грэшыць).

Хто старое ўспомніць (успамяне, памяне), таму вока вон.

Хто топіцца, той за брытву хопіцца.

Хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар.

Хто чужога не шкадуе, той свайго не мае.

Хто шукае, той знаходзіць.

Чаму быць, таго не мілаваць.

Чым хата багата, тым і рада.

Што <будзе> міру, тое (то) і бабінаму сыну.

Што будзе, тое (то) будзе, <а> Саўка (Грышка) на куце не будзе.

Што было, тое (то) сплыло.

Што задужа (занадта), то (тое) не здрова (не здарава).

Што з воза ўпала, тое (то) прапала.

Што каму рупіць, <то> той тое (пра тое) і жупіць.

Што каму суджана, <дык і пехатой> таго не абойдзеш і <з канём> не аб'едзеш.

Што пасееш, тое і пажнеш.

Што ў каго (каму) баліць, той пра тое (аб тым) і гаманіць (гаворыць, крычыць).

Што ў цвярозага ў галаве (на розуме), то (тое) у п'янага на языку.

Што (чаго) не ясі, <таго> у рот не нясі.

Яшчэ той не радзіўся, каб усяму свету згадзіўся.

**Тонка.** Дзе тонка, там ірвецца.

**Торба.** Ад торбы (ад сумы) і (ды) ад турмы не адракайся (не заракайся).

Грэх у мех, грашаняты ў торбу.

Кожны старац сваю торбу хваліць.

**Торны.** На торнай дарозе трава не расце.

**Трава.** Кабыла (конь) здыхае, а <за> траву хватае (хапае).

На вытаптанай (выбітай, торнай) дарозе трава не расце.

**Травіца.** Як на грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, дык на Юр'я наесца вол травіцы.

**Трактар.** На трактар спадзявайся, <а> каня не прадавай.

**Трапіць.** Трапіў у вараны, крычы, як яны.

**Трапны.** Куляй у аднаго пацэліш, а трапным словам у тысячу.

**Трасца.** Мужык з жонкай сварыцца, калі трасца ў гаршку варыцца.

На назе бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць.

**Траціць.** Не траць, куме, сілы, спускайся на дно.

Скупы два разы траціць.

**Трашчаць.** Паны б'юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць.

Kamunikat.org

**Траякі.** Ядзім хлеб траякі: чорны, белы і ніякі.

**Трое.** Адно дзіця — не дзіця, двое дзяцей — паўдзіцячы трое дзяцей — гэта дзіця.

**Тройца.** Бог тройцу любіць.

**Тры.** Абяцанага тры гады чакаюць.

Адзін сын — не сын, два сыны — палова сына (паўсына), тры сыны — сын.

Як багаты памрэ, па тры з хаты прэ, а як бедачок — толькі поп ды дзячок.

**Трывога.** Як трывога, тады (дык) да бога.

**Трымаць.** Дачка ў пары — не трымай у двары.

Еш пірог (боршч) з грыбамі, а язык трымай за зубамі.

Маеш дачку — трымай гарэлачку ў глячку.

**Трэба.** Вырас пад неба, а дурань як трэба.

Да ўдачы не трэба прыдачы.

І да грыба трэба нагнуцца.

Каб пазнаць (ведаць) чалавека, <дык> трэба з'есці з ім пуд солі.

Калі здаецца, дык (то) трэба хрысціцца.

Круці не круці (не вярці), а трэба памерці.

На бяду мала трэба.

На чужы лоб сягаючы (шыбаючы), трэба і свой падставіць (наставіць).

Свайго не меўшы, трэба легчы (кладзіся) спаць не еўшы.

Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра.

Трэба пуд солі з'есці, каб пазнаць чалавека.

Уткні мяне, божа, куды мне не трэба.

Хочаш многа знаць, трэба мала спаць.

**Трэска.** Лес сякуць — трэскі ляцяць.

**Трэці.** Першая жонка ад бога, другая ад людзей, а трэцяя ад чорта.

Першая <чарка> калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць (астатнія паляцяць дробнымі птушачкамі).

Першы дзень госць — золата, другі — срэбра, трэці — медзь, дадому (дахаты) едзь.

**Туды.** Дзе чорт <сам> не зможа (не можа), туды (там) бабу пашле.

Закон што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла.

Куды вецер, туды і дым.

Куды еду, туды еду, ды ўсё карчмы не міну.

Куды іголка (іголачка), туды і нітка (нітачка).

Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй (з клюшнямі).

Не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць.

**Турма.** Ад торбы (ад сумы) і (ды) ад турмы не адракайся (не заракайся).

**Тут.** Пра воўка (аб воўку) памоўка, а ён <і сам> тут.

**Тучыць.** Панскае вока каня тучыць (гадуе).

**Тушыць.** Іскру тушы да пажару, бяду адводзь да ўдару.

Пажар (агонь) агнём не тушаць (не гасяць).

**Ты.** Бог лесу не зраўнаваў, а то людзей ты зраўнуеш.

Вось табе (вам) хамут і дуга, <і, а> я табе (вам) <больш, болей> не слуга.

Гора табе, воле, калі цябе карова коле.

Да цябе (да вас) не п'юць, не кажы (не кажыце) здароў будзь.

Калі заб'еш бабра, то не будзе табе дабра.

На табе, божа (нябожа), што нам (мне) нягожа.

Не мне казаць, не табе слухаць.



Kamunikat.org

Не ты першы, не ты апошні.
Не шукай бяды, яна <сама> цябе знойдзе.
Скажы мне, з кім ты знаёмы, і я скажу, хто ты.
Скажы <мне>, хто твае сябры (твой сябра, твой друг), <і> я скажу, хто ты.
Ты з варот, а ён цераз плот.
Ты на гару, а чорт за нагу.
Ты яго маслам маж, а ён дзёгцем смярдзіць.
Ты яму «стрыжанае, а ён табе «голенае.
Хто ў боб, <а> хто ў гарох <а хто (ты) у сачыўку>.
Шануй каня дома, а ён цябе ў дарозе.

**Тыдзень.** Дзень з алеем, а тыдзень так галеем.
Едзеш на дзень, бяры хлеба на тыдзень.

**Тым.** Чым багаты, тым і рады.
Чым далей у лес, тым болей (больш) дроў.
Чым хата багата, тым і рада.
Чым чорт не араў, тым <і> сеяць не стаў (не будзе).

**Тын.** Які дуб, такі і тын, які бацька, такі і сын.

**Тысяча.** Куляй у аднаго пацэліш, а трапным словам у тысячу.

**Тытунец.** Калі курэц, то насі люльку і тытунец
Кожны курэц павінен мець свой аганец і тытунец.

**Убачыць.** Лепш (лепей) <адзін> раз убачыць (пабачыць), чым сто разоў пачуць.
Пажывём — пабачым (убачым).

**Убірацца.** Калі не поп, <дык> не ўбірайся ў рызы.
Не поп, не ўбірайся (не прыбірайся) у рызы.

**Убіцца.** Убіўся ў вароны, каркай так, як і оны.

**Уважаць.** Не ўважай на ўраджай, а жыта сей.

**Уваліцца.** Не капай другому яму, сам у яе ўвалішся.

**Увесь.** Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго.
Адзін з'еш хоць вала, <дык> адна хвала <а пакрысе, ды ўсе>.
<Адна> паршывая (шалудзівая, паганая) авечка (аўца) увесь статак (гурт, усю чараду) псуе (сапсуе).
Бойся быка спераду, каня ззаду, а дурня — з усіх чатырох бакоў.
Будзеш усё ведаць, хутка (скора) пастарэеш (састарышся, стары зробішся).
Вайна ўсё спіша.
Гавары, ды не <усё> дагары.
Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа — не дай божа.
Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць.
Еш селядца з галавою, за ўсё грошы плачаны.
Злодзей хоць вуглы пакіне, а агонь усё забярэ.
Зямля святая ўсіх прымае.
Кума куме, дый пайшло па ўсім сяле.
Кума (кум) куме, а кума па ўсім сяле.
Мая душа не крывая, усё прымае.
На вяку (жывучы) усяго нажывеш — і Кузьму татам назавеш.
На сонца ўсе роўна глядзім, ды не ўсе роўна бачым.
Не ўсё (не заўсёды) кату масленіца <прыйдзе і вялікі пост>.
Не ўсё тое золата, што блішчыць.
Ноччу (поначы) усе каты (кошкі) шэрыя.
Прыйшла Прачыстая — усё поле чыстае.
Скажы курыцы, дык яна па ўсёй вуліцы.
Скора састарышся, як усё будзеш ведаць.



Kamunikat.org

Такога цвету па ўсяму свету.

Усе бабры дабры, адна выдра ліхая.

Усе за аднаго і адзін за ўсіх.

Усе <мы> пад богам ходзім.

Усе чэрці адной шэрсці.

Усё мінецца, а праўда застанецца.

Усё на свеце мае <свой> канец.

Усё цячэ, усё мяняецца (змяняецца).

Усяго было даволі, толькі прынукі не было.

Усяму на свеце ёсць канец.

Усяму свой час.

Чакаць і даганяць горш за ўсё.

Чужое ўсё смачней.

Яшчэ той не радзіўся, каб усяму свету згадзіўся.

**Увечары.** Яму раніцаю росна, у поўдзень млосна, а ўвечары камары кусаюць.

**Увосень.** Куранят увосень (восенню) лічаць.

Увосень і верабей багаты.

Увосень — работ восем.

**Увушшу.** Хто парася (парасё) украў, у таго ў вушах (увушшу) пішчыць.

**Удавацца.** Як папу ўдаецца, то і пападдзя смяецца.

**Удар.** Іскру тушы да пажару, бяду адводзь да ўдару.

**Ударыць.** Захочаш сабаку выцяць (ударыць) — палку (кій) знойдзеш.

**Удацца.** Казала Насця, як удасца.

Як (калі) удасца жарабё (бычок) з лысінкай, дык і здохне (састарэе) такім (з лысінкай).

**Удача.** Да ўдачы не трэба прыдачы.

**Удод.** Што <ні> год, то ўдод.

**Удой.** Укрой — не ўдой.

**Ужо.** Дзе быў (хадзіў), там <цяпер, ужо> няма.

**Узгадаваць.** Дзетак узгадаваць — не грыбоў назбіраць.

**Уздыхаць.** Не ўздыхай, чаго няма, то няхай.

**Узысці.** Пакуль (покі) сонца ўзыдзе, раса вочы выесць.

**Узыходзіць.** Каб такіх часта сеялі, ды рэдка ўзыходзілі.

**Узяцца.** Калі ўзяўся за гуж, не кажы, што не дуж.

Узяўшыся за гуж, не кажы, што не дуж.

**Узяць.** Адкуль сірацe бацьку ўзяць.

Бог даў, бог і ўзяў.

Зяць любіць узяць.

Ішла Хоўра жыта жаць, забылася серп узяць.

Не ўзяў за руку, не кажы <што> злодзей.

Хто палку ўзяў, той і капрал.

**Укарызна.** Сівізна не ўкарызна.

**Украсці.** Хто парася (парасё) украў, у таго ў вушах (увушшу) пішчыць.

**Укрой.** Укрой — не ўдой.

**Укусіць.** Блізка (блізкі) локаць, ды (а) не ўкусіш.

Лістам сцелецца, а ўкусіць цэліцца.

**Улажыць.** Што ўложыць хам, <то> не выме і пан.

**Улезці.** <Калі> улез у дугу, дык не кажы <што> не маху.

**Уляцець.** Першая <чарка> калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць (астатнія паляцяць дробнымі птушачкамі).

**Умарыць.** Хвароба калі не ўморыць, то (дык) скрывіць.



Kamunikat.org

**Умерці** Пі ды еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш.

**Умець.** Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць.

Кожны плача па сваім бацьку, як умее.

Мужык — дурань, як умее, так і пее.

**Упадак.** З хаткі ў хатку, дык на рубель упадку.

**Упадаць.** Хто пад кім яму капае, часта сам у яе ўпадае.

**Упасці.** Ажаніцца — не ўпасці: не ўстанеш, не атрасешся.

Каб (калі б) ведаў, дзе паваліўся (упадзеш), <там, дык, то> саломкі падаслаў бы.

Што з воза ўпала, тое (то) прапала.

**Уперад.** Кінь (кінеш, закінь) наперад (уперад) — знойдзеш ззаду.

**Уперадзе.** Гэта яшчэ (толькі, пакуль) кветачкі, а ягадкі наперадзе (уперадзе, яшчэ будуць).

**Уперці.** Пі ды еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш.

**Ураджай.** Не зважай (не ўважай) на ўраджай, а жыта сей.

**Урадзіцца.** Урадзілася цяля з белаю лапінкаю на лбе, так яно і памрэ.

Уродзіцца цяля з лысінкаю, то і з лысінкаю здохне.

**Уража.** Скачы, уража, як пан кажа.

**Уратаваць.** Вольнаму воля, <а> шалёнаму поле (уратаванаму рай).

**Усе.** Гл. увесь.

**Усё.** Гл. увесь.

**Успамянуць.** Хто старое ўспомніць (успамяне, памяне), таму вока вон.

**Успомніць.** Хто старое ўспомніць (успамяне, памяне), таму вока вон.

**Уставаць.** Хто рана ўстае, таму <і> бог дае.

**Устаць.** Ажаніцца — не ўпасці: не ўстанеш, не атрасешся.

Не кайся, рана ўстаўшы (падняўшыся) і рана жаніўшыся.

Не кайся, што рана ўстаў або маладым ажаніўся.

Раней устанеш — болей зробіш.

**Усюды.** Куды ні кінь, усюды клін.

Усюды добра, а дома лепей.

**Усякі.** На ўсякае чханне не наздароўкаешся.

Усякая будзе гаспадыня, калі <мукі> поўная скрыня.

Усякая птушка сваё гняздо бароніць.

Усякі (кожны) гад чужому грошу рад.

Усякі (кожны) чорт на сваё кола ваду цягне.

Усякі цыган сваю кабылу хваліць.

**Усярэдзіне.** З твару яйка (яйцо), а ўсярэдзіне баўтун.

**Утаіць.** Шыла ў мяшку (у мяху) не схаваеш (не ўтоіш).

**Уткнуць.** Уткні мяне, божа, куды мне не трэба.

**Утрымацца.** Хто не ўтрымаўся за грыву, таму і хвост не паможа.

**Ухапіцца.** Калі (як) топішся, дык (то) за брытву хопішся (ухопішся).

**Ухапіць.** Пайшоў па попел, а чорт ухапіў.

**Уцінаць.** Зброддівай кошцы хвост уцінаюць.

**Уцякаць.** Даюць — бяры, б'юць — уцякай.

Як даюць, то бяры, а як б'юць, то ўцякай.

**Уцячы.** Калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ.

Работа (праца, справа) не воўк, у лес не ўцячэ (не збяжыць, не пабяжыць).

**Фама.** Я яму пра Фаму (пра Кузьму), а ён мне пра Ярому.

**Фурманка.** Не пад'ясі — і залатую фурманку аддасі.



Kamunikat.org

**Фэст.** Дзе фэст, там і я ест.

**Хаваць.** Матка парве пазуху, хаваўшы для дзяцей, а дзеці парвуць пазуху, хаваўшы ад маткі.

**Хада.** Без хлеба яда — да парога хада.

**Хадзіць.** Адна бяда не ходзіць <другую за сабою водзіць>.
Бачна па вочках, хто ходзіць па ночках.
Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так.
Бяда адна не ходзіць <за сабою другую водзіць>.
Ваўкоў (ваўка, воўка) баяцца — у лес не хадзіць.
Дзе хадзіў, там няма.
Задам (назад) толькі ракі поўзаюць (паўзуць, ходзяць).
Каля (ля) вады <ходзячы> намочышся.
Каля мукі ходзячы запылішся.
У грыбы хадзіць і то лепш са шчасцем.
Усе <мы> пад богам ходзім.
Хто позна ходзіць, <той> сам сабе шкодзіць.
Шавец заўсёды <ходзіць> без ботаў.
Шавец у падзёртых ботах ходзіць.
Шчасце адно не ходзіць, бяду за сабою водзіць.

**Халімон.** Калі (як) шанцуе, то (тады) і Халімон танцуе.

**Халодны.** Апёкшыся на малацэ, дык і на халодную ваду дзьмуць будзеш.

**Хам.** Што ўложыць хам, <то> не выме і пан.

**Хамут.** Была б (абы) шыя, <а> хамут знойдзецца.
Вось вам хамут і дуга, <і, а> я вам <болей> не слуга.
Вялікаму каню — вялікі хамут.
Хто <коней> мяняе, у таго хамут гуляе.

**Хапацца.** Тапелец і за саломінку хапаецца.
Як топішся, дык і за саломінку хапаешся.

**Хапаць.** Кабыла (конь) здыхае, а <за> траву хватае (хапае).

**Хапіцца.** Калі (як) топішся, дык (то) за брытву хопішся (ухопішся).
<Той> хто топіцца, <і> за саломінку хопіцца.
Хто топіцца, той за брытву хопіцца.

**Хапіць.** На наш век дурняў хопіць.
Хапіў з дзежкі, аж не бачыць сцежкі.

**Хараство.** З хараства вады не нап'ешся.
Хараство (краса) прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца.

**Харошы.** Лепш пад лаўкай пасядзець, але на харошага паглядзець.
Пень прыбяры, то і пень харошы.

**Харч.** Карова на двары, <дык> і харч на стале.

**Хата.** Без гаспадара гумно плача, а без гаспадыні хата.
Без старога каля хаты — як без сабакі.
Госць на парог — радасць у хату.
Добры гаспадар і сабаку з двара (з хаты) не выганіць у такую нягоду (у такое надвор'е, у такі дзень).
Калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ.
Калі на гумне не малоціцца, тады ў хаце калоціцца.
Калі хата гарыць, не да пацераў.
Мая хата з краю <і я> нічога не знаю.
Не да пацераў, калі хата гарыць.
Не красна хата вугламі, а пірагамі.
Не пі, не еш і з хаты не лезь.
У каго кашаль, той і красен <і ў роце не суха, і ў хаце не глуха>.

Kamunikat.org

У сваёй хаце і качарга маці.
У сваёй хаце (у сваім доме) і вуглы (сцены) памагаюць.
Чым хата багата, тым і рада.
Шэпты хату зводзяць.
Я не я і хата не мая.
Як багаты памрэ, па тры з хаты прэ, а як бедачок — толькі поп ды дзячок.
Як багаты памрэ, то і апошні з хаты прэ, а як бедны худачок — толькі попік ды дзячок.

**Хатка.** Дарагая тая хатка, дзе радзіла (нарадзіла) мяне матка.
Дзеткі падраслі, хатку раздраві.
З хаткі ў хатку, дык на рубель упадку.
Няма той хаткі, дзе б (каб) не было звадкі.

**Хацець.** І рыбы не хачу, і адзежкі не змачу.
Хацела б душа ў рай, ды грахі не пускаюць.
Хацеў бы ў рай, ды грахі не пускаюць.
Хочаш многа знаць, трэба мала спаць.
Хто як хоча, так па свайму бацьку плача.

**Хвала.** Адзін з'еш хоць вала, <дык> адна хвала <а пакрысе, ды ўсе>.

**Хваліць.** Аржаная каша сама сябе хваліць.
<І> бога хвалі і чорта не гняві.
Кожны кулік сваё балота хваліць.
Кожны старац сваю торбу хваліць.
Кожны (усякі) цыган сваю кабылу хваліць.
Любіць аржаная каша сама сябе хваліць.
Не хвалі каня запрагаючы, а дзеўку выбіраючы.
Старога хвалі, ды з двара гані.
Хвалі каня пасля дарогі, а пана — як выцягнуў ногі.

**Хвароба.** Спроба не хвароба.
Хвароба калі не ўморыць, то (дык) скрывіць.
Хвароба — мігрэнь: жраць ахвота, а працаваць лень.
Хвароба <нікога> не красіць.

**Хватаць.** Кабыла (конь) здыхае, а <за> траву хватае (хапае).

**Хвост.** Адну карову мае і тую за хвост падымае.
Збродлівай кошцы хвост уцінаюць.
Пашкадаваў воўк кабылу <пакінуў хвост ды грыву>.
Пень гарэў, а чорт хвост пагрэў.
Сарока на хвасце прынесла.
Сем гадоў нявестка жыла, а не ведала, што сучка свёкрава без хваста.
Сем гадоў нявестка жыла замужам і не ведала, што ў свёкра сучка без хваста.
Хто не ўтрымаўся за грыву, таму і хвост не паможа.

**Хітрасць.** Хітрасцю свет пройдзеш, а назад не вернешся.

**Хітры.** Дурная справа не хітрая.
Мужык глядзіць, як варона, а хіцер, як чорт.
Хіцер Зміцер, але (ды) і Саўка не дурань (не дурны).
Хіцёр Зміцер, ды і Саўка не дурны.

**Хлеб.** Без хлеба яда — да парога хада.
Галоднай куме хлеб (сыр) наўме.
Галоднаму не спіцца, калі хлеб сніцца.
Горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі.
Дажыліся (дажылі) казакі (палякі), <што> ні хлеба, ні табакі.
Дасць бог дзень, дасць і полудзень (хлеб, ежу, пажытак).
Едзеш на дзень, бяры хлеба на тыдзень.



Kamunikat.org

Ёсць хлеб — ядзім, а няма — глядзім, сёння паабедаем, а як заўтра — не ведаем.

Жывём, хлеб жуём.

Калі хлеб у возе, то няма бяды ў дарозе.

Не хлебам адзіным жыве чалавек.

Пакуль <у (на) гумне> цэп, патуль (датуль) <на стале> хлеб.

Прымачы хлеб — сабачы.

У музыкі хлеб невялікі, а спявакі маюць ніякі.

Хлеб на стале — рукі свае.

Хлеб-соль еш, а праўду рэж.

Ядзім хлеб траякі: чорны, белы і ніякі.

**Хлеў.** Даў бог цяля, ды не даў хлява.

Прыйшлі пакровы — заганяй у хлеў каровы.

**Хлусня.** Лепш (лепей) горкая праўда, чым салодкая мана (хлусня).

**Хмара.** З вялікае хмары малы дождж.

**Хомка.** Па Хомку <і> шапка.

Які <чорт> Хомка, такая яго жонка.

**Хоўра.** Ішла Хоўра жыта жаць, забылася серп узяць.

**Храбрасць.** Храбрасць гарады бярэ.

**Хрысціцца.** Калі здаецца, дык (то) трэба хрысціцца.

**Хрэн.** Хрэн за рэдзьку не саладзейшы.

**Хто.** Ведаў бог, каму не даў рог.

Гадуй, мядзведзь, дзеці, каб было за кім сядзеш.

<Добра> смяецца той, хто смяецца апошні.

Ехаўшы бачком, ні з кім не зачэпішся.

Жывём (жыву) як <той> гарох пры дарозе — хто ідзе, той і скубе.

З кім жыць, таго не гнявіць.

З кім павядзешся, ад таго <і> набярэшся.

Злодзею адна дарога, а хто шукае, таму многа.

І баран бы касіў, каб хто касу насіў.

Камедыя, хто не ведае, а хто і ведае, дык усе роўна камедыя.

Каму вайна, а каму военка.

Каму густа, <а> каму пуста.

Каму кірмаш, а каму жыццё нямаш.

Каму шанцуе (пашанцуе), той і ў лапцях танцуе.

Каму што, а Базылю аладкі.

Каму што, а свінні месіва.

На каго бог, на таго і людзі.

Не дурань, хто маўчыць.

Не той друг, што мёдам мажа, а той, хто праўду ў вочы кажа.

Не той піва п'е, хто варыць.

Ніхто не ведае, як хто абедае.

Скажы мне, з кім ты знаёмы, і я скажу, хто ты.

Скажы <мне>, хто твае сябры (твой сябра, твой друг), <і> я скажу, хто ты.

<Той> хто топіцца, <і> за саломінку хопіцца.

У каго грошы, у таго і розум.

У каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца.

У каго кашаль, той і красен <і ў роце не суха, і ў хаце не глуха>.

У каго сем — тым і доля ўсем, а ў каго адно — і тое не ладно.

Хто апарыцца на малацэ, той і на ваду дзьмухае.

Хто б дзятла пазнаў (ведаў), каб не яго <доўгі> нос.

Хто глядзіць вокам, той не пойдзе бокам.

Хто дбае, той і мае.



Kamunikat.org

Хто дужшы, той прутшы.
Хто заб’е бабра, не будзе мець дабра.
Хто каго любіць, той таго і чубіць.
Хто капейкі не беражэ, таго рубель баіцца.
Хто <коней> мяняе, у таго хамут гуляе.
Хто лепшага не мае, таму і гэта добра.
Хто любіць папа, хто пападдзю, хто папову дачку.
Хто мажа, той і едзе.
Хто на чым сядзіць, той таго і глядзіць.
Хто не нараджаецца, той не памірае.
Хто не працуе (не робіць), той не есць.
Хто не ўтрымаўся за грыву, таму і хвост не паможа.
Хто <нічога> не робіць, той не памыляецца.
Хто новага не бачыў, той старому рад.
Хто пад кім яму капае, часта сам у яе ўпадае.
Хто палку ўзяў, той і капрал.
Хто парася (парасё) украў, у таго ў вушах (увушшу) пішчыць.
Хто па ядзе (пад’еўшы) не аддыша, таго бог за свінню запіша.
Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку.
Хто позна ходзіць, <той> сам сабе шкодзіць.
Хто пытае, той не блудзіць.
Хто рана ўстае, таму <і> бог дае.
Хто робіць, той і мае.
Хто сее (пасее) вецер, той пажне буру.
Хто спіць, <дык> той не грашыць (не грэшыць).
Хто старое ўспомніць (успамяне, памяне), таму вока вон.
Хто топіцца, той за брытву хопіцца.
Хто ў боб, <а> хто ў гарох <а хто (ты) у сачыўку>.
Хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар.
Хто чужога не шкадуе, той свайго не мае.
Хто шукае, той знаходзіць.
Хто языком штурмуе, не шмат наваюе.
Хто як хоча, так па свайму бацьку плача.
Што каму рупіць, <то> той тое (пра тое) і жупіць.
Што каму суджана, <дык і пехатой> таго не абойдзеш і <з канём> не аб’едзеш.
Што ў каго (каму) баліць, той пра тое (аб тым) і гаманіць (гаворыць, крычыць).

**Худачок.** Як багаты памрэ, то і апошні з хаты прэ, а як бедны худачок — толькі попік ды дзячок.

**Худы.** Калі худ, не лезь на кут.
Пакуль сыты пахудзее, дык худы памрэ.

**Хуста.** На чужыя вусны не накінеш хусты.

**Хутка.** Будзеш усё ведаць, хутка (скора) пастарэеш (састарышся, стары зробішся).

**Цаляць.** Цаляеш у варону, а пападаеш у карову.

**Цар.** Да бога высока, да цара (да пана) далёка.
У сваім стане і прыстаў цар.

**Царква.** Дзе поп царкву ставіць, там лан карчму ладзіць.
Дурня і ў царкве б’юць.

**Цаца.** Цаца-цаца, ды ў кішэнь.

**Цацанка.** Абяцанка-цацанка, а дурню радасць.

**Цвет.** Такога цвету па ўсяму свету.



kamunikat.org

**Цвярозы.** Што ў цвярозага ў галаве (на розуме), то (тое) у п’янага на языку.

**Цела.** Свая кашуля (сарочка, рубашка) бліжэй да цела.

У здаровым целе — здаровы дух.

Чужы кажух цела не грэе.

**Церабіць.** Ранні зайчык зубкі цярэбіць, а позні вочкі прадзірае.

Ранняя птушка (птушачка, пташачка) зубкі (крылкі) цярэбіць, а позняя вочы працірае.

**Цесля.** Каб не клін ды не мох, дык (то і) цясляр (цесля, плотнік) бы падох (здох).

**Цесна.** Дзе цесна, там пацешна.

**Цесната.** У цеснаце, <ды> не ў крыўдзе.

**Цешыцца.** Мільыя сварацца — толькі цешацца.

Цешыўся старац, што наражыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю.

Чым бы дзіця не цешылася, абы (толькі б) не плакала.

**Цёлка.** З якой лысінкай цёлка нарадзілася, з такой і здохне.

**Цёмны.** Чужая старана — цёмны лес.

**Цётка.** Голад не цётка.

Чакай, цётка, Пятра — будзеш сыр есці.

**Ціха.** Ад ліха ціха, а дабра не чуваць.

Еду ціха — са мной ліха, еду скора — са мной гора.

Не дражні ліха, пакуль ціха.

Не чапай ліха, калі спіць ціха.

**Ціхі.** У ціхай вадзе чэрці водзяцца.

У ціхім балоце чэрці водзяцца (вядуцца).

Ціхая вада берагі мые.

Ціхая вада грэблю рве.

Ціхая свіння глыбока рые (капае).

Ціхая свіння глыбокі корань рые.

**Цішком.** На воўка памоўка, а мядзведзь цішком.

**Цішэй.** Цішэй едзеш — далей будзеш.

**Цыган.** За кампанію <і> цыган павесіўся.

Кожны (усякі) цыган сваю кабылу хваліць.

**Цыганскі.** Абыдзецца без марцыпанаў цыганскае вяселле.

**Цэбар.** Вясною вядро (кораб, цэбар) вады, а лыжка гразі, а восенню лыжка вады, а вядро (кораб, цэбар) гразі.

**Цэліцца.** Лістам сцелецца, а ўкусіць цэліцца.

**Цэп.** Брахаць — не цэпам махаць.

Пакуль <у (на) гумне> цэп, патуль (датуль) <на стале> хлеб.

**Цябе** Гл. ты.

**Цягаць.** Цягаў (цягнуў) воўк, пацягнулі і воўка.

**Цягнуць.** Воўчы дух (воўчае насенне) да лесу цягне.

Каторы конь цягне, таго і паганяюць.

Пан за пана цягне (верне).

Усякі (кожны) чорт на сваё кола ваду цягне.

Цераз сілу і конь не цягне.

Цягаў (цягнуў) воўк, пацягнулі і воўка.

Чорт за чортам (за д’ябла) цягне.

Як ваўка ні кармі, а яго ў лес цягне.

Як воўка ні кармі, а яго ў лес цягне.

**Цяжка.** Горка рэдзька, ды ядуць, цяжка (дрэнна, ліха) замужам, ды ідуць.

**Цяжкі.** Свая сярмяжка не цяжка.



Kamunikat.org

**Цяліцца.** Карова целіцца, а ў быка зад баліць.

**Цяля.** Бог не цяля, бачыць (пазнае) круцяля.

Дай божа (бог) нашаму цяляці ваўка (воўка) спаймаці (з'есці).

Даў бог цяля, ды не даў хлява.

Ліслівае (ласкавае, пакорнае) цяля (цялятка) дзвюх матак (дзве маткі) ссе.

Лысае цялятка і здохне з лысінкай.

Чые бычкі ні былі б, абы нашы цяляткі.

**Цянёк.** Цянькі адбіраюць дзянькі.

**Цяпер.** Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так.

Дзе быў (хадзіў), там <цяпер, ужо> няма.

**Цяпло.** Гракі цяпла не прыносяць.

Жаваранак прылятае на праталіну, шпак на прагаліну, жораў з цяплом, а ластаўка з лістом.

**Цярпець.** Бог цярпеў і нам вялеў.

Цярпі, Грышка, карчма блізка.

Цярпі, казак, атаманам будзеш.

**Цясляр.** Каб не клін ды не мох, дык (то і) цясляр (цесля, плотнік) бы падох (здох).

**Цячы.** Калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ.

Пад ляжачы камень вада не цячэ (не пацячэ, не бяжыць, не пабяжыць).

Усё цячэ, усё мяняецца (змяняецца).

**Чаго[1]**. Чаго ж бы плакаў слеп, каб бачыў свет (след).

**Чаго[2].** Гл. што.

**Чакаць.** Абяцанага тры гады чакаюць.

Няма горш, як даганяць і чакаць.

Сямёра аднаго не чакаюць.

Чакай, баба, Пятра — будзеш сыр есці.

Чакай Пятра — сыр (сыру) з'ясі.

Чакай, цётка. Пятра — будзеш сыр есці.

Чакаць і даганяць горш за ўсё.

**Чалавек.** Гара з гарой не сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсёды.

Каб ведаў чалавек, дзе спатыкнецца, то пераступіў бы тое месца.

Курыца не птушка, а баба не чалавек.

На бязлюддзі і поп чалавек.

Не будзь ні войтам, ні панам — не будзеш чалавекам паганым.

Не кручаны — не рэмень (не рамень), не вучаны — не чалавек.

Не хлебам адзіным жыве чалавек.

Працу палюбіш — чалавекам будзеш.

Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей (лепей, лепш).

Старасць нікога (чалавека) не красіць.

Трэба пуд солі з'есці, каб пазнаць чалавека.

Чалавек на гару, а чорт за нагу.

Чалавек не арэх, адразу не раскусіш.

Чалавек невучоны як (што) тапор нетачоны.

Чалавек страляе, а чорт кулю носіць.

Як няма рыбы без косці, так і няма чалавека без злосці.

**Чалавечак.** Добраму чалавечку добра і ў запечку <а благой (якой) благаце дрэнна і на куце>.

**Чаму.** Гл. што.

**Чапаць.** Не чапай ліха, калі спіць ціха.

Kamunikat.org

Не чапай ліха, пакуль спіць.
Не чапай нічога і не бойся нікога.

**Чарада.** <Адна> паршывая (шалудзівая, паганая) авечка (аўца) увесь статак (гурт, усю чараду) псуе (сапсуе).

**Чарапок.** Ганчар гаршкі лепіць, а сам у чарапку <есці> варыць.

**Чарка.** Брыгадзір капейкі не варт, калі чарцы рад.
Першая <чарка> калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць (астатнія паляцяць дробнымі птушачкамі).
Свату першая чарка і першая палка.

**Час.** Апетыт прыходзіць у час (у часе) яды.
Будзе час — будзе і квас.
Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі (нядобры) памаўчаць.
Кожны па часе мае розум.
Час — найлепшы (самы лепшы, добры, вялікі) доктар (лекар).
Усяму свой час.

**Часам.** Горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі.

**Часамі.** З вялікага грому <часамі, заўсёды> малы дождж <бывае>.

**Часнок.** Як не ела душа часнаку, пахнуць не будзе.

**Часта.** Каб такіх часта сеялі, ды рэдка ўзыходзілі.
Хто пад кім яму капае, часта сам у яе ўпадае.

**Чатыры.** Бойся быка спераду, каня ззаду, а дурня — з усіх чатырох бакоў.
Конь на чатырох нагах <і то> спатыкаецца.
У каня чатыры нагі, і той спатыкаецца.

**Чорны.** Ядзім хлеб траякі: чорны, белы і ніякі.

**Чорт.** Багатаму і чорт у кашу дбае.
Багатаму чорт дзяцей калыша.
Было б балота, а чэрці знойдуцца.
Дзе чорт <сам> не зможа (не можа), туды (там) бабу пашле.
Займі чорта ад варот, дык ён цераз плот.
<І> бога хвалі і чорта не гняві.
Мужык глядзіць, як варона, а хіцер, як чорт.
Не будзе Гірша (-ы), <дык> будзе чорт іншы.
Не такі (не так) чорт страшны, як яго малююць.
Пайшоў па попел, а чорт ухопіў.
Пакуль да бога, дык (то, так) чорт душу выме.
Пень гарэў, а чорт хвост пагрэў.
Першая жонка ад бога, другая ад людзей, а трэцяя ад чорта.
Поп сваё, <а> чорт сваё.
Сава не родзіць (не прывядзе) сакала <а такога ж чорта, як сама>.
Сівізна ў бараду, а чорт у рабрыну.
Ты на гару, а чорт за нагу.
У айчыма чэрці пад вачыма.
Усе чэрці адной шэрсці.
Усякі (кожны) чорт на сваё кола ваду цягне.
У ціхай вадзе чэрці водзяцца.
У ціхім балоце чэрці водзяцца (вядуцца).
У чорта спіна сцёрта.
Чалавек на гару, а чорт за нагу.
Чалавек страляе, а чорт кулю носіць.
Чорт бяду перабудзе — адна згіне, дзесяць будзе.
Чорт за чортам (за д'ябла) цягне.
Чорт не адны лапці (не адну пару лапцей) стаптаў, пакуль (покуль) такую пару дабраў (сабраў).
Чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль пару дабраў.



Kamunikat.org

Чорт чорта пазнаў і на піва (у госці) пазваў.
Чым чорт не араў, тым <і> сеяць не стаў (не будзе).
Чым чорт не жартуе, калі (пакуль) бог спіць.
Які <чорт> Хомка, такая яго жонка.

**Чуб.** Калі пайшоў у бойку, дык чуба не шкадуй.
Паны б'юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць.

**Чубіць.** Хто каго любіць, той таго і чубіць.

**Чуваць.** Ад ліха ціха, а дабра не чуваць.
Добрае далёка чуваць.
Добрае далёка чуваць, а дрэннае яшчэ далей.

**Чужы.** З чужога воза і сярод гразі (броду) злазь (злазяць, злезеш).
Ласы на чужыя прыпасы (каўбасы).
На чужой старане і жук мяса <і старая баба — маладзіца>.
На чужой старонцы рад сваёй варонцы.
На чужы каравай рота (рот) не разяўляй (не разявай).
На чужы лоб сягаючы (шыбаючы), трэба і свой падставіць (наставіць).
На чужы рот гузіка не нашыеш.
На чужы рот (язык) замок не навесіш (не павесіш).
На чужыя вусны не накінеш хусты.
Не руш чужога і не бойся нікога.
Розуму ў чужую галаву лапатай не накладзеш.
Усякі (кожны) гад чужому грошу рад.
У чужой старонцы не так свеціць сонца.
У чужым воку саломку (саломінку) бачым, а ў сваім <і> бервяна не заўважаем.
У чужых руках пірог вялік.
Хто чужога не шкадуе, той свайго не мае.
Чужая болька (рана) не баліць.
Чужая старана — мачаха.
Чужая старана — цёмны лес.
Чужая яечня не вечна.
Чужое дабро не грэе.
Чужое ўсё смачней.
Чужую бяду рукамі (і пальцам) развяду.
Чужы дурань — смех, свой дурань — сорам.
Чужы кажух цела не грэе.
Чужымі рукамі жар заграбаць лёгка (добра).

**Чупрына.** Пайшоў у бойку, чупрыны не шкадуй.

**Чутка.** Чуткамі зямля поўніцца.

**Чуць.** Чуў, кум, сонца, бачыў гром?

**Чханне.** На ўсякае чханне не наздароўкаешся.

**Чый.** Ведае (знае) кошка, чыё сала з'ела.
На чыім возе (вазку, коніку) едзеш, таму і песню (песеньку, песенькі) спявай (пей, вядзі).
Чыя б кароўка (карова) мычала, а твая (чыя) б маўчала (памаўчала).
Чые бычкі ні былі б, абы нашы цяляткі.

**Чым.** Гл. што.

**Чыніць.** Запас бяды не чыніць.

**Чысты.** Бруднае (паганае) да чыстага не прыстае (не прыстане).
Прыйшла Прачыстая — усё поле чыстае.

**Чых.** На кожны чых (на ўсякае чханне) не наздароўкаешся (не павітаешся).



Kamunikat.org

**Шавец.** Шавец заўсёды <ходзіць> без ботаў.
Шавец у падзёртых ботах ходзіць.

**Шалаш.** З мілым (з любым) рай і ў шалашы (у будане).
Міласці прашу к нашаму шалашу.

**Шалёны.** Вольнаму воля, <а> шалёнаму поле (ўратаванаму рай).

**Шалудзівы.** З шалудзівай авечкі хоць шэрсці клок.
Пасмяяўся шалудзівы з (каля) пляшывага.
Шалудзівая авечка ўвесь статак псуе.

**Шанаваць.** Шануй каня дома, а ён цябе ў дарозе.

**Шанцаваць.** Калі (як) шанцуе, то (тады) і Халімон танцуе.
Каму шанцуе (пашанцуе), той і ў лапцях танцуе.
Плакаў, плакаў, а бог быў аднакаў, пачаў танцаваць, пачало шанцаваць.

**Шапка.** На злодзеі шапка гарыць.
Па Сеньку (па Хомку) <і> шапка.

**Шкада.** Багатаму шкада (шкода) карабля, а беднаму — кашаля.
Гадка (гідка) з'есці і шкада кінуць.

**Шкадаваць.** Калі пайшоў у бойку, дык чуба не шкадуй.
Пайшоў у бойку, чупрыны не шкадуй.
Хто чужога не шкадуе,той свайго не мае.

**Шкода[1].** Мужыку розум прыходзіць па шкодзе.

**Шкода[2].** Багатаму шкада (шкода) карабля, а беднаму — кашаля.

**Шкодзіць.** Воўк каля (паблізу) свайго логава не бярэ (не шкодзіць).
Хто позна ходзіць, <той> сам сабе шкодзіць.

**Шкурка.** Варта шкурка вырабу.
Не варта шкурка вырабу.

**Шлюб.** Шлюб <быў> пад плотам, а вяселле потым.

**Шляхта.** Ці свінні елі, ці шляхта папасвалася (папаску мела).

**Шмат.** Хто языком штурмуе, не шмат наваюе.

**Шпак.** Жаваранак прылятае на праталіну, шпак на прагаліну, жораў з цяплом, а ластаўка з лістом.

**Што.** Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.
Было што піць і есці, але прынукі не было.
Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзець
Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа — не дай божа.
За што купіў, за тое <і> прадаю.
Каму што, а Базылю аладкі.
Каму што, а свінні месіва.
На табе, божа (нябожа), што нам (мне) нягожа.
Не адзін Гаўрыла <што> у Полацку.
Не бойся таго сабакі, што брэша, а бойся таго, што лашчыцца.
Не той друг, што мёдам мажа, а той, хто праўду ў вочы кажа.
Не ўздыхай, чаго няма, то няхай.
Не ўсё тое золата, што блішчыць.
Ніколі не адкладвай на заўтра, што можна зрабіць сёння.
Няма нічога тайнага (патайнага), каб не стала (што не стала б, каб не было) яўным.
Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра.
Хто на чым сядзіць, той таго і глядзіць.
Чаму быць, таго не мінаваць.
Чым багаты, тым і рады.
Чым бы дзіця не цешылася, абы (толькі б) не плакала.
Чым хата багата, тым і рада.

Kamunikat.org

Чым чорт не араў, тым <і> сеяць не стаў (не будзе).

Чым чорт не жартуе, калі (пакуль) бог спіць.

Што <будзе> міру, тое (то) і бабінаму сыну.

Што будзе, тое (то) будзе, <а> Саўка (Грышка) на куце не будзе.

Што было, тое (то) сплыло.

Што задужа (занадта), то (тое) не здрова (не здарава).

Што з воза ўпала, тое (то) прапала.

Што каму рупіць, <то> той тое (пра тое) і жупіць.

Што каму суджана, <дык і пехатой> таго не абойдзеш і <з канём> не аб’едзеш.

Што напішаш (напісана) пяром, <то> не вырубіш (не высечаш) тапаром.

Што пасееш, тое і пажнеш.

Што ў каго (каму) баліць, той пра тое (аб тым) і гаманіць (гаворыць, крычыць).

Што ўложыць хам, <то> не выме і пан.

Што ў цвярозага ў галаве (на розуме), то (тое) у п’янага на языку.

Што (чаго) не ясі, <таго> у рот не нясі.

**Штурмаваць.** Хто языком штурмуе, не шмат наваюе.

**Шукаць.** Ад дабра дабра не шукаюць.

Злодзею адна дарога, а хто шукае, таму многа.

Не шукай бяды, яна <сама> цябе знойдзе.

Не шукаючы не знойдзеш.

Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей (лепей, лепш).

Хто шукае, той знаходзіць.

Шукай жонку ў гародзе, а не ў карагодзе.

**Шум.** Забілі зайца не забілі, а гуку (шуму) многа нарабілі.

**Шумець.** Маладое піва заўсёды шуміць.

**Шчанюк.** Маленькі сабачка да старасці шчанюк (шчаня).

**Шчаня.** Маленькае сучачка заўсёды шчаня.

Маленькі сабачка да старасці шчанюк (шчаня).

**Шчасны.** Не радзіся красны, а радзіся шчасны.

**Шчасце.** Бог не без літасці, казак не без шчасця.

У грыбы хадзіць і то лепш са шчасцем.

Шчасце адно не ходзіць, бяду за сабою водзіць.

**Шчупак.** На тое і шчупак у моры (у вадзе), каб карась не драмаў.

**Шчэпка.** І за шчэпку знойдзе прычэпку.

**Шыбаць.** На чужы лоб сягаючы (шыбаючы), трэба і свой падставіць (наставіць).

**Шыла.** Шылам кісялю не схваціш (не схопіш).

Шылам мора не нагрэеш.

Шыла ў мяшку (у мяху) не схаваеш (не ўтоіш).

**Шыя.** Была б (абы) шыя, <а> хамут знойдзецца.

**Шэльма.** Бог шэльму меціць.

**Шэпт.** Шэпты хату зводзяць.

**Шэрсць.** З паршывай (шалудзівай) авечкі хоць шэрсці (воўны, поўсці) клок (касмык).

Усе чэрці адной шэрсці.

**Шэры.** Ноччу (поначы) усе каты (кошкі) шэрыя.

**Юр’я.** Як на грамніцы нап’ецца певень вадзіцы, дык на Юр’я наесца вол травіцы.

**Я.** Без мяне мяне жанілі (ажанілі) <мяне дома не было>.

Вось вам хамут і дуга, <і, а> я вам <болей> не слуга.

Kamunikat.org

Дарагая тая хатка, дзе радзіла (нарадзіла) мяне матка.

Два вякі я жыць не збіраюся.

Дзе фэст, там і я ест.

Еду ціха — са мной ліха, еду скора — са мной гора.

За маё жыта ды мяне і пабіта.

<І> я не я і кабыла не мая.

Мая хата з краю <і я нічога не знаю>.

На табе, божа (нябожа), што нам (мне) нягожа.

Не мне казаць, не табе слухаць.

Не я першы, не я апошні.

Скажы мне, з кім ты знаёмы, і я скажу, хто ты.

Скажы <мне>, хто твае сябры (твой сябра, твой друг), <і> я скажу, хто ты.

Служка ў лапцях, а я (пан) босы.

Уткні мяне, божа, куды мне не трэба.

Я не музыкант (не арганіст), не перабіраю.

Я не я і хата не мая.

Я яму пра Фаму (пра Кузьму), а ён мне пра Ярому.

**Яблык.** Вочы па яблыку, <а> галава з арэх.

Яблык ад яблыні далёка не адкоціцца.

Яблык ад яблыні недалёка падае (коціцца).

**Яблыня.** Яблык ад яблыні далёка не адкоціцца.

Яблык ад яблыні недалёка падае (коціцца).

**Ягадка.** Гэта яшчэ (толькі, пакуль) кветачкі, а ягадкі наперадзе (уперадзе, яшчэ будуць).

**Яда.** Апетыт прыходзіць у час (у часе) яды.

Без хлеба яда — да парога хада.

Хто па ядзе (пад'еўшы) не аддыша, таго бог за свінню запіша.

**Ядок.** Што гадок, то і ядок (сынок).

**Ядома.** Дома і салома ядома.

**Яечня.** Чужая яечня не вечна.

**Язык.** Еш пірог (боршч) з грыбамі, а язык трымай за зубамі.

Карову б'юць за зык, а бабу за язык.

Людзям языка (языкоў) не завяжаш.

Людскога языка не завяжаш.

Малако ў каровы на языку.

Млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе.

На чужы язык замок не навесіш.

Хто языком штурмуе, не шмат нваюе.

Што ў цвярозага ў галаве (на розуме), то (тое) у п'янага на языку.

Язык без касцей.

Язык да Кіева давядзе.

Язык мой — вораг мой.

**Яйка.** З твару яйка (яйцо), а ўсярэдзіне баўтун.

Яйкі курыцу вучаць.

**Яйцо.** З твару яйка (яйцо), а ўсярэдзіне баўтун.

Яйцо курыцы не вучыць.

Яйцо (яйка) курыцу вучыць.

**Як.** Ніхто не ведае, як хто абедае.

Як ваўка ні кармі, <а> ён у лес глядзіць.

Як воўка ні кармі, а яго ў лес цягне.

Як вяровачцы ні віцца, а канцу паявіцца.

**Які.** Добраму чалавечку добра і ў запечку <а благой (якой) благаце дрэнна і на куце>.



Kamunikat.org

З якой лысінкай цёлка нарадзілася, з такой і здохне.
Якая заслуга, такая і пашана.
Якая птушка, такое і гняздзечка.
Які б ні быў Панцялей, а жыць весялей.
Які дуб, такі і тын, які бацька, такі і сын.
Які куст, такі і адростак.
Які <чорт> Хомка, такая яго жонка.
Якія самі, такія і сані.
Якое дрэва, такі <і> клін, які бацька, такі <і> сын.
Якое карэнне, такое і насенне.
Якое семя, такое і племя.

**Яма.** Не капай другому яму, сам у яе ўвалішся.
Хто пад кім яму капае, часта сам у яе ўпадае.

**Ямка.** Жывы (жывым) у зямлю (у магілу, у ямку) не палезеш (не ляжаш).

**Яна.** Горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі.
Не капай другому яму, сам у яе ўвалішся.
Не шукай бяды, яна <сама> цябе знойдзе.
Пусці свінню пад стол, то яна захоча і на стол.
Свінні не да парасят, калі яе смаляць.
Скажы курыцы, дык яна па ўсёй вуліцы.
Хто пад кім яму капае, часта сам у яе ўпадае.

**Янка.** Янка ківае на Петруся, а Пятрусь на Янку.

**Яно.** Урадзілася цяля з белаю лацінкаю, так яно і памрэ.

**Яны.** Дурняў не аруць, не сеюць, яны самі родзяцца.
Трапіў у вараны, крычы, як яны.

**Ярома.** Я яму пра Фаму (пра Кузьму), а ён мне пра Ярому.

**Ясны.** Ласкавае слова што дзень ясны (веснавы).

**Яўмень.** Веру Яўменю, а грошы кладзі ў кішэню.

**Яўны.** Няма нічога тайнага (патайнага), каб не стала (што не стала б, каб не было) яўным.

**Яшчэ.** Адна галава добра, а дзве <яшчэ> лепш (лепей).
Гэта яшчэ (толькі, пакуль) кветачкі, а ягадкі наперадзе (уперадзе, яшчэ будуць).
Добрае далёка чуваць, а дрэннае яшчэ далей.
Добрая слава далёка ідзе, а кепская (ліхая) яшчэ далей <ляціць>.
Паранены звер страшны (яшчэ больш небяспечны).
Яшчэ той не радзіўся, каб усяму свету згадзіўся.

Kamunikat.org

ЗМЕСТ



Даведачнае выданне
Лепешаў Іван Якаўлевіч
Якалцэвіч Марыя Антонаўна

СЛОЎНІК БЕЛАРУСКІХ ПРЫКАЗАК

Загадчык рэдакцыі *І.Д Сіпакоў*
Рэдактары: *А. А. Грачанікава, Г. І . Давідава, Т. Я. Жэбіт, Т. А. Меляшкевіч*
Мастак *В. І. Каламіец*
Тэхнічны рэдактар *М.І.Грыневіч*
Карэктары: *В. І. Багдановіч, Л. С. Зіза, Г. Дз. Навіцкая, З. К. Надумовіч, А. В. Семенчукова, Л. В. Суцягіна, Т. П. Шыпінская*
Камп'ютэрная падрыхтоўка выдання:
*С. А. Макаёнак* (заг. рэдакцыі),
*СА.Выткаўшая, ЛУ.Гурыновіч, І.У.Грыцэль, Н.М.Зубкевіч*

Падпісана да друку з арыгінал-макета 15.02.96. Фармат 84х108 $^{1}/_{32.}$ Папера газетная. Гарнітура тып Таймс. Друк афсетны. Ум.друк. арк. 18,48. Ум. фарб.-адб. 18,48. Ул.-выд. арк. 28,51. Тыраж 6000 экз. Заказ 124.

Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія № 10. Рэспубліка Беларусь, 220072, г.Мінск, вуд. Ф.Скарыны, 15а.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я.Коласа. Рэспубліка Беларусь, 220005, г.Мінск, вул. Чырвоная, 23